## Веру ў святы Каталіцкі Касцёл

*Касцёл не там, дзе арганізуюць, рэфармуюць, кіруюць, але перадусім у тых, хто проста верыць і прымае ў Касцёле дар веры, якая становіцца для іх жыццём. Толькі той, хто спазнаў, як за чаргованнем сваіх служыцеляў і сваіх формаў Касцёл падтрымлівае людзей, дае ім надзею, дае тую айчыну, якая ёсць надзеяй, — шлях да вечнага жыцця, — толькі той, хто спазнаў гэта, ведае, чым ёсць Кацёл, калісьці і сёння.*

З кнігі Ёзафа Ратцынгера «Уводзіны ў хрысціянства».



у нумары 1/2013
НАША ВЕРА

# ЗВАРОТ АРЦЫБІСКУПА ТАДЭВУША КАНДРУСЕВІЧА

## да духавенства і вернікаў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў сувязі з рашэннем папы Бэнэдыкта XVI аб сыходзе з пасады Наступніка святога Пятра

Глыбокапаважаныя браты ў святарстве, кансэкраваныя асобы, народ верны!

Сусветнай навіной нумар адзін стала заява папы Бэнэдыкта XVI, якая была зроблена 11 лютага 2013 года, аб рашэнні скласці з сябе паўнамоцтвы Наступніка святога Пятра ў сувязі са станам здароўя. Згодна з воляй Пантыфіка, яно ўступіць у сілу 28 лютага гэтага года. Такое рашэнне, свабодна прынятае і публічна абвешчанае пасля малітвы і доўгіх разважанняў, адпавядае нормам Кананічнага Права Каталіцкага Касцёла.

Хаця яно стала вялікай нечаканасцю, тым не менш мы павінны прыняць з павагай і пашанай такі адважны выбар Папы. Гэтым рашэннем Папа Ратцынгер паказаў усяму свету, што яго заданнем было і застаецца служыць Касцёлу, а не валадарыць. Такі адказны і нават рэвалюцыйны крок, несумненна, будзе мець вялікі ўплыў на будучыню Касцёла.

Амаль што восем гадоў Пантыфікату Бэнэдыкта XVI прадстаўляюць яго асобу як зззяючы светач у духоўнай цемры поўнага выклікаў сучаснага свету. Ён пераходзіць у гісторыю не толькі як выдатны наступнік Вялікага Яна Паўла II, але і як непахісны абаронца хрысціянскай веры і яе чысціні, як голас сумлення сучаснага дэмаралізаванага свету, як нястомны прыхільнік міжхрысціянскага і міжрэлігійнага дыялогу, як барацьбіт за мір у свеце, як вялікі тэолаг і клапатлівы пастыр, які ахвярна і адважна вёў лодку Пятра па бурлівым акіяне нашага часу, мужна абвяшчаючы ўніверсальнае пасланне Евангелля як пасланне надзеі нават насуперак надзеі (пар. Рым 4, 18).

Сёння мы дзякуем Богу за дар папы Бэнэдыкта XVI і самому Пантыфіку за яго служэнне народу Божаму, якое стала благаслаўленнем для Касцёла, у тым ліку і на Беларусі, бо ён сапраўды жадаў і далей жадае дабра і поспеху нашай Бацькаўшчыне. Упэўнены, што яго глыбокае навучанне, а таксама прыклад сціпласці і служэння будуць натхняць наступныя пакаленні.

У гэты гістарычны і вельмі адказны час жыцця Касцёла заклікаю ўсіх вас да малітвы ўдзячнасці Богу за ахвярнае служэнне папы Бэнэдыкта XVI і духоўнай еднасці з ім.

Міласцівы і добры Божа, праз пасрэдніцтва Божай Маці благаслаўляй і далей твайго вернага слугу папу Бэнэдыкта XVI, адары яго сваімі дарамі і добрым здароўем, каб ён яшчэ доўга і плённа служыў Касцёлу і свету.

*Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі*

*Мінск, 12 лютага 2013 г.*

# «Паставіць Бога ў цэнтр нашага жыцця…»

У самыя важныя моманты жыцця трэба ўсведамляць, што мы становімся перад пытаннем: хочам ісці за сабою ці за Богам? На гэта звярнуў увагу Бэнэдыкт XVI у сваім разважанні перад традыцыйнай нядзельнай малітвай «Анёл Панскі», якая адбылася 17 лютага на плошчы св. Пятра. Святы Айцец заклікаў вернікаў не баяцца ўступіць у барацьбу з духам зла і памятаць, што важна рабіць гэта з Хрыстом, Пераможцам.

«Дарагія браты і сёстры, у мінулую сераду, праз традыцыйны абрад пасыпання галоваў попелам, мы ўвайшлі ў перыяд Вялікага посту — час навяртання і перапрашэння на шляху падрыхтоўкі да Пасхі. Касцёл, які з’яўляецца маці і настаўніцай, кліча ўсіх сваіх членаў духоўна абнавіцца, рашуча звярнуцца да Бога, адкідаючы пыху і эгаізм, для таго, каб жыць у любові. У гэты Год веры Вялікі пост — гэта час, асабліва спрыяльны для адкрыцця веры ў Бога ў якасці базавага крытэрыя нашага жыцця і жыцця Касцёла. Гэта заўсёды прадугледжвае барацьбу, духоўнае змаганне, таму што дух зла, безумоўна, супрацьстаіць нашаму асвячэнню і спрабуе адвесці са шляху Божага. Таму ў першую нядзелю Вялікага посту кожны год абвяшчаецца Евангелле аб спакушэннях Езуса ў пустыні.

Езус, пасля таго як атрымаў «інвестытуру» як Месія — «на-

машчаны» Святым Духам праз хрост у Ярдане, быў Ім прыведзены ў пустыню, каб сустрэцца са спакусамі сатаны. На самым пачатку публічнага служэння Езус павінен быў выкрыць і разбурыць фальшывыя вобразы Месіі, якія спакусіцель прапаноўваў яму. Але гэтыя спакусы былі таксама фальшывымі вобразамі чалавека, які ў любы час здраджвае свайму сумленню, прымаючы зручныя і эфектыўныя прапановы, нават добрыя. Евангелісты Мацвей і Лука апісваюць тры спакусы Езуса, змяняючы толькі іх парадак. Галоўны сэнс гэтых спакусаў заключаўся ў тым, каб інструменталізаваць Бога для ўласных мэтаў, надаючы важнасць поспеху ці матэрыяльным дабротам. Спакусіцель подлы: ён не прама падштурхоўвае да зла, але праз добрыя ўчынкі, дазваляючы думаць, што сапраўдная рэальнасць – гэта ўлада і тое, што задавальняе першасныя патрэбы. Такім чынам, Бог становіцца на другое месца, ператвараецца ў сродак, становіцца нерэальным, не важным і знікае. Нарэшце, у спакусах на кон пастаўлена вера, таму што ўсё круціцца вакол пытання аб Богу. У самыя важныя моманты жыцця трэба ўсведамляць, што мы становімся перад пытаннем: хочам ісці за сабою ці за Богам? Выберам уласныя інтарэсы ці праўдзівае дабро, тое, што па-сапраўднаму з'яўляецца добрым?

Як навучаюць айцы Касцёла, спакусы з'яўляюцца часткаю «прыніжэння» Езуса да нашага чалавечага стану, да прорвы граху і яго наступстваў. «Прыніжэнне», якое Езус прайшоў да канца, аж да смерці на крыжы і адхлання, вялікага аддалення ад Бога. Такім чынам, Ён з'яўляецца рукою, якую Бог працягнуў чалавеку, згубленаму ягнятку, каб вярнуць яму збаўленне. Як навучае св. Аўгустын, Езус узяў ад нас спакусы, каб падарыць нам сваю перамогу. Не будзем баяцца і мы ўступіць у барацьбу з духам зла: важна тое, каб мы рабілі гэта разам з Ім, з Хрыстом, з Пераможцам. І каб быць з Ім, звернемся да Маці, Марыі: будзем усклікаць да Яе з сыноўскім даверам у час выпрабаванняў, і Яна дасць нам адчуць моц прысутнасці свайго Боскага Сына, каб адхіліць спакусы Словам Хрыста і такім чынам паставіць Бога ў цэнтр нашага жыцця. <...>

*17 лютага 2013 г.*

*Паводле «Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё».*

# «Касцёл належыць Хрысту...»

28 лютага Бэнэдыкт XVI правёў свой апошні дзень у папскіх пакоях апостальскага палацу. Пасля прабывання ў Кастэль-Гандольфа ён пасяліцца ў кляштары на тэрыторыі Ватыкана, каб маліцца за Касцёл. «Для дабра Касцёла», — так Папа патлумачыў сваё рашэнне пакінуць пасад св. Пятра. Аб адданасці гэтаму ідэалу ён шмат разоў сведчыў на працягу свайго Пантыфікату і асабліва ў яго апошнія дні. Дабро Касцёла для яго важнае перш за ўсё таму, што Касцёл належыць не нам і нават не Наступніку св. Пятра. Касцёл належыць Хрысту. Аб гэтым Святы Айцец казаў падчас агульнай аўдыенцыі 13 лютага 2013 года. «Я зрабіў гэта ў поўнай свабодзе для дабра Касцёла пасля таго, як доўга маліўся і здзейсніў перад Богам рахунак сумлення. <...> Мяне падтрымлівае і асвятляе перакананне, што Касцёл належыць Хрысту, які ніколі не дазволіць, каб яму не хапала кіраўніцтва і клопату», — сказаў Папа.

Паводле Бэнэдыкта XVI, калі Касцёл належыць Хрысту, тады падзелы і эгаістычныя імкненні да дамінавання з'яўляюцца проста непрымальнымі. На самым пачатку Вялікага посту, у Папяльцовую сераду, ён сказаў, што неабходна пачынаць з адмаўлення ад зла. «Я асабліва думаю аб грахах супраць адзінства Касцёла, падзелах цела Касцёла», — сказаў Бэнэдыкт XVI і дадаў, што, калі Вялікі пост пройдзе ў «відавочным касцёльным адзінстве» — гэта будзе «пакорным і неацэнным знакам для тых, хто далёкі ад веры ці абыякавы да яе».

У апошнія дні свайго Пантыфікату Бэнэдыкт XVI даў нам заданне на будучыню: слухаць Божае слова і дазволіць Яго волі весці нас па жыцці. «Касцёл, Маці і Настаўніца, кліча ўсіх сваіх членаў духоўна абнавіцца, рашуча звярнуцца да Бога, адпрэчваючы пыху і эгаізм, для таго, каб жыць у любові. Гэты Год веры, Вялікі пост — час, асабліва спрыяльны для адкрыцця веры ў Бога ў якасці базавага крытэрыя нашага жыцця і жыцця Касцёла», — сказаў Святы Айцец. Паводле Бэнэдыкта XVI, новая эра хрысціянства пачнецца са звароту вернікаў да самай цэнтральнай падзеі — сустрэчы з Езусам. Менавіта да гэтага Папа заклікаў Касцёл у апошнія дні Пантыфікату.

*Паводле «Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё».*

# Гамілія Апостальскага нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроцці падчас святой Імшы за Святога Айца Бэнэдыкта XVI

*(28 лютага 2013 г., мінскі архікатэдральны касцёл)*

Эксцэленцыя, святары, законныя асобы, браты і сёстры!

Гэтая Эўхарыстыя суправаджае апошнія крокі паслугі Бэнэдыкта XVI, Біскупа Рыма і Пантыфіка. Гэта гістарычны момант, які выклікае ў нас хвалюючыя духоўныя перажыванні. Мы не можам дапусціць, каб у гэты вечар не ўзнеслася малітва беларускага народа, які атуляе ёю свайго Айца і Пастыра. Бэнэдыкт XVI любіў і любіць гэты народ, ведае ягоныя цярпенні і носіць яго ў сэрцы. І я асабіста быў гэтаму сведкам у час нашай апошняй сустрэчы, пра што ўжо распавядаў неаднойчы. Дзякую вам усім за вашыя малітвы і за вашу блізкасць да Папы. Ад імя Святога Айца дзякую таксама спадару Прэзідэнту, які пажадаў звярнуцца да Пантыфіка са сваім пасланнем, поўным цеплыні і павагі. Праз некалькі гадзінаў пасля благаслаўлення вернікаў у Кастэль Гандольфа маўчанне людзей ахіне гэтага чалавека, асобу, якую амаль восем гадоў Пан Бог утрымліваў як кіраўніка Касцёла. Але ў гэтым маўчанні прадоўжыцца дыялог: Бэнэдыкта XVI з ягоным Панам. І гэты дыялог будзе доўжыцца бясконца: на зямлі, пакуль Пан дазволіць жыць свайму слузе, потым — у жыцці, якое наступае пасля смерці, дзе кожны з нас убачыць Бога такім, які Ён ёсць, тварам у твар.

Папа Бэнэдыкт усведамляе, што гэтая малітва будзе для яго працягам служэння ў Касцёле. Ён гэта сказаў і на працягу гэтых апошніх дзён паўтарыў некалькі разоў. Адзін кардынал параўнаў яго з Майсеем, які, узняўшы, высока трымае рукі ў час, калі Ізраэль змагаецца з Амалікіцянамі. Калі Майсей трымае распасцёртыя рукі, Ізраэль перамагае, але калі яны апускаюцца ад стомы, пачынае перамагаць непрыяцель. І той жа кардынал сказаў на заканчэнне, што Касцёл і надалей будзе падтрымліваць у вышыні распасцёртыя рукі Бэнэдыкта XVI, каб трывала ягонае заступніцтва і каб праз яго на народ Божы сышла моц благаслаўлення.

Дарагія браты і сёстры! Наша падзяка Нябеснаму Айцу за паслугу папы Бэнэдыкта XVI заключаецца менавіта ў тым, каб з'яднаць нашыя малітвы з ягонымі, і не толькі сёння, а ўвесь гэты час, пакуль ён будзе ў чуванні трываць над сваім статкам. І такім чынам малітваю стане ягонае афіцыйнае навучанне, ягоны трывалы заклік быць вернымі не якойсьці ідэі, але асобе: асобе Езуса Хрыста, Слову Бога, што сталася Чалавекам, памерлым і ўваскрослым для нас. Такім чынам, малітваю стане ягоны заклік утрымліваць Касцёл празрыстым і чыстым, шанаваць жыццё на кожным ягоным этапе. І такім чынам будзе маліцца Касцёл, каб не стацца толькі людской інстытуцыяй, войскам з аднымі толькі наказамі і забаронамі, супольнасцю, у якой паўтараюцца механізмы ўлады і звычкі вялікіх людзей гэтага свету, але стацца сям'ёй Эўхарыстыі, у якой людзі любяць, шануюць адзін аднаго і нязмерна радуюцца збаўленню, якім адарыў іх Пан.

Але ў гэтыя дні мы не можам забыцца, што ён, Папа, адыходзіць у маўчанне з малітваю за свайго наступніка, якога, натхнёныя Святым Духам, праз некалькі дзён выберуць кардыналы з упэўненасцю, што Бог ніколі не пакіне свой Касцёл. Няхай жа яны будуць здольныя пачуць унутранае натхненне і выбраць Папу, здольнага кіраваць лодкай святога Пятра па бурлівых хвалях сучаснага свету, які шукае сэнсу жыцця і сэнсу свайго змагання і любові, патрабуе і чакае Добрай Навіны, каб зноў пачаць спадзявацца.

Якая ж хвалюючая адказнасць гэтых пастыраў Касцёла, сабраных з усяго свету, пакліканых быць прадстаўнікамі розных культураў, розных гісторый, але з'яднаных у адзінай веры! Гэтая адказнасць стане яшчэ больш яўнай кожнаму з іх, калі, кладучы картку з напісаным імем выбранай асобы на алтар, што знаходзіцца пад велі-

зарнаю фрэскаю Апошняга Суду Мікеланджэла, яны павінны будуць вымавіць словы, якія выклікаюць хвалюючае трымценне: «Я заклікаю ў сведкі Хрыста Пана, які мяне будзе судзіць, што мой голас аддадзены таму, хто, як лічу паводле Бога, павінен быць абраны». Гэта тое самае пасланне, якое сёння прапануе нам прарок Ерамія: «Пракляты муж, які спадзяецца на чалавека; благаслаўлёны чалавек, які спадзяецца на Пана... Больш падманлівае за ўсё і невылечнае — сэрца чалавека! Хто ж спазнае яго? Я, Пан, даследую сэрца і выпрабоўваю нутро, каб адплаціць кожнаму паводле ягоных паводзінаў, паводле плёну ягоных учынкаў».

Дарагія браты і сёстры! Далікатная і кволая постаць нашага Папы, стомленая гадамі і клопатамі, пакідае святыя пакоі Ватыкана і накіроўваецца ў сціплы дом, каб, як кожны веруючы чалавек у сталым узросце, чакаць сустрэчы з Панам. Бог выбраў асобу з сарамлівай усмешкай, але з нязломнай маральнай моцай, з уменнем сказаць слова пераканаўча і свабодна, такім чынам, што ніякая зямная ўлада, ніякая рэакцыя пратэсту — а колькі ж іх было, такіх рэакцый і агрэсій! — не здолелі прымусіць яго маўчаць. І гэта моц Касцёла. Колькі ж супраць яго на працягу ўсіх часоў завывалі сілы зла! Спачатку затыкаюць вушы, каб не чуць Божага слова, якое Касцёл абвяшчае. Потым праз розныя напады чыняць спробы прымусіць яго замаўчаць, потым хочуць знішчыць яго ў лагерах і вязніцах. Але Касцёл трывае і моліцца. Як за Пятра ў вязніцы: «...А Касцёл няспынна ўзносіў малітвы за яго» (Дз 12,5). Пётр абудзіўся са сну, «і кайданы зваліліся з рук ягоных» (Дз 12,7). Псальм узгадвае нам пра спосаб мыслення тых, хто жыве паводле цела: «Сказаў сам сабе неразумны: Няма Бога» (Пс 52). І згадвае таксама гімн свабоды, што спадарожнічае тым, каго Пан вывеў з няволі: «Калі Пан вывеў палонных з вязніцаў, нам здавалася, што мы снім. На нашых вуснах з'явілася ўсмешка, а наш язык спяваў з радасці» (Пс 125).

Ваш беларускі народ праз свой уласны досвед вельмі добра спазнаў таго, хто жадаў перакрэсліць Бога, але ў рэшце рэшт з вуснах вернікаў паплыў спеў вызвалення.

Таксама і ў нашыя дні, у гэтыя мінулыя дні, у свеце была ўчынена не адна спроба кінуць у твар Касцёлу ўсю ягоную ўбогасць, ягоныя здрады, неадпаведнасць, каб пазбавіць яго даверу, учыніць годным літасці. І часцей за ўсё б'юць па «твары» Касцёл тыя асобы, якія самі не захоўваюць ніякіх маральных законаў, а тым не менш асуджаюць Касцёл менавіта за недахоп маральнасці.

Касцёл ведае, што ён грэшны, і кожны дзень просіць у Бога прабачэння за свой грэх, як мы чынім гэта ў перыяд Вялікага посту. Гэта няшчасце, калі Касцёл пачынае паказваць сябе дасканалым, жадае кіраваць светам, бо лічыць сябе лепшым за ўвесь свет. І тады Бог сапраўды можа прынізіць яго, каб Касцёл аднавіў свой шлях і вызнаў, што толькі Ён — Бог — з'яўляецца Панам.

Касцёл, нягледзячы на вельмі моцныя спакусы, не павінен стаць багачом з сённяшняга Евангелля. Багач не цікавіцца ані матэрыяльна, ані духоўна беднымі, якія знаходзяцца пад ягонымі дзвярыма. Бо калі б так адбылося і калі б Касцёл стаўся такім багачом, то мог бы пачуць голас Абрагама, што аднойчы загучаў бы ля вуха: «Дзіця, успомні, што ты ўжо атрымаў сваё дабро ў жыцці часовым, падобным чынам і Лазар — ліха. Але цяпер... ён тут суцяшаецца, а ты пакутуеш».

Браты і сёстры! Якая вялікая адказнасць ускладзена на выбар кардыналаў! Але якая вялікая адказнасць спачывае на нас, калі мы выбралі Хрыста і калі хочам быць братамі і сёстрамі, нягледзячы на нашу слабасць і неадпаведнасць.

Молім Святога Духа, каб святы Пётр вёў нас шляхам пакоры і служэння, шляхам унутранай волі праз моц жыцця, каб свет мог паверыць не нашым бясконцым словам, але нашаму маўкліваму сведчанню жыцця.

І ты, Бэнэдыкт XVI, наш Айцец, будзь сапраўды Benedictus (*благаслаўлёны*) за тое, што ўзмацняў нас у веры, аж пакуль не пачалі згасаць твае чалавечыя сілы. Дзякуй за тое, што ўзгадаў нам, што толькі праўда вызваліць нас і што праўда — гэта любоў укрыжаванага Бога. Дзякуй, што не саступіў зманлівасці магутных, якія маюць спакусы купіць Касцёл грашыма альбо прывілеямі, каб толькі той замоўк. І дзякуй за малітву, якую яшчэ будзеш узносіць за нас. Не забудзем цябе, Святы Айцец, і калі твае стопы пакінуць базыліку святога Пятра, у якой спачывае цела Першага паміж апосталаў. Анёлы няхай спадарожнічаюць табе аж да таго моманту, калі настане супакой у вялікім спатканні з Панам.

*Пераклад з італьянскай мовы*
*а. Вячаслава Пялінка.*

**Павел Крупа** ОР — даміканін, гісторык-медыявіст, дырэктар Тамістычнага інстытута. Нарадзіўся ў 1965 годзе, вучыўся ў Кракаве, Парыжы і Рыме. У 1997–2010 гг. — сябар групы даследчыкаў *Commissio Leonina*, якая рыхтуе крытычнае выданне твораў св. Тамаша Аквінскага. Жыве ў Варшаве.



# *Вялікі выбух меў свой выбух*

З нагоды 20-годдзя выдання Катэхізіса Каталіцкага Касцёла і 50-годдзя адкрыцця Другога Ватыканскага Сабору папа Бэнэдыкт XVI абвясціў у Касцёле Год веры. Афіцыйна ён пачаўся 11 кастрычніка гэтага года, у гадавіну склікання першай сесіі Сабору, а скончыцца 24 лістапада 2013 года ва ўрачыстасць Хрыста, Валадара Сусвету. У сувязі з гэтым мы будзем друкаваць артыкулы і гутаркі, прысвечаныя вызнанню веры, паасобных пастулатаў імшальнага «Credo».

На гэты раз прапануем вашай увазе размову галоўнага рэдактара польскага часопіса «W drodze» а. Рамана Бялецкага з вядомым дамініканінам а. Паўлам Крупам.

*— У час нядзельнай святой Імшы мы вызнаем сваю веру. Гаворым, што верым у Бога Айца, Сына і Духа Святога, што Бог з'яўляецца Стварыцелем, што Ён усемагутны і збаўляе нас. Ці магчыма дапусціць вызнанне веры, якое пачыналася б са слоў: «Ведаю, што ёсць адзіны Бог, Айцец усемагутны, Стварыцель неба і зямлі»?*

— Калі мы гаворым «веру» ў кантэксце святой Імшы і літургіі, то ў пэўным сэнсе гэта азначае «ведаю». Толькі веданне гэта не мае эксперыментальнага характару. Яго нельга праверыць доследным шляхам. Яно грунтуецца на Аб'яўленні і веры ў Таго, Хто нам усё гэта аб'явіў. Хоць складовыя элементы «Credo» не называюцца ў Бібліі *expressis verbis**, мы верым, што яны аб'яўленыя нам Богам — у Святым Пісанні або па-за ім, напрыклад, праз дзеянне Духа Святога ў розумах вернікаў (зразумела, ніколі не ўразрэз з Пісаннем). Той, Хто мае абсалютныя веды, сказаў нам гэта. У апошняй фармулёўцы заключана важная праўда хрысціянства. У нашай рэлігіі не столькі чалавек выходзіць да Бога, шукае Яго і распазнае ў свеце, колькі менавіта Бог першы выходзіць да чалавека. Мы крыху звыкліся з гэтым, але ж гэта рэвалюцыйна! Бог першы прыходзіць і кажа: «Я ЁСЦЬ, ЯКІ ЁСЦЬ» (Зых 3, 14). Нашым адказам на сказанае Богам «Я ёсць» з'яўляецца вера, дзякуючы якой мы атрымліваем веданне, а не толькі перакананне. Таму ў пэўным сэнсе мы ведаем і — не пабаюся сказаць у прыватнасці — я ведаю, што ёсць адзіны Бог, Айцец усемагутны. Часам варта дазволіць сабе здзіўленне з гэтага сцвярджэння.

*— Аднак ці не з'яўляецца вызнанне веры своеасаблівым спісам рэлігійных праўдаў, якіх мы не разумеем?*

— Неразуменне чагосьці не раўназначнае нявер'ю. Ёсць шмат з'яваў, якіх я не разумею, аднак ведаю, што яны існуюць. Касмічная чорная дзіра застаецца загадкаю не толькі для мяне, але і для многіх фізікаў. У той жа час мы ведаем, што яна існуе.

У сувязі з гэтым мне ўспамінаецца анекдот пра аднаго старога рабіна, якому ўнучак падарыў на дзень нараджэння радыё. Рабін усцешыўся, слухаў гэтае радыё з раніцы да вечара, а ў душы ўнука расла незадаволенасць, бо дзядуля хоць і прыняў радыё, карыстаўся ім, але ні пра што не пытаўся. Унучак жа разлічваў, што будзе засыпаны пытаннямі аб тым, як у гэтай магічнай скрынцы ўсё адбываецца, — а тут ніякіх роспытаў.

* *Expressis verbis* — выразнымі словамі, з поўнай выразнасцю (лац.). — Заўв. перакл.

Вось ён не вытрываў, прыйшоў да дзядулі і гаворыць: «Дзядуля, табе не цікава, як усё гэта працуе?». А той паглядзеў на яго і сказаў: «Ведаеш, унучак, я ўжо так шмат гадоў карыстаюся чыгункаю і таксама не ведаю, як яна працуе. Таму дай мне крыху часу».

Так і з намі. Наша неразуменне не ўплывае на існаванне або неіснаванне той рэальнасці, пра якую ідзе гутарка. Калі я не разумею, што значыць стварыць свет або збавіць чалавека, гэта зусім не значыць, што гэтыя рэальнасці не існуюць. Я проста не ўмею гэта растлумачыць.

*— Ці значыць гэта, што, калі я буду моцна хацець, то яно «станецца»?*

— Не. Бо калі я гавару «веру», гэта не значыць, што я заплюшчваю вочы і крычу: «Веру! Веру! Веру!». Маё «веру» — гэта адказ, скіраваны да Таго, Хто аб'яўляе мне рэальнасць. Я тым самым кажу: «Веру Табе, бо Ты гэта аб'явіў».

Гэта крыху падобна да палёту на самалёце. Мы ўваходзім на борт і, не задумваючыся пра гэта, ажыццяўляем акт веры! Мы верым, што фізіка не памыляецца і самалёт падымецца ў паветра; верым, што пілот цвярозы і валодае ўменнямі, неабходнымі для кіравання самалётам; верым, што ўсе бартавыя прыстасаванні спрацуюць і мы даляцім у патрэбнае месца. Так і з нашаю вераю ў Бога. Яна не бяздумная. Мы запрошаныя да разумення веры, як гаворыцца ў класічнай сентэнцыі св. Анзэльма з Кентэрберы *credo ut intelligam,* — «веру, каб зразумець».

Размежаванне ведання і веры ў тэалогіі крыху памылковае. На самай справе вера дае веданне. Але, на жаль, мы з'яўляемся дзецьмі сцыентызму — такога мыслення, згодна з якім веданне — гэта толькі тое і выключна тое, што можна пазнаць эксперыментальным, доследным шляхам, што матэрыяльнае, а да веры належыць усё астатняе. Гэта няпраўда.

*— У пershым сказе «Credo» мы вызнаем веру ў Бога Стварыцеля. Для чаго нам патрэбная гэтая праўда? Хіба нельга было б прыняць тэорыю Вялікага выбуху? Стварыцель падаецца таямнічым і незразумелым, а выбух — гэта ўсё ж такі канкрэтыка.*

— Вера ў стварэнне выяўляе прыгожую і, у прыватнасці для мяне, суцяшальную думку пра тое, што ў гэтым свеце ёсць нейкая разумнасць. Калі я гавару: «Веру ў адзінага Бога, Стварыцеля неба і зямлі», то перш чым вызнаць сваю любоў да Асобы Бога, я ўжо вызнаю глыбокае перакананне ў тым, што гэты свет мае сэнс, што ёсць нейкія прынцыпы і законы, якія кіруюць ім. Вызнаю таксама тое, што жыву ў пэўным парадку, які магу пазнаваць, а сам я — не справа выпадку, не пылінка, не з парожняй бочкі затычка.

*— Але навошта для ўсяго гэтага Пан Бог? Хіба не дастаткова сілаў прыроды і законаў фізікі?*

— Калі мы прызнаем тэорыю Вялікага выбуху і ў сувязі з гэтым лічым, што ўсё вакол нас з'яўляецца справаю выпадку, то варта спытаць: адкуль паходзяць законы фізікі і дзякуючы чаму мы іх адкрываем? Гэта пытанне метафізічнае, яно датычыць таго, што знаходзіцца па-за межамі фізічных з'яваў.

Пытанне аб пачатку свету, а таксама пошукі згоды паміж розумам і логікаю, якая кіруе светам, заўсёды непакоілі людзей. Імкненне пазнаць гэта настолькі глыбока ўкаранёнае ў нас, што яно ўвогуле не належыць да якой-небудзь рэлігійнай культуры, а мае непасрэдна боскае паходжанне. Найбольш раннія вядомыя нам меркаванні на гэтую тэму сфармуляваныя ў грэцкай філасофіі, прадстаўнікі якой былі перакананыя, што ёсць нейкі *logos*, нейкае *ratio* гэтага свету. Аднак пераход ад сцвярджэння пра разумнасць свету, які мы назіраем, да веры ў Бога, які з'яўляецца трансцэндэнтным, г. зн. прынцыпова адрозніваецца ад свету, — гэта скачок, які прынесла свету культура Бібліі. Трэба памятаць, што ў Старажытнай Грэцыі платонаўская канцэпцыя «Адзінага» (дасканалай крыніцы ўсялякага быцця) або «Першапрычына» Арыстоцеля былі сапраўды найвышэйшымі, але іманентнымі і даступнымі для розуму элементамі касмічнага ўніверсума. Біблійнае аб'яўленне — гэта выхад па-за космас.

*— Вернемся да папярэдняга пытання. Ці сумяшчальныя Аб'яўленне і вера з тэорыяй Вялікага выбуху?*

— Яны гавораць пра розныя рэчы. Вызнаючы «Credo», мы не спрабуем апісаць фізічныя ўласцівасці свету, а вызнаем штосьці накшталт духоўнай Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна. «Credo» — гэта не падрабязная інструкцыя па выкарыстанні, а толькі ўсеагульныя прынцыпы функцыянавання.

*— Я згодны, але ўсё ж такі не ведаю, ці магчыма сумясціць гэтыя прынцыпы і серыю баек «Ледніковы перыяд» (у пэўным сэнсе цікавых) пра прыгоды дыназаўраў?*

— Мы блытаем узроўні, пра якія гаворым, таму давайце ўпарадкуем іх. Калі дзеці прыходзяць да нас і гавораць, што быў Вялікі выбух і Ледніковы перыяд, і гэта значыць, што Бога няма, то неабходна сказаць ім, што першае ніяк не тлумачыць другое. Тое, што мы называем Вялікім выбухам, можа быць пачаткам космасу, які мы можам назіраць, але гэта яшчэ не высвятляе, што было на самым пачатку. Хіба ж выбух з'яўляецца

гэтым пачаткам? Зусім не.

Яшчэ раз звернемся да грэцкай філасофіі. Платон у сваіх разважаннях не раз згадваў пра тое, што калісьці, вельмі даўно, была нейкая вялікая цывілізацыя, адгалоскі якой дайшлі да яго часу. Гэта пісаў чалавек, які з пункту погляду нашай цывілізацыі паклаў «пачатак» усяму філасафічнаму мысленню, жывучы ў далёкай старажытнасці, і сёння мы вельмі мала можам сказаць пра яго — настолькі даўно гэта было. І ён за чатырыста гадоў да прыйсця Хрыста пісаў пра патанулае ў змроку гісторыі «калісьці». Усведамленне таго, што старажытныя людзі таксама «мелі» сваю старажытнасць, вельмі моцна ўразіла мяне.

Гэтак жа і з тэорыяй Вялікага выбуху. Мы гаворым, што калісьці адбыўся выбух. Але хіба перад ім нічога не было? Можа, Вялікі выбух меў свой выбух? Усё ж такі нешта павінна было прывесці да яго. Не можа быць выбуху проста так, быццам «штосьці» па нейкай прычыне ўзяло ды выбухнула. Што гэта было, мы не маем паняцця. Таму Платон і адсылае нас нашмат далей, да ўяўленняў пра нейкі іншы свет.

Усё гэта ніяк не адносіцца да сцвярджэння, што Бог стварыў гэты свет. Вызнаючы факт стварэння, мы прызнаем, што нейкая Істота, з якой, паводле нашага веравання, мы можам уваходзіць у кантакт, якая любіць нас, з'яўляецца абсалютна ўсемагутнаю і трансцэндэнтнаю, ёсць менавіта тым Пачаткам, дзякуючы якому адбываюцца ўсе гэтыя малыя і вялікія выбухі, бо менавіта Яна прывяла ўсё гэта ў рух.

*— Але не будзем гэтак хутка адыходзіць ад пытання пра сумяшчэнне веры і тэорыі эвалюцыі...*

— Касцёл выказаўся на тэму тэорыі эвалюцыі, падкрэсліваючы, што гэта застаецца толькі тэорыяй, — са стопрацэнтнай дакладнасцю яе ніхто не пацвердзіў. Ёсць вялікая група адукаваных людзей, якія гавораць пра лакуны і непаслядоўнасць у разважаннях Дарвіна. Акрамя таго, вучэнне Касцёла перасцерагае, каб мы не злоўжывалі гэтай тэорыяй, даходзячы ў гэтым да адмаўлення факту стварэння чалавека ад любові і падмяняючы любоў шэрагам выпадковасцяў. У гэта мы не верым і не згаджаемся з гэтым. Гэтаму нас не вучаць Біблія і Аб'яўленне.

*— А што можна сказаць пра анёлкаў, якія круцяць зямны шар, на думку некаторых сярэднявечных філосафаў?*

— Не анёлкі, а анёлы. Рух у Сусвеце нейкім чынам трэба было растлумачыць, таму з'явіліся аповеды пра тое, што планеты рухаюцца па волі анёлаў і дзякуючы іх моцы. Але ўжо Жан Бурыдан (памёр у 1358 г.) тлумачыў раўнамерны і паскораны рух не ўмяшаннем анёлаў, а імпэтусам, які на пачатку існавання прывёў Сусвет у рух. Гэтаксама не трэба было — як часта можна яшчэ пачуць — чакаць Новага часу, каб даведацца, што Зямля круглая. Святы Тамаш Аквінскі (памёр у 1274 г.) піша пра гэта як пра штосьці відавочнае: «І астролаг (астраном), і прыродазнаўца даказваюць, што Зямля круглая, аднак кожны робіць гэта па-свойму: астраном — з дапамогаю матэматычных вылічэнняў, прыродазнаўца — праз назіранні над матэрыяй». Вера і навука не павінны супярэчыць адна адной, бо ў прынцыпе займаюцца рознымі справамі. Вера не павінна пацвярджаць існаванне атамаў для таго, каб узнік атамны рэактар, а навука не павінна даказваць існаванне Бога, каб Ён сапраўды пачаў існаваць.

*— Апісанне стварэння свету знаходзіцца ў пачатку Кнігі Быцця. Большасць з нас яго добра ведае. Ці не гучыць гісторыя гэтага сямідзённага стварэння як пабожная легенда для дзяцей?*

— Пачну з анекдота. Калісьці ў нашым кляштары ў Парыжы адзін з айцоў падчас снядання згадаў, што кожную раніцу яго ратуе менавіта руціна: устаў, зрабіў гімнастыку, пачытаў, памаліўся. Усё па вызначаным, аднолькавым парадку з дня ў дзень. А я, седзячы за кубкам кавы, паўпрытомны, з заспанымі вачыма, кажу: «Для мяне кожная раніца — нібы новы працэс стварэння. Штодня ўсё пачынаецца спачатку. Святлее — я расплюшчваю вочы, потым улоўліваю формы і гукі, іду ў ванны пакой, бачу паліцу каля люстэрка і прыглядаюся: што гэта? Са здзіўленнем адкрываю, што гэта шчотачка для зубоў, а вось і паста для яе». Расказваў я, расказваў, а яны смяяліся, ды раптам хтосьці з братоў запытаў: «Ну, а цяпер які дзень стварэння?». Я агледзеўся вакол сваімі заспанымі вачыма і кажу: «Не ведаю, але жывёлы ўжо ёсць...»

*— Цудоўна! Але хіба гэта доказ таго, што свет узнік за сем дзён?*

— Зразумела, тут не ідзе гутарка пра панядзелак, аўторак ці сераду. Пра ход стварэння трэба чытаць так, як ён быў апісаны. Перш за ўсё гэта аповед пра тое, што паміж Стварыцелем і светам узнікаюць адносіны «Стварыцель–стварэнне». Трэба прызнаць, што гэта апісанне — геніяльнае. Сем дзён — знак таго, што Бог дае свету час, і гэта праява вялікай павагі да стварэння з Яго боку. Не «раздва — і гатова»! Бог дазваляе свету спакойна набываць поўныя формы. Таму тэорыя эвалюцыі, зразуметая як тэорыя пэўнага развіцця, не павінна бянтэжыць веруючых, бо ў біблійным апісанні ёсць ідэя часу, у якім развіваўся свет.

Тое, што стварэнне замыкаецца ў часе сімвалічных сямі

дзён, дзе сямёрка азначае дасканаласць, ёсць падкрэсліваннем паўнаты: у свеце ўсяго хапае, усё ў ім жаданае Богам, свет з'яўляецца дасканалым. Наколькі доўга працягваўся гэты працэс, як яго бачыў Пан Бог, мы ўвогуле не ў стане сабе ўявіць.

Заўважым таксама, што біблійнае апісанне стварэння не мае нічога магічнага. Гэта не забава фокусніка, які выцягвае з капелюша адну рэч за другой для пацехі гледачоў. Гэта апісанне перадачы жыцця — у пэўным сэнсе айцоўства і мацярынства, апісанне фармавання і стварэння, апісанне, у якім з самага пачатку падкрэсліваецца любоў Стварыцеля да стварэння.

*— Ты гаворыш пра айца і маці. Аднак мы вызнаем веру ў Бога Айца, а не «Бога Айца і Бога Маці ўсемагутных». Ці можам мы гаварыць катэгорыямі «Ён–Яна», спрабуючы абмінуць пытанне полавай прыналежнасці Бога?*

— Гэта бессэнсоўныя інтэлектуальныя забавы. Ідэалогія. Як бы мы ні сказалі, заўсёды гутарка ідзе пра адну і тую ж ідэю: Бог — гэта Той, Хто дае жыццё.

*— Так, але з іншага боку, многія здзівіліся б, калі б мы ў якуюнебудзь нядзелю пачалі гаварыць: «Веру ў адзіную Маці ўсемагутную, Стварыцельку неба і зямлі».*

— Напэўна, калі б мы з самага пачатку так гаварылі, то ніхто не дзівіўся б, здзіўленне хутчэй выклікала б замена на Айца. Праблема заключаецца не ў гэтым. Справа ў падкрэсліванні ролі Бога ва ўзнікненні свету. У старажытнасці мужчыну айца прызнавалі галоўным у перадачы жыцця. Вызнанне веры ў Бога Айца — гэта вызнанне веры ў тое, што мы маем боскае паходжанне, а таксама праяўленне пераканання ў тым, што і свет, і чалавек узніклі ад любові, гэтаксама як дзеці з'яўляюцца ад бацькоўскай любові. Хоць трэба адразу ж дадаць, што Бог стварае свет, а не нараджае! І стварае менавіта *ex nihilo*, з нічога.

*— У нашай размове цяжка абмінуць апісанне стварэння чалавека, а дакладней, два апісанні, бо ў Кнізе Быцця змешчаны дзве гісторыі. Адна з іх — пра Бога, які лепіць чалавека, а другая — пра тое, як Бог стварае жанчыну з рабра мужчыны.*

— Апісанне ў Кнізе Быцця грунтуецца на старажытнай сімволіцы, згодна з якой найніжэйшымі элементамі свету былі вада і зямля — у адрозненне ад узнёслых элементаў, паветра і агню. Для стварэння чалавека Бог выкарыстоўвае элементы прымітыўныя, нізкія, вельмі матэрыяльныя. І ў гэтую матэрыю ўдыхвае свой дух. Гэтае дыханне адрозніваецца ад таго, якое дагэтуль атрымалі створаныя жывыя істоты, бо чалавек створаны асобна, у іншым парадку ў параўнанні з раслінамі і жывёламі. У плане палітычнай карэктнасці гэта выклікае праблемы, бо хіба дазваляецца сцвярджаць, што мы з'яўляемся вянцом стварэння? Але адмаўленне гэтага — толькі праяўленне ілжывай сціпласці. Давайце ж урэшце згодзімся на гэтую выключнасць, перастанем так адракацца ад яе, робячы выгляд, што мы ўсяго толькі малпы без поўсці.

*— А што можна сказаць пра стварэнне жанчыны з рабра Адама?*

— Кожны нармальны чалавек ведае, што жанчына і мужчына адрозніваюцца паміж сабою, і не толькі фізічна. Аўтар Кнігі Быцця спрабуе выявіць і абгрунтаваць гэтую розніцу. Вельмі добра яе апісала сярэднявечная містычка Хільдэгарда Бінгенская, тлумачачы, што стварэнне кабеты з ужо існуючага, цёплага, пульсуючага жыццём цела мужчыны паспрыяла таму, што для жанчыны бліжэй цялеснае, а для мужчыны цела — штосьці такое, што было створана з элементаў халодных, грубых, матэрыяльных. І таму мужчына адносіцца да яго як да чагосьці чужога, з чым ён мусіць весці барацьбу. Спрадвеку людзі бачылі, што абодва гэтыя стварэнні падобныя, але адрозніваюцца. Калі Адам гаворыць: «Гэта косць ад касцей маіх і цела ад майго цела», ён распазнае падабенства, але таксама і розніцу! Бо гэта іншая асоба, зусім адрозная, гэта не ён.

*— Хіба рабро не мае да гэтага ніякіх адносінаў?*

— Біблійны аўтар выказаў гэта праз вобраз рабра, але тут не ідзе гутарка пра вышэйшасць або ніжэйшасць. Адразу ж пасля словаў Адама напісана, што «стануць яны адным целам», нягледзячы на свае адрозненні.

Наша асноўная праблема з вераю ў Бога Стварыцеля заключаецца ў тым, што мы адпрэчваем створанасць свету, бо не можам дакладна апісаць гэта і растлумачыць. Адначасова мы прымаем за праўду многія тэорыі, якія абгрунтаваныя яшчэ менш, чым стварэнне свету і чалавека. Давайце памятаць, што мы толькі адкрываем і апісваем свет, але менавіта Хтосьці іншы дзесьці ў іншым месцы з'яўляецца крыніцаю існавання гэтага складанага Сусвету.

*Гутарыў а. Раман Бялецкі OP.*
*Пераклала з польскай мовы*
*Ганна Шаўчэнка.*
*Паводле часопіса «W drodze»,*
*10, 2012.*

# Легенда пра Будслаў у «Літвінскіх малюнках» Ігната Ходзькі

Легенда пра заснаванне Будслава і цудоўнае аб'яўленне Маці Божай у будслаўскай пушчы выклікае нязменнае зацікаўленне пілігрымаў, умацоўвае іх веру жывою вобразнасцю і дадае ім натхнёнасці. Аднак апрача вуснай версіі, якая можа набываць розныя інтэрпрэтацыі, мы вельмі мала ведаем пра пісьмовыя крыніцы, з якіх можна было б пачэрпнуць інфармацыю пра цудоўныя падзеі ў Будславе.

У адной з сучасных кніг па гісторыі Будслава — «Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай» («Pro Christo», 2009), у раздзеле, напісаным а. Інакенціем Русецкім OFM, падаецца толькі ўрывак з гэтай легенды, аднак, нягледзячы на немалы аб'ём цытаванага тэксту, яго аўтарства не ўказваецца: пераказу папярэднічае толькі згадка пра тое, што гэта «шырока вядомая легенда»[1].

На шчасце, у мастацкай літаратуры Беларусі захаваўся адзін з пісьмовых варыянтаў будслаўскай легенды, і дакладныя тэкставыя супадзенні ў гэтым творы і ў цытаце, прыведзенай а. Інакенціем Русецкім OFM, даюць падставы меркаваць, што крыніцаю для даследчыка-францішканіна магла стаць менавіта гэтая, так бы мовіць, «задакументаваная» згадка. Гутарка ідзе пра твор Ігната Ходзькі «Śmierć mojego dziadka» («Смерць майго дзядулі»), у якім легенда пра Будслаў адыгрывае ролю ўступнога апавядання.

Ігнат Ходзька быў пляменнікам Яна Ходзькі, аўтара славу-



тай аповесці «Пан Ян са Свіслачы», і траюрадным братам Міхала і Аляксандра Ходзькаў. Нарадзіўся пісьменнік у 1794 г. на Вілейшчыне ў в. Заблошчына, у доме дзеда з боку маці, Мацея Відманта. Будучы літаратар вучыўся ў базыльянскай школе ў Барунах, а пасля ў Віленскім універсітэце; быў сябрам Таварыства шубраўцаў і публікаваў свае творы ў «Wiadomościach Brukowych» — друкаваным органе гэтага аб'яднання — пад псеўданімам Віршайтас (Wirszaytos), які абазначае адно з боствaў літоўскай міфалогіі[2].

Польскі гісторык літаратуры Вацлаў Баравы лічыць, што менавіта ў Таварыстве шубраўцаў выявілася і пачала развівацца асноўная рыса літаратурнага таленту І. Ходзькі — «апісваць чалавечыя вобразы з пабытавага жыцця»[3]. Гэтае ўменне, як сцвярджае даследчык, вельмі добра стасавалася з кодэксам таварыства, у адным з параграфаў якога выказвалася патрабаванне да шубраўцаў уважліва назіраць за сучаснымі звычаямі і норавамі ва ўсіх акалічнасцях і станах.

У сваіх першых літаратурных творах Ігнат Ходзька прытрымліваўся духу класіцызму. Пазней, пад уплывам творчасці рамантыкаў, пісьменнік знайшоў сябе ў жанры рамантычнай гавэнды, у якім працаваў амаль усё сваё жыццё. Пяру Ігната Ходзькі належыць шэраг аповесцяў, сярод якіх — «Прыгонны», «Самавар», «Берагі Віліі», «Ранак перад шлюбам», цыкл «Літвінскія паданні» і інш. Аднак невыпадкова імя пісьменніка ў даследчыкаў і чытачоў адразу ж асацыюецца менавіта са знакамітым цыклам аповесцяў «Obrazy Litewskie» («Літвінскія малюнкі»), якія выходзілі ў Вільні з 1840 па 1862 год у шасці серыях. Дарэчы, у гэты цыкл аповесцяў увайшлі таксама ўжо вядомыя беларускамоўнаму чытачу «Успаміны квестара». Як піша літаратуразнаўца Мікола Хаўстовіч, «структуру „Літвінскіх малюнкаў" „падказаў" І. Ходзьку Генрык Равускі, які „сабраў" пад адным тытулам („Успаміны Сапліцы") шэраг шляхецкіх гавэндаў»[4].

У сваім цыкле Ігнат Ходзька распавядае пра пабытавае жыццё шляхты ў XVIII – першай палове XIX стагоддзя. Аповесць

«Смерць майго дзядулі», у якую ўключана славутая легенда пра Будслаў, належыць да першай серыі «Літвінскіх малюнкаў» і з'яўляецца своеасаблівым працягам двух іншых твораў з гэтай жа серыі — «Domek mojego dziadka» («Домік майго дзядулі») і «Boruny» («Баруны»). Аповед пра заснаванне Будслава і цудоўнае аб'яўленне Маці Божай гучыць з вуснаў галоўнага героя твора — дзядулі пісьменніка Мацея Відманта, які вельмі любіў распавядаць гісторыі з мінуўшчыны. Ігнат Ходзька бачыў у гэтых аповедах крыніцу сапраўднага, але, на жаль, незаўважнага і занядбанага скарбу, бо ў іх захоўвалася памяць пра тыя звычаі і цноты збяднелай шляхты, якія служылі ўмацаванню этнічнай і рэлігійнай самасвядомасці, захаванню сямейных і нацыянальных каштоўнасцяў, ды з часам перасталі ўспрымацца як узор для наследавання: «Яго [дзядулі Мацея. — *Г. Ш.*] патрыярхальныя цноты і простыя норавы могуць скласціся ў надзвычай цікавы вобраз, тым больш, што сярод мноства апісанняў пышнасці і раскошы нашых багатых прадзедаў, паказу іх цнотаў, якія служылі на карысць айчыны і народа <...>; сярод малюнкаў ганьбы вышэйшага класу, а таксама сярэдняга, які заўсёды хацеў наследаваць вышэйшаму, ды часцей абіраў для пераймання раскошу і заганы, чым добрыя рысы, — мы амаль не маем эскізаў згаслага ўжо пакалення той ніжэйшай і бяднейшай шляхты нашай, у сціплых сядзібах якой захоўваліся часта сярод паўсюднай разбэшчанасці, быццам ва ўтоенай схованцы, багабоязная сумленнасць, простая і адкрытая шчырасць, хрысціянская руплівая пабожнасць ды чысціня сумлення. Захоўваўся таксама запас вераванняў, якія кожны вечар пераказваліся ў ціхай гамане, злучалі родавым, так бы мовіць, звяном народныя ўяўленні і паданні з сямейнымі байкамі ды пэўным чынам утваралі іх рэлігійную паэзію»[5]. Гэтыя радкі з аповесці «Домік майго дзядулі», без якой складана зразумець аповед «Смерць майго дзядулі», могуць служыць ключом да аналізу ролі будслаўскай легенды ў творы Ігната Ходзькі.


IGNACY CHODŹKO

DOMEK MOJEGO DZIADKA
ŚMIERĆ MOJEGO DZIADKA

LWÓW — WARSZAWA — KRAKÓW
WYDAWNICTWO ZAKŁADU NAROD. IM. OSSOLIŃSKICH
1926

По сюжэце і кампазіцыі сама легенда слаба звязаная з асноўным дзеяннем у аповесці — гісторыяй спакойнага і шчаслівага адыходу пачцівага літвіна ў вечнасць. Аднак у ёй можна ўбачыць выразную паралель з жыццёвым лёсам гэтага «шляхціца на сядзібе»: як у глухой і цёмнай пушчы, у пакоры і ўбостве заквітнелі багабоязнасць, працавітасць і малітва, азораныя цудоўным аб'яўленнем Маці Божай і вялікаю славаю гэтай мясціны, так у «сціплай сядзібе» дзядулі захоўваліся сумленнасць, чысціня і шчырасць — найлепшыя патрыярхальныя цноты прадзедаў, асвечаныя Божым благаслаўленнем для дома і Божаю падтрымкаю ва ўсіх нягодах.

Дзед Мацей распавёў свайму ўнуку легенду пра Будслаў у апошняй размове з ім, за дзень да сваёй смерці, пра якую даведаўся таксама з цудоўнага аб'яўлення. Таму гэтая даўняя гісторыя нібы змяняе настрой аповеду, становіцца *кульмінацыяй* усяго твора: пасля таго, як дзядуля прызнаўся аканому, што меў візію пра сваю смерць, якая павінна здарыцца ўжо заўтра, і папрасіў яго дастаць схаваную ў свірне труну, настаў самотны і напружаны вечар, поўны цяжкіх прадчуванняў, што ў аповесці па-мастацку падкрэслена яшчэ і вобразам заходзячага сонца. Раптам удалечыні пад апошнімі сонечнымі промнямі дзядулеў позірк заўважыў два залацістыя крыжы будслаўскага касцёла. Гэтае сузіранне і ўспамін цудоўнай легенды быццам азарае саму душу апавядальніка, нагадвае пра тое, што Бог абірае для сваёй славы ўбогае і нябачнае. Такі паварот надае важны сэнс усяму сціпламу жыццю дзеда Мацея і адначасова развіццю праблемы смерці ў аповесці. Атмасфера, у якой адбываецца падрыхтоўка дзядулі да адыходу, з мітуслівай і роспачнай змяняецца на спакойную і нават урачыстую; важным яе элементам становіцца прыгожая працэсія Божага Цела, якая праходзіць каля дома паміраючага і глыбока ўзрушвае старога: «Ніколі не забуду твар свайго дзядулі ў тыя хвіліны, — піша апавядальнік. — ...Уся рэшта жыцця адлюстравалася ў яго абліччы, а жыццё гэтае было толькі адной любоўю да Бога і

прагненнем паяднацца з *вечным ззяннем*, якое, аддаляючыся, цягнула яго душу за сабою!!!».

Такім чынам, легенда пра Будслаў у аповесці Ігната Ходзькі, з аднаго боку, мае самастойнае значэнне, а з другога — служыць ідэі твора. Сама ж аповесць «Смерць майго дзядулі», напісаная ў стылі рамантычнай шляхецкай гавэнды, мае актуальнасць і для гісторыі беларускай літаратуры, у якой творчасць Ігната Ходзькі яшчэ маладаследаваная, і для ўшанавальнікаў культу Маці Божай Будслаўскай: гэта яшчэ адна крыніца веры ў цудоўнае аб’яўленне на нашых землях, а таксама прыклад «рэлігійнай паэзіі» продкаў, як сам пісьменнік акрэсліў характар дзядулевых аповедаў. Нягледзячы на тое, што аповесць напісана празаічнаю моваю, па сваім змесце і стылі яна глыбока лірычная, напоўненая пашанаю да веры і мудрасці «згаслага ўжо пакалення» дзядоў.

*Ганна Шаўчэнка*

---

[1] Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай / склад. а. В. Бурлака OFM. — Мінск: «Pro Christo», 2009. — С. 6–8.

[2] Як пісаў Тэадор Нарбут, пад апекаю гэтага боства «была ўся хатняя гаспадарка і ўся рухомая і нерухомая ўласнасць, а таксама свойскія жывёлы» (Narbutt, T. Dzieje starożytne narodu Litewskiego. — T. 1. Mitologia Litewska. — Wilno, 1835. — S. 6).

[3] Borowy, W. Ignacy Chodźko: Artyzm i umysłowość. — Kraków, 1914. — S. 4.

[4] Хаўстовіч, М. В. Гісторыя беларускай літаратуры 30–40-х гг. XIX ст. — Мінск: БДУ, 2001. — С. 41.

[5] Chodźko, I. Domek mojego dziadka. Śmierć mojego dziadka. — Lwów, Warszawa, Kraków, 1926. — S. 4–5.

---

**Ганна ШАЎЧЭНКА** — супрацоўніца выдавецтва «Pro Christo». Нарадзілася ў Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці. Закончыла філфак БДУ (2007), магістратуру і аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Займаецца даследаваннем польскамоўнай літаратуры Беларусі XIX стагоддзя. Аўтар паэтычнай кнігі «Запаветная жменька» (2007), зборніка вершаў для дзяцей «Пане, будзь заўжды са мной!» (2010).

Ігнат Ходзька

# Пра цудоўнае заснаванне будслаўскага касцёла

*(Урывак з аповесці «Смерць майго дзядулі»)*



Цуд аб’яўлення Маці Божай у Будславе (фрагмент абраза). Сярэдзіна XIX ст.

Дзень хіліўся да вечара. Сонца, апускаючыся на захадзе, села над лесам, дзе заканчваўся небасхіл, і жывым бляскам азалаціла два крыжы, якія высока зіхацелі ўдалечыні: яны ўзвышаліся і цяпер узвышаюцца на вежах цудоўнага будслаўскага касцёла, што знаходзіцца за некалькі міляў ад доміка майго дзядулі, але ў пагодлівыя дні адтуль добра бачны. Гэты краявід, упрыгожваючы ўсё наваколле, быў заўсёды мілы воку майго дзядулі і асабліва захапіў яго ў тым настроі, у якім ён цяпер сядзеў са мною на ганку.

— Ці бачыш, дзіця маё, — сказаў ён праз некалькі хвілінаў, — як прыгожа там свецяцца два залатыя крыжы?

— Гэта *Будслаў!* — адказаў я.

— Так, *Будслаў*, дзіця маё! Але я яшчэ ніколі не распавядаў табе пра цудоўнае заснаванне будслаўскага касцёла і пра тое, чаму гэтую мясцовасць называюць *Будславам*.

— Не, дзядуля! Ніколі! І калі будзеш ласкавы...

Твар дзядулі праясніўся, сумныя прадчуванні саступілі месца яго відавочна палкаму жаданню распавядаць мне свае гісторыі і ўспаміны; такім чынам зноў — і ўжо апошні раз — вярнуліся хвіліны мілай, спакойнай і простай, як усё жыццё майго дзядулі, яго размовы са мною. Часта слухаючы яго, я сэрцам і памяццю прывыкаў да яго думак і ўяўленняў, якія не паспя-

валі за бегам часу і рэчаў, а паволі дагаралі пад нізкім дахам, у хатняй святыні нашых старасвецкіх цнотаў!..

— Дык вось, дзіця маё, што датычыць Будслава, было так... — распачаў дзядуля. — Віленскія айцы бэрнардыны папрасілі аднаго з даўніх валадароў нашай айчыны, Аляксандра Ягелона, фундатарам якіх ён, праўдападобна, і з'яўляўся, выдзеліць і падарыць ім частку лесу на дровы для кляштара. А паколькі і ў тыя часы часта ўзнікалі судовыя спрэчкі пра падзелы ды межы, і нашыя законнікі асцерагаліся гэтага, то моцна прасілі караля, каб ён загадаў выдзеліць для іх пушчу ў такім надзейным месцы і ў такіх межах, якія ніхто ніколі не змог бы паставіць пад сумненне. Гэта было складана, дзіця маё, але Бог натхніў пабожнага караля, і па просьбах святароў, а таксама паводле яго волі было выбрана *praeter propter*[1] з дзвесце валокаў лесу, які знаходзіўся паміж трыма рэкамі — *Сэрвач, Турак* і *Зуйка*. Гэты астравок кароль назаўсёды аддаў віленскім айцам бэрнардынам, каб яны, седзячы ў цяпле, праслаўлялі Бога і маліліся за душу свайго дабрадзея.

Тое месца знаходзіцца за дваццаць з гакам міляў ад Вільні, але бэрнардыны далі сабе рады, бо рэчка Сэрвач упадае ў Вілію, і кожную вясну яны ў час паводкі сплаўлялі ў Вільню столькі дрэва, што яго хапала не толькі на дровы для кляштара, але і на тое, каб атрымаць пэўны прыбытак.

Аднак паколькі такі вялікі і карысны абшар трэба было пільнаваць, а на працягу ўсёй зімы там павінны былі знаходзіцца працавітыя дазорцы для вывазу і сплаву лесу, віленская супольнасць пасяліла там некалькі братоў, якія на час свайго прабывання змайстравалі сярод пушчы некалькі будаў і ўзвялі маленькую каплічку для штодзённай малітвы і святой Імшы, якую кожны дзень служыў святар, што быў прысланы з віленскага кляштара і знаходзіўся ў гэтым гушчары разам з імі.

Аднойчы зімою, дзіця маё, адзін з трох братоў, аб'язджаючы лясы, вяртаўся пад вечар у свае буды. Ноч наступіла раптоўна. Быў мароз і страшэнны вецер, цемра — хоць вока выкалі, ваўкі вылі жудасна. Таму бедны браток адчуў роспач і даверыўся Богу, дрыжучы ад холаду і страху... Не ведаў ён, блізка ці далёка яшчэ да дому, калі знянацку ўбачыў моцнае ззянне, быццам нейкі агонь прасвечваўся праз дрэвы. Узрадаваны, ён стаў хутчэй кіравацца ў той бок, думаючы, што натрапіў калі не на ўласныя буды, з якіх ніколі так не свяцілася, дык на якоенебудзь іншае чалавечае жыллё; але ж як ён здзівіўся, калі, выбраўшыся з зараснікаў па вузкай сцежцы, апынуўся менавіта каля сваёй каплічкі, а над ёю ў незвычайнай яснасці, нібы ў сонцы, убачыў аблічча Маці Божай, акурат такое, якое было на абразе ў алтары аднаго з віленскіх касцёлаў. З глыбокаю пашанаю памаліўшыся перад гэтым цудоўным аб'яўленнем, ён пабег і разбудзіў субратоў і святара. Усе сабраліся ды на свае вочы ўбачылі такое самае аб'яўленне, пападалі на калені і маліліся, пакуль ззянне і аблічча Маці Божай не зніклі. Вырашыўшы, што Багародзіца абрала гэтае месца для асаблівай хвалы сваёй, яны адразу ж паведамілі пра ўсё ў Вільню.

Гэтае аб'яўленне паўтарылася некалькі разоў, а тым часам у пушчу прыбыло кіраўніцтва супольнасці і пасля сведчанняў відавочцаў у гэтае месца з віленскага касцёла быў перавезены абраз, які так цудоўна аб'явіўся. Ён быў змешчаны ва ўбогай каплічцы, а сёння яснее ў вялікім алтары ў Будславе.

Слава пра гэтае месца разышлася адразу ж, там пачалі збірацца натоўпы вернікаў, і таму ўзнікла патрэба збудаваць больш прасторны дом Божы і жыллё для святароў пры ім.

Айцы бэрнардыны ўзяліся за справу. Іх так шчодра падтрымалі просты люд сваімі штодзённымі ахвяраваннямі і дары заможных гаспадароў, што ў хуткім часе яны з Божаю дапамогаю пабудавалі хоць і драўляны, але прыгожы касцёлік і кляштар для дзесяці-дваццаці законнікаў. А паколькі ўсё пачалося з *Цуду,* і Пану Богу спадабалася славіць цудамі гэтае ўбогае жыллё сваіх бедных слугаў, адсюль узнікла і назва гэтага месца, складзеная са словаў *Цуд* і *слаўны*, *Буд-слава*, а *per abbreviationem*[2] Будслаў.

Пасля браты пусцілі свой лясны абшар на капітал, які падвоіўся з новых ахвяраванняў і завяшчанняў, ды з часам быў *magnifice*[3] пабудаваны касцёл, а таксама кляштар. Вось так павялічылася Божая хвала і карысць для чалавека, бо пры кляштары чэрпаюць сродкі на існаванне каля ста чалавек розных прафесій — у школцы, у бурсе, у касцёльным служэнні і, нарэшце, у аркестры, які ў кожную нядзелю і фэсты прыгожым спевам дадае касцёльным набажэнствам харастваа. Абраз жа не перастае амаль штодзённа славіцца ласкамі Маці Божай! Раскажу табе яшчэ, дзіця маё...

У гэты момант з'явіўся пан Якуб, які вяртаўся з плябаніі, і з заўважным шкадаваннем перабіў майго дзядулю, што ўжо збіраўся распачаць новую гісторыю...

*Пераклала з польскай мовы Ганна Шаўчэнка.*

*Паводле: Chodźko, I. Domek mojego dziadka. Śmierć mojego dziadka. — Lwów, Warszawa, Kraków, 1926. — S. 42–47.*

[1] *Praeter propter* — прыкладна (лац.).
[2] *Per abbreviationem* — скарочана (лац.).
[3] *Magnifice* — цудоўна, раскошна (лац.)



Аркадзь Шпунт

# Разлівы святла

*Нататкі рэстаўратара*

...Сёння людзі мала ходзяць пешкі, і можа таму, адчуць сябе ў хадзе (не па вадзе, усяго толькі па роднай зямлі) — таксама цуд.

Расплюшчваюцца вочы. Аглушае цішыня. Музыкай гучаць натуральныя, зямныя і нябесныя, шумы. Распрамляюцца плечы. Уздых становіцца поўным. Выдых — лёгкім. Нават непагода і дарожныя нязручнасці здаюцца Божаю ласкаю. Як і спадарожнікі — «браты і сёстры». І ўзнікае адчуванне еднасці з тымі, хто сказаў сабе, што яны «вандроўнікі і чужынцы на зямлі. Бо тыя, хто так кажа, паказваюць, што яны шукаюць айчыну».

Наведванне сваіх айчынных святыняў называюць малым паломніцтвам. Няхай сабе і малым. Сёння ўжо не трэба, як некалі айцам пілігрымам, пакідаць Стары Свет дзеля Новага і сыходзіць у іншыя краі, каб маліцца не таючыся. У пілігрымцы дастаткова часу (таго, што па сутнасці ёсць «думкаю пра рэчы»), таму і ўзнікаюць па дарозе думкі, якім няма месца ў звыклай прасторы будзённасці. І раптам разумееш, што настаў час для беларусаў самавызначацца, асэнсоўваць сваё мінулае, усведамляць сённяшняе і вызначаць будучыню ў рэчышчы хрысціянскага ўяўлення пра цякучасць часу. Тым больш, што па дарозе ў Будслаў ідуць хрысціяне.

...Шлях у Будслаў — гэта шлях з ідэалагічных ілюзій і няпэўнасці сімулякраў насустрач святлу вечнага жыцця і духоўнасці, сімвалам якіх з'яўляецца гранат у руцэ Дзіцяці Езуса на цудатворным будслаўскім абразе. Гранат — адзін з сімвалаў Царквы, а зерне гэтага граната — усе мы, хрысціяне, пілігрымы, якія рушаць па дарозе да айчыннай святыні. Старыя пілігрымы нясуць з сабою цяжар перажытага, а маладыя нясуць малых дзетак, якім яшчэ не па сілах дальняя дарога. Як добра, што можна адчуць сябе пілігрымам, не прымацоўваючы да капелюша стары сімвал падарожных багамольцаў — створку ракушкі марскога грабеньчыка, якую выкарыстоўвалі і як эмблему, і як дарожны посуд, і як пачэсны сувенір, што нават хавалі разам з яго носьбітам (дарэчы, такая

---

**Аркадзь ШПУНТ** — мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

ракавінка служыла «пропускам» на палявую царкоўную кухню). Сёння ў нас ёсць аднаразавыя талеркі, і хоць пластыкавы посуд не такі ўжо прыгожы і рабрыстая круглая створка не можа паслужыць «пропускам», але ў дарозе гэта зручна — праўда, забруджвае жыццёвую прастору, не ўпісваючыся ў складаныя прыродныя сувязі і ўяўленні людзей пра нятленнасць, уласцівую хіба што святым парэшткам... Але гэта «так і між іншым», як гаварыў часам пінскі ксёндз Казімір Свёнтэк, нават ужо стаўшы кардыналам — першым у гісторыі Касцёла на Беларусі... Ах, як бы ён да слёз парадаваўся, убачыўшы, што Маці Божая Будслаўская, чый цудатворны абраз ён уласнаручна ўпрыгожыў папскімі каронамі 2 ліпеня 1998 года, збірае да Сябе ўсё больш і больш людзей...

Можна па-рознаму расказваць гісторыю, якая пачалася на золку XVI ст., дакладней, у 1504 годзе, калі кароль Аляксандр Ягелончык падараваў віленскім манахам бэрнардынам немалы кавалак лесу над рэчкаю Сэрвач, паміж пратокамі Зуйкай і Туракам. Усяго чатыры манахі, «узброеныя» сякерамі і піламі, прыйшлі тады ў лясны гушчар, каб нарыхтаваць дрэва для будаўніцтва кляштара ў Вільні. Спачатку яны, вядома ж, змайстравалі «дах над галавою», і гэтае жытло было такім, што інакш як «буда» называць яго не выпадала, але ўсё, што пад сонцам, павінна быць названым, каб сапраўды быць.

Паводле тапанімікі, асноўнае значэнне геаграфічнай назвы — гэта фіксацыя месца на паверхні Зямлі. Змене назвы папярэднічае нешта вельмі вартае згадкам у летапісе. Напрыклад, такі факт: у 1588 годзе пасля абраду хросту ў небе над манаскімі келлямі і недабудаванай каплічкай Буды раптам з'явілася воблака, з якога лілося незвычайнае святло. І ў тым воблаку манахі і вернікі разгледзелі ў атачэнні анёлаў Божую Маці з Дзіцяткам Езусам на руках. І прагучала з Нябёсаў: «З гэтага часу Бога нашага і Сына Майго слава, і Маё заступніцтва будуць вам дадзеныя навечна; гэта месца Я выбрала пастаяным прытулкам для грэшнікаў».

З таго часу і месца гэта, і каплічка сталі крыніцаю Божай ласкі і розных цудаў, як апавёў нам бэрнардынскі летапісец Тамаш Дыгонь.

Цудоўнае здарэнне зрабіла занядбаную вёсачку месцам, вартым у будучыні прытуліць дзівосны абраз, напісаны ў дзівоснай краіне Італіі. Праз 400 гадоў высветлілася, што ў непралазным лясным гушчары манахі XVI ст. расчышчалі месца для нацыянальнай святыні беларусаў XXI стагоддзя.

...Нават звыклы турыст, які не ведае розніцы паміж познім рэнесансам і раннім барока, відаць, выбраў бы дарогу ў бок Будслава, аддаючы перавагу найменню гэтага месца, у якім прыгожа гучаць бронза і золата: Буд-слаў... Як прароцтва славы будучага месца, зафіксаванага на паверхні Зямлі дзеля яго хвалы і пакланення.

...180 кіламетраў — гэта нямала і на машыне. Але і не вельмі многа — паломніцтва ж малое, мясцовае, сваё. Аднак пяці дзён пешага шляху дастаткова, каб пры жаданні і падумаць, і адумацца, і ўспомніць... А дзеля чаго ж яшчэ ісці пешкі, сціраючы да крыві ногі, калі можна ехаць са зручнасцямі ў прахалодзе кандыцыянаванага паветра, лёгка пераадольваючы адлегласць за паўтары гадзіны. Але нават з хуткасцю гуку нашрад ці ўдасца ўцячы ад стамляючай знерваванасці жыцця, ад бясконцай змены эмоцый, якія вымотваюць і спусташаюць душу. Хіба што менавіта сысці ад іх — пешаю пілігрымкаю ў Будслаў. Ісці — успамінаючы...

...пра тое, што беларусы былі аднымі з першых народаў, якім пашчасціла надрукаваць Святое Пісанне на сваёй роднай мове; пра былую веліч Каралеўства Польскага, Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, што пакінулі нам у спадчыну дзівосную архітэктуру і мастацтва; пра нашых мудрых і адважных князёў, воінаў, пра пакутнікаў і святых...

...У другой палове XVIII ст. архітэктар Пенс, выкарыстаўшы часткі забудоваў XVII ст., узвёў бэрнардынскі касцёл. Ён атрымаўся грандыёзным — быццам нешта вялікае і дзівоснае мусіла здзейсніць вымушаную пасадку сярод бязлюдных лясоў...

Падзеі той 400-гадовай гісторыі пазначаныя памятнымі датамі і імёнамі. Згадаю, што абраз з'явіўся ў Будславе ў 1613 годзе і прынёс яго ксёндз Ісак Салакай, які тры гады быў капеланам мінскага ваяводы Яна Паца. Ваявода памёр у 1610 годзе, а ў 1588-м здзейсніў паломніцтва ў Рым з прычыны свайго пераходу з кальвіністаў у каталікі, за што Клімэнт VIII падараваў яму абраз Багародзіцы.

Павевы еўрапейскай культуры і адукацыі, ідэі рэнесансу і барока даляталі і да касцёла з яго ваколіцамі, становячыся дасягальнымі для манахаў і грэшнікаў, для магнатаў і жабракоў, для хворых і здаровых. Пілігрымы, прыходзячы на паклон да абраза Найсвяцейшай Маці Божай, таемным чынам траплялі ў сілавое поле ўздзеяння нетутэйшай

цывілізацыі і цудатворнага абраза...

2 ліпеня 1996 года Апостальскі нунцый Дамінік Грушоўскі абвясціў пасланне Папы Яна Паўла II, у якім Маці Божая Будслаўская была названая Апякункаю Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

...Мне давялося бываць у касцёле гадоў трыццаць назад. Тады «значныя недахопы ў навукова-атэістычнай прапагандзе», выкрытыя Пастановаю ЦК КПСС ад 7 ліпеня 1957 года, былі ўжо цалкам выпраўленыя. Культура Беларусі, якая перажыла мноства заваёваў і мноства войнаў, была не раз абрабаваная, але страты тых гадоў сапраўды незваротныя. Разам з цэрквамі і касцёламі знішчалася гістарычная памяць. Гэта быў удар па духоўнасці, па нацыянальнай свядомасці, і супаставіць яго можна хіба што з культурна-дэмаграфічнаю катастрофаю 1654–1667 гадоў, у якой укаранёныя многія беды і комплексы сённяшніх беларусаў. Але тады хоць не забаранялі верыць...

Насуперак усяму раптам узнікла думка дамагацца ад Міністэрства культуры БССР дазволу на рэстаўрацыю ўнікальнага помніка XVII ст. — разьбянага чорна-залатога алтара ў капліцы святой Барбары. Трэба было зрабіць абмеры і дэфектны акт для складання каштарыса на фінансаванне.

...Была зіма. Каля сценаў касцёла мяне ахапіла незабыўнае да гэтай пары пачуццё шчымлівай трывогі, якая заўсёды мучыла мяне падчас музейных экспедыцый па «знятых з уліку» цэрквах і касцёлах. «Ты павінен зрабіць дабро са зла, бо яго больш няма з чаго зрабіць», — не раз згадваў я эпіграф да «Пікніка на ўзбочыне», пазычаны братамі Стругацкімі ў Робэрта Пэнна Уорэна. Сапраўды, у працы музейшчыкаў было шмат агульнага з працаю сталкераў. Мы ўваходзілі ў «зону» часу, які імкнуўся трапіць назад, хоць вяртанне ў язычніцтва чамусьці ўяўлялася пануючым уладам рухам да «светлай будучыні». Мы апыналіся ў «зоне» вынішчэння двухтысячагадовай культуры і спасцігалі гэта ў сценах занядбаных святыняў — варта было хоць на хвіліну задумацца...

У шызым «сфумато» марознай раніцы былы касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ордэну бэрнардынаў панаваў над тым, што можна было б назваць дзікаю роўняддзю. Ад былой прысутнасці бэрнардынаў не засталося і следу. Хіба што занядбаны архітэктурны цуд позняга барока. Убогія хаткі населенага пункта пад назваю Будслаў здаваліся прыгнечанымі маштабам агромністага збудавання.

І ўзнікала натуральнае пытанне: у чым жа, уласна кажучы, слава, водсвет якой гучыць у назве вёсачкі? Здавалася, што ўся вёска разам з яе жыхарамі магла б змясціцца ў гэтым касцёле, калі паставіць хаты адна на адну. І сёння, калі не ведаць, што касцёл быў пабудаваны для таго, каб раз у год прыняць тысячы пілігрымаў, можна толькі здзіўляцца яго памерам і яго мэтазгоднасці сярод маленькіх хатаў.

Цяжка было ўявіць, што нехта стане ратаваць ад непазбежнага разбурэння гэтую занядбаную пабудову, якую немагчыма прыстасаваць ні для патрэбаў савецкай народнай гаспадаркі, ні для паляпшэння побыту некалькіх дзясяткаў калгаснікаў. Касцёл выкарыстоўвалі толькі як арыенцір для самалётаў: хоць нейкая карысць была, пакуль аэрадром каля святыні страсаў гулам авіярухавікоў дух мінуўшчыны, які прытуліўся ў старых сценах. І ў свядомасці вяла варушылася нешта няўцямнае... пра Нябеснае Валадарства. Можа таму, што і аэрадром, і касцёл мелі дачыненне да неба. Праўда, як лічаць вернікі, у касцёле можна дасягнуць завоблачных вышыняў і без узлётна-пасадачнай паласы, і без магутнасці рэактыўных рухавікоў.

...У касцёле было халадней, чым на вуліцы. Па серабрыстых ад шэрані сценах спаўзалі сырыя падцёкі, скрозь якія ледзьве праглядаўся жывапіс. Створаная мастаком ілюзія рэальнай трохмернай прасторы патанала ў ілюзіяністычнай перспектыве галоўнага алтара, якім завяршалася доўгая сярэдняя нава. Паглынаючы ілюзію, на сценах квітнела і разрасталася зялёная плесень. Дрогкія прыцемкі і плямістыя забруджанні разбуралі мяжу паміж умоўным светам намаляваных алтароў і рэальным светам плесені, якая рэальна зжырала імітацыю прасторы ў тэхніцы грызайль. Перацяканне ілюзіі і рэальнасці акунала ў атмасферу нейкага трансцэндэнтнага залюстэр'я, узмоцненую перасячэннем трансепта з сярэдняю наваю, пазначаную схаваным унутры даха купалам.

Ці то купальны, ці то бяскупальны... нейкі прамежкавы... Уражанне зыбкай прывіднасці ўзмацнялася ілюзорнай перспектываю цалкам асязальнага ў сваёй чорна-залатой матэрыяльнасці алтара. У гэтым унікальным помніку мастацтва дзіўна спалучыліся дэкаратыўная тэатральнасць, упэўненае рукатворнае майстэрства і хітрасць архітэктурнай задумы, нябачанай ні ў Літве, ні ў Поль-

шчы. Аб'ём малой капліцы павялічваўся імітацыяй глыбіні, якая скіроўвала пагляд да цэнтральнага абраза.

У голых прамерзлых сценах старога касцёла панавалі ілюзія і хімерычнасць. Пабудова здавалася груваcткім негерметычным саркафагам, пад скляпеннямі якога тлела, заражаючы наваколле міражамі і прывідамі, адвольная рэакцыя распаду памяці. Толькі плесень, якая раз'ядала ілюзію трохмернай прасторы архітэктурна-скульптурных алтароў, напісаных у 1782 годзе Казімірам Анташэўскім, здавалася сапраўды жывою...



І хіба ж не цуд мы бачым сёння? Я захоплены адвагаю і самаахвярнаю працаю айца Віктара — манаха ордэну бэрнардынаў, кусташа касцёла, які ўсклаў на сябе ўвесь цяжар адказнасці і працы па аднаўленні і захаванні гэтага святога месца.

...Незадоўга да адыходу ў іншы свет кардынал Казімір Свёнтэк наведаў Будслаў.

...памятаю той бялёсы ветраны дзень і адзінокую фігуру ў чорным цывільным касцюме. Ён перасякаў няўтульную ў сваім бязлюддзі, прадзьмутую ўсімі вятрамі плошчу перад касцёлам. Здавалася, што ён з вялікім намаганнем пераадольвае асфальтаваную прастору.

«Святарства — гэта дар і таямніца», — успомніў я словы Яна Паўла II і падумаў: цывільны касцюм як бы ператварае святара ў аднаго з нас. Апрануты звычайна ў святарскае адзенне, ён і ў будні, і ў святы перад народам. Але і ў звыклым касцюме, заўважны і незаўважны ў натоўпе, ён не губляў сваёй адметнасці, усюды застаючыся самім сабою. Ён, безумоўна, выдзяляўся сваім шаноўным узростам, але найперш — асаблівым выразам твару, у рысах якога нешта нагадвала Дантэ з вядомага партрэта Бацічэлі.

...Перайшоўшы плошчу, нібы пустку паміж мінулым і сённяшнім, ён увайшоў у касцёл. Прайшоў не па дывановай дарожцы, а побач з ёю, таму што, у адрозненне ад многіх у звыклых касцюмах, ён хадзіў па дывановай дарожцы толькі ў святарскім адзенні (ён шмат гадоў быў проста ксяндзом і ведаў цану працы бабулек, якія прыбіраюць у касцёле).

Бязлюдны храм быў напоўнены рэхам хваласпеваў, малітваў, просьбаў і падзякаў. Колькі іх прагучала ў гэтым касцёле — не злічыць. І Пан Бог іх не зможа палічыць. Аднак без Яго волі нават волас не ўпадзе з галавы...

...і згадваюцца словы Гессэ: «Сыход гэтага жыцця ў падане здаецца нам натуральным і правільным, бо не ўзнікае ж у нас ніякіх сумневаў у тым, што свяціла, якое сышло з нашага поля зроку і для нас ужо „закацілася", усё роўна працягвае існаваць». Гэтак і імя кардынала Казіміра Свёнтка назаўсёды ўпісанае ў гісторыю цудатворнага будслаўскага абраза і ў гісторыю Касцёла незалежнай Беларусі.

...Калі вам даводзілася бываць 2 ліпеня ў Будславе сярод народу Божага, сярод людзей, аб'яднаных адзінаю малітваю і адзіным парывам, вы абавязкова адчуеце напружаную пустату перадкасцёльнай плошчы ў будзённыя дні. Плошча каля падножжа касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў будзённыя дні нібы жыве чаканнем 2 ліпеня і вобразам стыхіі вогненнай ракі, што ўтвараецца як адна з фазаў святла лампады Святога Абраза і паўтараецца кожны год у адзін і той жа дзень. Сімвал нашай духоўнай еднасці і вечнага Святла на твары Божай Маці спараджае разліццё нястрымнага агню і яго выхад са святыні, як у разводдзе рака выходзіць са свайго рэчышча, каб запоўніць сабою ўсю пойму.

Разлівы святла — гэта агні свечак, запаленых каля цудатворнага абраза Маці Божай Будслаўскай.

Адзін мігатлівы агеньчык — адзін чалавек...

*Фота М. Новікава.*



# ЗІМОВЫ ПЛЕНЭР У БУДСЛАВЕ

Ідэя мастацкіх пленэраў на Мядзельшчыне была ў мяне яшчэ з тых часоў, калі мы набылі свае лецішчы з сябрамі суполкі «Пагоня» на знакамітых Блакітных азёрах, на Балдуку.

...Колькі разоў быў сведкам летніх пілігрымак у Будслаў (гэта амаль па дарозе на Нарач), а вось узімку намаляваць будслаўскі касцёл мяне натхніла сёлета цудадзейнае ўздзеянне абраза Маці Божай Будслаўскай на тых, хто звяртаецца да Яе з малітваю, вядомай з даўніх часоў, калі абраз толькі з’явіўся на Беларусі. І, як кажа пробашч касцёла айцец Віктар Бурлака, першы цуд з сямі цудаў Беларусі — гэта тое, што ён захаваўся да нашых дзён амаль не пашкоджаны...

Цудадзейны абраз быў напісаны італьянскім майстрам. Сюжэт абраза просты — маленькі Езус праваю рукою як бы благаслаўляе, а леваю рукою падае Маці гранат. Зярняткі граната — як сімвал мноства душаў веруючых людзей...

Перад вачыма — чырвань граната і белы снег...

Асацыяцыі вярнулі мяне ў сямідзясятыя гады, дакладней, у красавік 1972 года.

Калісьці я быў удзельнікам моладзевай мастацкай выставы, на якой экспанавалася мая скульптура «Маці з дзіцем». Выразны сілуэт камазіцыі быў змешчаны на першай старонцы часопіса «Творчасць» ( 4), і гэтым быў пазначаны мой першы крок у прафесійнае мастацтва. Увогуле першая мая прафесія — скульптура, але ў апошнія гады я займаюся жывапісам, захапляе й традыцыйнае кавальства Беларусі... Калісьці ў юнацтве я правёў цэлае лета на радзіме сваіх продкаў у вёсцы Старына, на Чэрвеньшчыне, — дапамагаў бацькаваму стрыечнаму брату, дзядзьку Міколу, кавалю... Пра тыя незабыўныя ўражанні напісаў паэтычную імпрэсію «Сонцакрыж».

***Сонцакрыж***

*Уначы грымела навальніца. Часам біў пярун.*

*Маці хрысцілася і супакойвала нас. Стомленыя страхам ад роскатаў грому, малыя хаваліся пад коўдру і засыналі...*

*На раніцу спалі доўга, сонца ўжо паспявала высушыць глебу,*

*а ад начнога дажджу заставаліся сляды маленькіх каньёнчыкаў высахлых ручаёў, у якіх, калі добра ўгледзецца, можна было назбіраць*

*жменьку цікавых каменьчыкаў, жменьку прыгожых шкельцаў, ды нават знайсці некалькі медных манетаў.*

*Часам трапляліся зусім малазразумелыя металічныя рэчы, аб прызначэнні якіх мы маглі толькі здагадвацца.*

*Час усё гэта моцна так ператрусіў, так спрасаваў, што толькі па гэтых рэштках-слядах магчыма ўзгадаць аб нечым у мінулым...*

*Зямля была абмыта дажджом настолькі чыста, што здавалася, ніводная пылінка не магла ўзняцца ў паветра; ад гэтага неба рабілася асабліва блакітным, празрыстым і чыстым.*

*Недзе апоўдні пачыналі праплываць белыя пухавіны аблокаў, што як плылі сабе, так і плывуць, а час і зямля назапасілі мноства новых парэшткаў-слядоў...*

*Зямля і Неба!..*
*Бацька і Маці.*
*Сонца і Крыж...*
*Дзе сляды нашыя? Ці не ў промнях*
*СОНЦАКРЫЖА?..*
*Бацька Крыж!*
*Маці Сонца!*
*Промні СОНЦАКРЫЖА ззяюць вечна!*

* * *

*Гэта травінка, гэты каменьчык.*
*Сонца адбітак, у крыніцы праменьчык.*
*Свет над Бажніцай на захад ці ўсход,*
*Гэта і смутак, і радасць, і ўзлёт...*

*Гэта жыццё і душа чалавека*
*Над Беларуссю лунаюць спрадвеку.*
*Час і прастора ў кругазварот,*
*Сімвалам-верай пазначан народ.*

*Воблакам-хмараю неба засціла,*
*Чорным крылом СОНЦАКРЫЖ засланіла,*
*Выпусціў з рук бліскавіцы Дажджбог,*
*У цемры заззялі скрыжалі дарог.*

*Віліся з попелам груганоў зграі,*
*Ветры ў званіцах званы калыхалі.*
*Не абуджаецца стомлены люд —*
*Дзе знайсці сілу, каб пазбавіцца пут?*

*Цяжка са стогнам мяхі ўздыхнулі,*
*Стылае вугалле ветрам кранулі,*
*Хваляю ўецца жалезны прамень,*
*Гартам ствараецца сонцаструмень.*

*Так і сплываюць у прасторы і часе*
*Цяжар журбы, радасці, слёзы...*
*Лёс наш такі — выпрабаванне,*
*Сонцакрыжа вечнае ззянне...*

* * *

*А ўвечары над дахам запальвалася сем зорак Вялікага Звязу...*
*Згадваючы пра тое, што пад гэтым дахам мясціліся сем родных тоесных душаў...*
*Наплывала ціхая, празрыстая летняя ноч...*

...А цяпер зіма. Збіраючыся ў Будслаў, хвалюваўся, як там дарога? Ці дабяруся да месца зімовую парою на сваёй «Таёце»? Але надвор'е выдалася спрыяльнае, асабліва снегападу не было. Да Даўгінава шлях мне знаёмы, а там ужо і Будслаў побач. Сумёты снегу абапал дарогі вымагалі быць уважлівым. У вандроўку (з гарачым сэрцам) выбраўся адзін — маляваць у зімовае надвор'е нікога не знайшлося... Да Вілейскага вадасховішча яшчэ было колькі машын — людзі ехалі на зімовую падлёдную рыбалку. Ад Касцяневічаў дарога пайшла праз лес — засыпаныя снегам хвоі былі вельмі маляўнічыя (часам прыпыняў машыну і фатаграфаваў).

...Велічны храм уразіў сваёю архітэктурнай дасканаласцю, нават нейкай скульптурнасцю ў стылі барока, пераходзячага ў класіцызм...

Прастора плошчы, замеценая снегам, надавала касцёлу яшчэ большую ўрачыстасць... Архітэктурная структура галоўнага фасада, вертыкальныя пілястры і калоны, нібыта ружовы арган, гучалі «зімовай сімфоніяй». Пасля кароткай сустрэчы з пробашчам айцом Віктарам, які паказаў мне касцёл, трэба было спяшацца брацца за працу, пакуль не сцямнела. Зімовыя дні кароткія... Алейныя фарбы на марозе хутка ператвараюцца ў густую пасту... Мая звычка не апранаць рукавіцаў ці пальчатак на холадзе змушала працаваць хутка. Галоўнае было зафіксаваць убачанае менавіта ў такіх умовах... Адчуваў сябе, як птушка, — спяшайся, мастак, занатаваць... Потым дапрацоўваў у майстэрні...

А колькі нязвыклых уражанняў выклікала аптычная грызайль, напісаная на біблійныя тэмы! Здзівіла і дасканала намаляваная кампазіцыя сюжэта «Папа Клімэнт VIII перадае абраз мінскаму ваяводу». І гэта зроблена ў далёкіх XVII–XVIII стагоддзях у нас на Беларусі!.. Нашымі майстрамі! Ёсць згадкі, што манументальныя аптычныя грызайлі зробленыя мастаком Казімірам Анташэўскім. Як усё сімвалічна пераплятаецца!.. У маёй майстэрні на варштаце ўжо каля дваццаці гадоў стаіць фігура Людвіка Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлі) — прачытаў у нарысе пра Мінск, што Сыракомля згадваў пра мінскага мастака Казіміра Анташэўскага...

...Будслаў усё як бы спіць. Заснаваны ў 1504 годзе, што пазначана пры ўездзе ў мястэчка, ён не ператварыўся ў буйное месца за гэтыя стагоддзі. І ўражвае менавіта будслаўскі касцёл — сваёю веліччу... Колькі святыняў панішчана на Беларусі, а гэты касцёл захаваўся да нашых дзён...

Маці Божая Будслаўская адорвае сваёю ласкаю людзей і спрыяе ўсім нам так, як могуць спрыяць нам нашы зямныя маці. Памятаю, як калісьці мая сяброўка Хрысціна распавядала мне пра тое, як маці ў маленстве будзіла яе ўранку, каб не спазнілася ў школу. Цеплыня матчынай рукі, якая, нібы сонечны праменьчык, ласкава кранала яе твар, дагэтуль памятаецца ёй...

Так вось і мне мая маці, ужо цяжка хворая, гладзіла рукі й казала: «Твае рукі — мае рукі, успомніш, калі мяне не будзе...»

Намаляваў я будслаўскі касцёл па просьбе рэдакцыі часопіса «Наша вера». Намаляваў яго з радасцю і з адчуваннем творчага шчасця, бо дакрануўся да нашай спрадвечнай святыні, і для мяне гэта было не цяжарам, а прыгожаю прыгодаю і аднадзённым зімовым пленэрам...

*Алесь Шатэрнік,*
*студзень 2013 г.*

*Фота аўтара.*

# Спазнаць радасць і свабоду



*Сучасны чалавек моцна прагне радасці, свабоды, спакою, упэўненасці. Хрысціяніну ўсё гэта можа даць Хрыстус, Жывы Бог, які і сёння жыве ў нашым свеце, што так часта пазбаўляе чалавека гэтых жаданых адчуванняў. Як жа магчыма сустрэць Яго, Жывога Бога? Сустрэць і пачаць супрацоўнічаць з Ім? Пра гэта пісьменніца* ***Ірына Жарнасек*** *гутарыць з айцом дамініканінам* ***Тамашам Мікам****.*

*— Ойча Тамаш! Калі мне прыйшла ідэя пагутарыць з Вамі пра Бога Жывога, Бога, які сёння дзейнічае ў нашым жыцці і пазнаваць якога пакліканы кожны хрысціянін, то адначасна прыйшло ў галаву парадаксальнае пытанне, з якога мы і пачнем нашу гутарку. А хіба можа быць Бог мёртвы?*

— На жаль, можа... Калі чалавек верыць у Яго толькі па традыцыі, бо «так трэба», тады Бог для яго можа быць і нежывы. Калі ён больш проста «прызнае» Яго, таму што так прынята, бо ў свой час быў ахрышчаны, бо да шэрагу вернікаў сябе адносяць ягоныя браты і сёстры, бацькі, сябры... Так робяць многія, але я буду казаць пра сябе. Быў час, калі я нібыта і верыў у Бога, але гэта быў Бог маёй маці, бацькі, бабулі, для якой, дарэчы, было вельмі важна, каб я быў добрым вернікам. Ды мінуў час, бабуля памерла, і ў маім жыцці ўтварылася пустка. Мне вельмі не хапала ў жыцці гэтага чалавека, а Бог маёй маці і майго бацькі, Бог маёй сям'і, але не мой асабісты Бог, не даваў адказу на шматлікія пытанні, што трывожылі маё сэрца.

*— Так бывае: памірае хтосьці з блізкіх, і чалавек не заўсёды здольны перанесці гэтую страту. У выніку ён бунтуецца, абвінавачвае ў страце ўсіх, а часам нават і Бога.*

— У той час мне было вельмі адзінока. Пустэчу, што ўтварылася ўва мне, трэба было чымсьці запоўніць. Так з'явіліся ў маім жыцці сумніўныя сябры, дзяўчаты, алкаголь, наркотыкі... Усё гэта працягвалася цэлых дзевяць альбо дзесяць гадоў. Я адышоў ад Касцёла, пакінуў Бога, жыў сваім новым жыццём. Уяўіце сабе, я нават удзельнічаў у дэманстрацыях супраць Касцёла.

*— Не магу гэтага ўявіць.*

— І тым не менш так было. Я дазваляў сабе непрыгожа выказвацца пра Касцёл і вернікаў, я адмаўляў Бога...

*— Як жа ўдалося вырвацца з гэтага?*

— Пасля майго навяртання я даволі шмат распавядаў людзям пра сябе, сведчыў пра сваё вяртанне да Бога і Касцёла... Але цяпер, з адлегласці часу, я іншымі вачыма гляджу на той перыяд майго жыцця і на ўсё, што са мной адбылося. Я зразумеў такую праўду пра сябе: маёй заслугі ў маім навяртанні проста няма, бо з таго жыцця, у якім я тады сядзеў, уласнымі сіламі проста немагчыма было вызваліцца. Адно што нават у тым балоце да мяне часам прыходзіў успамін пра ранейшае жыццё, дзяцінства, юнацтва, Касцёл... Дзесьці глыбока ў сэрцы гэты ўспамін жыў і час ад часу нагадваў пра сябе.

*— Можа, Ваша заслуга ўсё ж ёсць хоць бы і ў тым, што Вы не дазволілі таму ўспаміну канчаткова памерці ў сваім сэрцы... Няхай сабе і глыбока, але быў у душы сум па Богу...*

— Так, быў... І аднойчы я зноў пераступіў парог касцёла, але на гэты раз у сэрцы была вялікая прага пачуць адказы на тыя пытанні, што заселі ў сэрцы. Я ж скончыў факультэт філасофіі ва ўніверсітэце імя Стэфана Вышынскага, быў «мудры», і мне хацелася выказаць камусьці свае погляды, атрымаць адказы на пытанні.

*— І атрымалі?*

— Атрымаў! Бог прамовіў у маё сэрца так моцна, што супраціўляцца Яму я ўжо больш проста не мог. Ды і не меў аніякага жадання. Парадокс майго жыцця ў той час, без Бога і Касцёла, быў у тым, што я хоць і бунтаваўся, але адначасна любіў слухаць усё, што абвяшчалася з амбоны. Ну-у, як той Ірад, памятаеце?..

*— Вы кажаце, што не было ў гэтай гісторыі вяртання ніякай Вашай заслугі. Ды ці так гэта? Чалавеку ж Бог даў вольную волю, і ён вольны ў тым ліку забіць у самім сабе Бога.*

— Гэта праўда... Ведаеце, калі я першы раз пасля дзевяці гадоў пайшоў да споведзі, мне святар сказаў: «Маліся за добрых сяброў. Маліся, каб знайшліся яны

ў тваім жыцці і дапамагалі табе ісці ўверх, а не ўніз». Вельмі гэта важна, з кім ты ідзеш па жыцці. Ну і такія сябры, дзякуй Богу, знайшліся вельмі хутка. Можна сказаць, гэта яны мяне, а не я іх знайшоў. Усё ў маім жыцці ад таго часу пайшло вельмі імкліва, як хуткі цягнік.

*— А старыя сябры?*

— Напачатку мы яшчэ нейкі час сустракаліся, размаўлялі, але з кожным днём нам усё менш і менш было аб чым гаварыць. Я памяняў жыццё, адмовіўся ад вельмі многіх рэчаў, пачаў жыць у згодзе з навучаннем Касцёла, паводле Божых запаведзяў. Часам ад сваіх ранейшых сяброў я чуў, што я — «цёмны лес, узровень Сярэднявечча», і я зразумеў, што трэба проста развітацца. Цяпер жа мы зноў маем нармальны кантакт, хоць і бачымся вельмі рэдка. Галоўнае, што яны паважаюць мой выбар, прынялі яго.

*— Які быў бы жах, каб не здарылася таго навяртання, каб не дакрануўся да Вашага сэрца Бог Жывы — не было б таксама шмат чаго, у тым ліку і гэтай нашай гаворкі.*

— Я таксама з жахам успамінаю той час і вельмі хацеў бы, каб усяго таго, што са мной тады дзеелася, проста не было ў маім жыцці.

*— І разам з тым не магу не запытаць у Вас вось пра што. Чалавеку звычайна хочацца распавядаць пра сябе толькі прыгожае. Вы ж так ахвотна, не хачу казаць лёгка, распавядаеце пра, як Вы самі кажаце, балота, праз якое прайшлі. У прынцыпе, я гэтага і не выцягвала з Вас, не падштурхоўвала на такую шчырасць. Што кіруе Вамі, калі Вы распавядаеце пра сябе непрыгожае?*

— А мне не настолькі важна, наколькі прыгожа ды пазітыўна тое, што я кажу пра сябе. Гэта проста не мае значэння. Важна тое, што няма такой сітуацыі, у якой Ён адвярнуўся б ад нас і пакінуў. Ён можа змагацца за цябе і дзевяць гадоў, як у маім выпадку, і не стоміцца, і ўрэшце абавязкова пераможа. Дзякуй Табе, Ойча, што перамог!

*— А Вам дзякуй за шчырасць. Вернемся да тэмы нашай гутаркі, да Бога Жывога, які так выразна дзейнічае ў Вашым жыцці.*

— Другі раз я адчуў дотык Жывога Бога, калі перажываў у Варшаве рэкалекцыі, што праводзілі айцы місіянеры з Італіі, якія працуюць на місіі ў Бразіліі. Я тады быў ужо ў ордэне айцоў дамініканаў і ўсялякія харызматычныя рухі не ўспрымаў. Гэтыя ж айцы былі з касцёльнага руху Адновы ў Духу Святым, і таму яны мне не спадабаліся. Памятаю, нам з маімі братамі трэба было ад'ехаць па справе ў Кракаў, дык я ўгаворваў свайго кіраўніка не вяртацца на рэкалекцыі, маўляў, застанемся ў Кракаве, з братамі. Гэта быў такі падман і самога сябе, і братоў, бо мне проста не хацелася вяртацца на тыя рэкалекцыі. Але мяне не паслухаліся і дзякуй Богу, бо там мяне чакала яшчэ адна сустрэча з Жывым Богам, які пасля малітвы нада мною літаральна паваліў мяне на зямлю. Але гэта было ўжо зусім не страшна, бо я ведаў, што гэта Ён паклаў мяне ў часе малітвы на зямлю, гэта Ён пажадаў зняць з мяне маю напружанасць, забраць мою насцярожанасць і недавер. Ён быццам сказаў мне: «Адпачні. Супакойся. Паляжы тут, на падлозе касцёла ў Маёй Прысутнасці». Я ляжаў гадзіны тры — такі быў мой адпачынак у Духу Святым.

*— Калі ласка, ойча Тамаш, патлумачце для тых, хто не ведае, што гэта такое — адпачынак у Духу Святым.*

— Можна сказаць, што гэта фізічная рэакцыя нашага арганізма на Божую ласку. Чалавек у часе спаткання з Духам Святым проста не мае сілы супраціўстаяць гэтай ласцы і падае на зямлю. Ён проста не здольны змясціць у сабе ўсёй моцы Божай ласкі і паддаецца ёй, расслабляецца. У такія хвіліны не хочацца нічога рабіць, нічога думаць, планаваць, за штосьці перажываць. Пан Бог нібы бярэ цябе на свае рукі, кладзе на зямлю і кажа: «Адпачні. Супакойся». Чалавек тады не робіць ніякіх перашкодаў Богу, ён знаходзіцца цалкам у Яго ўладзе, даверы да Яго. Гэта зусім не тое, што ты самлеў, страціў прытомнасць. Ты ўсё чуеш, разумееш, нібы ўспрымаеш, але адначасна табе не хочацца ніякай дзейнасці, табе добра адчуваць сябе безабаронным дзіцем на Божых руках. Часта ў такія хвіліны да чалавека прыходзіць ласка аздараўлення — фізічнага ці духоўнага. У чалавеку ж душа і цела моцна звязаныя, і таму, калі Бог прыходзіць у душу, немагчыма, каб на Яго прыход не зрэагавала цела. У Евангеллі прыклад такой рэакцыі — навяртанне апостала Паўла. Памятаеце, як ён зваліўся з каня і што з ім было потым? Але, вядома, дзеянне Божай ласкі праяўляецца парознаму. Хтосьці атрымлівае дар пазнання, хтосьці дар малітвы мовамі, а да некага прыйдзе такі патрэбны яму супакой. Словам, Бог ведае, каму і што з нас патрэбна.

*— Добра, вернемся цяпер у той час, калі Вы ляжалі на падлозе ў касцёле ў Варшаве...*

— Доўга тады я не мог падняцца, а потым доўга плакаў — усё жыццё праляцела за гэты час перада мною; усе мае грахі, мая нявернасць Богу, крыўды, якія я ўчыніў людзям. Плакаў, курчыўся і думаў, што няма для мяне, такога грэшнага, прабачэння. А потым... потым я, знямоганы, здолеў неяк выціснуць з сябе імя: «Езус». Я паўтараў і паўтараў яго, і мне паціху рабілася лягчэй. Я ляжаў і паўтараў, паўтараў: «Езус! Езус! Езус!..» Потым у нейкі момант прыйшлі да мяне словы: «Езу, Твая міласэрнасць большая за мой грэх». Я прамовіў гэтыя словы, і... усё скончылася, усе мае пакуты адышлі, адплылі ад мяне. Я ад-

чуваў сябе цалкам свабодным! Супакоіўся, памаліўся яшчэ нейкі час перад табэрнакулюмам, падзякаваў Пану Богу 120-м псальмам. Памятаеце:

*Вочы ўзношу свае ўгору, адкуль мне прыйдзе помач.*

*Помач мая ад Пана, што стварыў зямлю і неба...*

Я зразумеў — Бог са мною. Ён, які дзейнічае ў маім жыцці, які лечыць, загойвае нашыя раны, Ён у гэтыя хвіліны тут, зусім блізка, побач... Вядома, патрэбны час, каб загаіліся раны. Не для Бога ён патрэбны, гэты час, але для нас, хворых. Трэба, каб Ён зняў з нашай душы ўсе непатрэбныя напластаванні, як з тае цыбуліны. Трэба, каб Ён дакрануўся да самай сэрцавіны нашага «я». Да таго дня я думаў, што Бог мне прабачыў, я нібы і супакоіўся, але часта на Эўхарыстыі альбо на якой іншай малітве мне раптам моцна хацелася плакаць — мае раны балелі. І толькі пасля тых рэкалекцый я быў духоўна цалкам аздароўлены. Жаль да сябе мінуўся, я пачаў з радасцю служыць майму Богу. І гэта вельмі класнае адчуванне. Хвала Яму!

*— Бога можна пазнаваць living рознымі спосабамі, у тым ліку, напрыклад, праз выяўленчае мастацтва. Праўда, часам не магу пазбыцца адчування, што калі мы шмат гаворым пра нейкі мастацкі твор, які мае на мэце набліжаць чалавека да Бога, то рызыкуем «загаварыць» прадмет размовы і тым самым падмяніць саму веру прыгожымі размовамі на тэму. Як думаеце, айцец Тамаш, ці мае чалавек шанец сустрэць Жывога Бога ў літаратуры, мастацтве альбо праз размовы аб мастацкіх творах?*

— Напэўна... Ніколі невядома, якім шляхам Пан Бог захоча прыйсці да чалавека. Сам я люблю выяўленчае мастацтва, і можна ўбачыць, фальш ці праўда ў духоўным мастацтве, можна адрозніць, ці аўтар пісаў нейкі твор, абраз у малітве, ці проста дзеля твора. Альбо ў іншым нейкім творы моцна адчуваецца ўнутраная барацьба аўтара, як, напрыклад, у абразах польскага мастака Навасельскага. Люблю ягоную творчасць, бо ягоныя іконы праўдзівыя, але... Ікона павінна несці супакой, а ў ягоных творах я адчуваю змаганне аўтара з самім сабою, з Богам. І ўсё ж шчырыя творы прамаўляюць моцна, таму хтосьці і праз іх знойдзе свой шлях да Бога.

*— Не магу не задаць Вам як дамініканіну, як прапаведніку Божага слова пытання пра ролю Божага слова ў духоўным жыцці чалавека. Наколькі важна для сучаснага хрысціяніна рэгулярна чытаць Божае слова?*

— Надзвычай важная! Што ж тычыцца мяне, то я да таго як прапаведаваць іншым Божае слова, найперш моцна перажываю яго сам. Напачатку я кажу казанне самому сабе, а потым ужо людзям. Божае слова, калі яго чытаць шмат, усур'ёз, можа адкрываць чалавеку, як яму ўспрымаць тую ці іншую сітуацыю. Напрыклад, калі я распазнаваў сваё пакліканне, то знайшоў адказы менавіта ў Божым слове. А часта бывае так, што ўжо цяпер яно прыходзіць у маю памяць менавіта ў патрэбны момант. Трэба, скажам, камусьці дапамагчы святарскай парадай, і вельмі хутка прыходзяць на памяць цытаты са Святога Пісання, вельмі выразныя, актуальныя. Гэта цудоўна!

*— Але для таго, каб пачалі прыходзіць такія падказкі, трэба чытаць Святое Пісанне, самому жыць ім.*

— Ну так, трэба яго ведаць, чытаць. Калі чалавек усур'ёз пачынае задаваць сабе пытанні, ці так ён жыве, ці жыве ў згодзе з Божымі наказамі, калі ён захоча набліжацца да Бога, то чытаць Святое Пісанне трэба абавязкова і штодня.

*— Словам, Вы заахвочваеце да такой практыкі чытачоў «Нашай веры».*

— Абавязкова! Я сказаў бы яшчэ больш катэгарычна: адкладзіце пакуль што часопіс, вазьміце ў рукі Біблію і, пакуль не прачытаеце яе, не вяртайцеся да яго.

*— Ойча Тамаш! Але некаторыя нашы чытачы рызыкуюць у такім разе зазімаваць, не дачытаўшы нашу гутарку! Можа ўсё ж дасьцё паслабленне?*

— Я не даваў бы яго! Жарты жартамі, але калі вернік не чытае рэгулярна Божага слова, то як ён можа жыць паводле яго? Як можна тады падтрымліваць цесную сувязь з Богам? Біблія мусіць быць у хрысціяніна заўсёды пад рукою. Мы часта любім атачаць яе такім залішнім пафасам: паставім яе на бачнае месца, дзесьці на палічку пад абразамі, і часам забываем дацягнуцца рукой да тае палічкі. А Біблія няхай будзе ў спальні, на кухні, там, дзе чалавек найбольш бывае. Божае слова тады стане для нас жывым, калі мы будзем да яго звяртацца ў штодзённым жыцці, а не тады, калі нам няма чаго рабіць.

*— Былы генерал ордэну дамініканаў айцец Цімаці Радкліф пісаў у адной са сваіх кніг, што ён найвыразней адчувае Бога ў прыродзе. А Вы?*

— Я, ведаеце, малафранцішканскі, таму я, напэўна, менш Яго адчуваю ў прыродзе.

*— Малафранцішканскі? Упершыню чую такі выраз.*

— Часам жартуюць, што францішкане моцна адчуваюць Бога ў прыродзе, ідучы ўслед за сваім заснавальнікам, ну а мы, дамінікане, шукаем Яго ў кнігах... Гэта, вядома, жарт, але ў кожным жарце... Што ж да мяне, то я найвыразней адчуваю Бога праз людзей, якіх сустракаю. Не толькі праз братоў са свайго ордэну, але і праз іншых святароў, свецкіх, праз сяброў, знаёмых і незнаёмых, праз тое, што перажываюць людзі ў тых ці іншых сітуацыях. І гэта зразумела: Хрыстус гаворыць да нас праз чалавека, бо Ён сам стаўся чала-

векам. Мне, напрыклад, шмат дапамагаюць пазнаць самога сябе хлопцы і дзяўчаты з нашай парафіі, нават калі мы і не гаворым пра гэта. Нам дадзены іншыя людзі ў тым ліку і для таго, каб мы лепш пазнавалі саміх сябе.

*— Гэта проста цудоўна, тое, што Вы кажаце! А цяпер парайце, калі ласка, як сустрэць Бога ў тым чалавеку, які брудны, у лахманах ляжыць на дарозе ці ў калюжыне?*

— Усё магчыма. Пакуль чалавек жыве, у яго яшчэ ёсць шанец паправіць сваё жыццё, бо ён яшчэ ў дарозе. Мы баімся такіх людзей, не падыходзім да іх, бо думаем, што для іх ужо ўсё скончана. А тым часам... Нам важна разумець: тое, што мы маем, — працу, жытло, сям'ю, сяброў — мы маем не дзякуючы нашым заслугам. Вядома, трохі ёсць тае заслугі, бо працуем, прыкладаем свае намаганні, імкнемся берагчы час, але ўсё ж аснову ўсяго гэтага дае нам Бог. Варта памятаць, што няма ў нас гарантый не апынуцца заўтра альбо паслязаўтра на месцы бяздомнага жабрака альбо яшчэ кагосьці, чыё становішча нас адштурхоўвае.

Мне гэтая тэма блізкая, бо я ў свой час працаваў у Кракаве ў супольнасці, што апякуецца бяздомнымі. Давялося шмат сустрэць бедачынаў, якія распавядалі, як яны паехалі на заробкі, а вярнуліся і не знайшлі нічога з таго, што пакінулі, — ні жонкі, ні дома, ні дзяцей... У выніку — раз выпіў, другі, а потым і пайшлопаехала. Не сустрэў той чалавек у цяжкі для яго час нікога, хто б яму дапамог, падаў руку. Адсюль і падзенне. Нам варта вучыцца бачыць у кожным чалавеку чалавека. І пакуль мы ў тым брудным абарванцы не ўбачым чалавека, няма чаго думаць пра тое, як знайсці ў ім Бога.

*— Цудоўныя словы. Скажыце, а Вы ўмееце любіць усіх людзей?*

— Спадзяюся, так. А зрэшты... не ведаю... Пра гэта трэба ў іх пытацца. Ва ўсялякім разе, я спрабую гэта рабіць. Хіба што наша памылка часта ў тым, што мы спяшаемся рабіць высновы, шмат чаго не ведаючы пра іншага чалавека. Да таго ж, нас можа шмат хто раздражняць, у тым ліку і хрысціяне, вернікі, але ж гэта не супярэчыць любові.

*— А якія хрысціяне Вас раздражняюць?*

— Напэўна, тыя, якія больш шукаюць ворагаў у сваім жыцці, ворагаў Касцёла, чым самога Бога. Напэўна, тыя, якія, прыкрываючыся традыцыяй, ператвараюць жывое хрысціянства ў музей.

*— Патлумачце, калі ласка, што Вы маеце на ўвазе пад «музеем»?*

— Напрыклад, калі казанне прамаўляецца такой пафаснаю моваю, што людзі ажно баяцца слухаць, бо яны не разумеюць і не ўспрымаюць таго пафасу.

*— Ойча Тамаш, а не баіцеся нажыць нядобразычліўцаў пасля гэтых словаў?*

— Не. А калі б і баяўся, то ўсё роўна не маю права маніць — Бог жа ўсё чуе. «Музейнае» хрысціянства было б, напрыклад, і тады, калі б я паводзіў сябе ў хабіце лепш, чым без яго, калі б хаваў за знешнім абліччам сваё сапраўднае «я».

*— Парайце, калі ласка, як практыкуючым хрысціянам, тым, якія ўжо маюць досвед веры, сустрэць у сваім жыцці Жывога Бога.*

— Я думаю, што найперш трэба жадаць Яго сустрэць, прызнацца самому сабе, што яшчэ не сустрэў. І шукаць. У Святым Пісанні, у разважанні, у асабістай малітве. Не хавацца за розныя формулкі, а моцна жадаць і рабіць усё магчымае. Не баяцца задаваць самому сабе пытанні, напрыклад: «Чаму я пайшоў сёння на Эўхарыстыю? Чаму малюся? Чаму не малюся? Чаму іду да споведзі?» Не баяцца задаваць сабе пытанні і дабівацца адказаў. Часта бывае так, што людзі і ставяць пытанні, але не маюць настойлівасці і жадання атрымаць адказы. Не трэба іх баяцца.

Апроч малітваў і розных распаўсюджаных практыкаў, яшчэ рэкамендаваў бы медытацыю. Паспрабаваць падымацца трохі раней, на хвілін 15, і пабыць ранкам з Хрыстом, даверыць Яму свой дзень, усё, што чакае ў гэты дзень, усё чаканае і неспадзяванае. Карысна нам у сучасных жыццёвых рытмах знаходзіць час, каб суцішыцца, пабыць з Ім. Варта навучыцца знаходзіць у саміх сабе супакой.

*— Сапраўды, свет мы не суцішым, а сябе, калі пастараемся, можам.*

— Так. І вельмі важна не адступацца, а калі ўжо пачалі практыкаваць ранішнюю медытацыю, то практыкаваць яе з дня ў дзень.

*— Чым бы Вы хацелі закончыць нашу гутарку?*

— Яшчэ раз сцвердзіць: Бог Жывы — гэта не выдумка, не нейкая там гісторыя. Ён ёсць. Ён і сёння дзейнічае ў нашым жыцці: і надалей аздараўляе, падтрымлівае нас, супакойвае, дае надзею. Калі б я раней, да свайго навяртання, прачытаў кнігу айца Эміліяна Тардзіфа «Езус жыве!», то падумаў бы, што гэта казкі, гэтага проста не можа быць. Бо там распавядаецца, як на ягоных служэннях навярталіся сотні людзей, сотні аздараўляліся. Цяжка паверыць? Але цяпер, калі я сам стаў сведкам неспадзяваных фізічных і духоўных аздараўленняў, навяртанняў, калі сам гэта перажыў, то я проста ў гэта веру. Жывы Бог дае нам свабоду. Сустрэўшы Яго, мы самі ажываем, знаходзім радасць.

*— Хіба што самы час пажадаць нам і самім сабе, і нашым чытачам гэтай вялікай радасці і свабоды, якую дае хрысціяніну Жывы Бог. Дзякуй, ойча Тамаш, за гутарку!*



Ірына Жарнасек

# З пакутаў, мучэнняў, ахвяры...

*Крывавіў боль, надзея палымнела,*
*сплывалі слёзы воскам на алтар.*
*О Беларусь, мой галубочак белы*
*ад чысціні нязлічаных ахвяр.*

Ларыса Геніюш

* * *

Бывае часам так, што чалавек забудзецца, што з ім адбылося ўчора, а тое, што было даўным-даўно, памятае да драбніцаў. Засядзе раптам у памяці нейкая даўняя сустрэча, размова і стане часткай твайго жыцця. Тую размову з сястрой Ядвігай Віршутай з манаскага ордэну сясцёр эўхарыстак, якая адбылася ў халаднаватым драўляным дамку сясцёр у Полацку на пачатку 90-х гадоў, я памятаю, здаецца, да драбніцаў. Памятаю, як на стале, пры якім мы сядзелі, стаялі кубкі з гарбатай, да якой я за дзве гадзіны нашай размовы так і не змагла дакрануцца. Памятаю, як я душылася слязьмі, а сястра Ядвіга гаварыла й гаварыла, нізка звесіўшы галаў. І мова яе была такой цяжкай! Яна распавядала мне пра росіцкую трагедыю... Потым у нас яшчэ будзе шмат размоваў з ёй пра Росіцу, у якой яна некалі разам з іншымі сёстрамі ды айцамі марыянамі Антоніем Ляшчэвічам і Юрыем Кашырам да таго, як разыгралася там крывавая трагедыя, распавядала людзям пра Бога. Потым адзін за адным з'явяцца мае артыкулы ў каталіцкай прэсе, потым — фільм «Да хвалы алтара», раман «Будзь воля Твая», сярод герояў якога будзе і яна, сястра Ядвіга...

* * *

Малады хлапец, які ехаў у гарадскім аўтобусе, абмінаючы нешматлікую калону полацкіх пілігрымаў, пакруціў нам пальцам каля скроні. Пакруціў і штосьці пракрычаў. Памятаю, як шкада мне было тады пасажыраў аўтобуса, бо па ягоным дурасліва-здзеклівым выглядзе можна было ўявіць — «кампліментаў» на адрас калоны, на

**Ірына ЖАРНАСЕК** — пісьменніца, рэдактар часопіса «Маленькі рыцар Беззаганнай». Нарадзілася ў вёсцы Чаранкі на Глыбоччыне. Піша прозу, публіцыстыку, перакладае з польскай мовы. Аўтар кніг прозы «Ліст да сына», «Гульні над студняй», «Гадара», аповесці-казкі «Спрэчка анёлаў», рамана «Будзь воля Твая». Жыве ў Наваполацку.

чале якой калыхаліся крыж, харугвы з выявамі Маці Божай ды святога Андрэя Баболі, ён не пашкадаваў. Так вось яно і бывае: правіняцца адны, а атрымаюць на гарэхі зусім іншыя. Наша ж «правіна» была ў тым, што тае пахмурнае жнівеньскае раніцы мы выходзілі з Полацка за няблізкі свет — у Росіцу, што на ўскраі Беларусі, на самай мяжы з Латвіяй. Мы ішлі на святое для беларускіх католікаў месца. У Росіцы ў 1943 годзе гітлераўцы спалілі больш за паўтары тысячы мірных людзей — так яны помсцілі партызанам, якія хаваліся ў густых лясах Дрысеншчыны ды час ад часу дапякалі ім. Больш за паўтары тысячы жывымі згарэла тады ў Росіцы, у попел ператварыліся дзясяткі вёсак вакол яе, шмат працаздольных было адпраўлена ў фашыстоўскія канцэнтрацыйныя лагеры. Ніхто з тых людзей, замкнёных на двое сутак у вялізным росіцкім касцёле ў чаканні гітлераўскай «сарціроўкі», не меў выбару — жыць альбо памерці. За іх гэта вырашалі двуногія істоты ў форме латышскіх паліцыянтаў ды некалькіх мясцовых. Хоць, зрэшты, і не яны вырашалі, яны толькі бяздумна выконвалі тое, што загадалі іх гаспадары. А тыя ўжо «вырашылі» за сотні жыхароў з Ліпавак, Цагельнікаў, Шабалоў, Суніцаў, Мяжалаў, Плігавак, Ворзава... (усяго за два дні карнай акцыі было спалена разам з жыхарамі больш за 40 вёсак блізу Росіцы).

Толькі два чалавекі мелі права выбару ў росіцкім касцёле — айцы марыяне Юры Кашыра і Антоні Ляшчэвіч. Толькі яны маглі выбраць жыццё. А яны выбралі смерць. Бо не пажадалі пакінуць у жудаснай бядзе людзей, якіх вялі да Бога пры жыцці. Пажадалі раздзяліць з імі і смерць. «Па ўласнай волі выбраць смерць?» — магчыма, пасміхнуўся б той самы хлопец, які спрабаваў давесці нам праз запырсканае гразёй вакно аўтобуса, што мы дурні. І, магчыма, ён зноў пакруціў бы пальцам каля скроні...

* * *

Калі пятнаццаць гадоў таму я разам з сынамі ўпершыню выпраўлялася пілігрымам з Полацка ў Будслаў, адзін мой знаёмы, пачуўшы, што нас чакаюць 150 км, якія мы павінны перамераць сваімі нагамі за пяць дзён, таксама крутнуў пальцам каля скроні ды яшчэ й павучыў: «Запамятай: важна, не *як* ісці альбо ехаць, але *куды*». Не стала яму гаварыць, што здагадваюся, куды іду, не стала тлумачыць, чаго шукаю на тым шляху. Даўно зразумела: дыскусіі на гэтую тэму маюць тую ж вартасць, што і сцвярджэнні накшталт: «Каталіцкая вера добрая, бо ў касцёле ёсць лаўкі і арган, а кепская, бо ксяндзы не жэняцца».

Пасля тае першае маёй пілігрымкі я надрукавала ў часопісе «Ave Maria» свой «Дзённік пілігрыма», прачытаўшы які, шаноўны Янка Брыль жартаваў: «Чытаў, чытаў, як ты там пад Будславам то разувалася, то зноў абувалася ды няньчыла свае мазолі». А потым з лёгкаю скрухаю дадаў: «А я ў Будславе не быў, не давялося неяк... Паўліна Мядзёлка там жыла...» Ну што ж, шкада, што не быў у Будславе дарагі Іван Антонавіч і не пабачыў ні хаты, у якой жыла некалі Паўліна Мядзёлка, чый прыгожы партрэт і цяпер беражліва захоўваецца там, не пабачыў і высознай базылікі з яе цудоўным абразом ды ўнікальнымі роспісамі на сценах. Шкада. Неяк пачула, што ў Будславе павінен пабыць кожны беларус, і я згодная з гэтым.

Ну а ў Росіцы? Ці трэба кожнаму беларусу пабыць у Росіцы?

Месца людской пакуты адпужвае... Хоць ездзяць жа вунь адна за адной экскурсіі ў Хатынь. Ёсць у Хатыні на «могільніку вёсак» і сімвалічная Росіца. Аднаго разу была там са знаёмым святаром з Нямеччыны. Хадзілі з ім па маўклівым, бязлюдным мемарыяле пад кастрычніцкім воглым дожджыкам, распавядала яму пра горкую сімволіку Хатыні, а ён раптам пад гукі хатынскіх званоў ці то заспяваў, ці то пракрычаў малітву: «Які за нас цярпеў ад ранаў, Езу Хрыстэ! Змілуйся над намі!..».

* * *

Адзін з удзельнікаў росіцкай трагедыі, якому ў 1943-м было ўсяго нейкіх гадкоў дзесяць, распавядаў мне, як яны з маці пайшлі на жудаснае папялішча вёскі Вопытная, на месца хлява, у якім карнікі спалілі жывымі старых і дзяцей. Там згарэла і ягоная бабуля. Прыйшлі і ўбачылі некалькі ацалелых каля долу абвугленых, счарнелых бярвенняў, каля якіх стаялі на каленях... чалавечыя шкілеты. Так і не знайшоў хлапчына сваёй бабулі. Мужная сястра Ядвіга, якая таксама слухала той аповед, з веданнем справы сказала: «Трэба было пад каленьмі глядзець — можа б, і знайшлі якое адзенне пад каленьмі». З уласнага досведу казала, бо пасля росіцкай трагедыі яна разам з яшчэ адной гэткай жа мужнай сястрой разграбала жудасны попел Росіцы ў надзеі знайсці парэшткі святароў. Не знайшлі. Але затое ўбачылі знак, які дапамог жыць далей і не зняверыцца. Сярод іншых яны ўбачылі шкілет чалавека, рука яко-



га ад локця да кончыкаў пальцаў засталася белай, некранутай агнём, а ў пальцах тае рукі быў заціснуты блакітнага колеру ружанец...

*Малітва на вуснах застыла.*
*Ружанец рука затрымала.*
*Да Бога душа узляцела*
*З пакутаў, мучэнняў, ахвяры...*

Мой суразмоўца паслухаў сястру Ядвігу, перажагнаўся і скрушліва ўздыхнуў — не здагадаліся яны з маці ды й ніхто іншы з ацалелых вяскоўцаў шукаць рэштак адзення пад каленьмі. Потым ён распавёў і такое...

Пасля трагедыі ў балінаўскай капліцы (гэта за нейкіх кіламетраў 5–6 ад Росіцы) служыў... нямецкі святар. Хутчэй за ўсё, гэта быў нямецкі капелан. Дык майму суразмоўцу давялося ў яго спавядацца. Праўда, ці не за трэцім разам той дапусціў яго да споведзі, бо хлопчык ніяк не мог расказаць яму пацеры. Дома маме казаў гэтаксама бойка, як некалі айцу Антонію Ляшчэвічу, з рук якога прымаў сваю Першую святую Камунію ў Росіцы, а цяпер вось прыходзіў у капліцу і пад уважлівым позіркам чужаземнага святара ўвесь сціскаўся ад страху ды збіваўся. За трэцім разам пад тым позіркам... усікаўся. Ды святар на ягонае здзіўленне пасля такой «выхадкі» не стаў сварыцца, нават не прагнаў, але нечакана прыгарнуў да сябе ды павёў да спавядніцы.

Не пазайздросціш, вядома, таму «новаму нямецкаму хрысціяніну», які адважыўся сумясціць у сабе несумяшчальнае — Бога і нянавісць. Цікава, аб чым думаў ён начамі ў чужых для яго Балінах, блізу Росіцы, што ляжала ў попеле? Якімі яму бачыліся ягоныя канфратры — беларускія святары Антоні і Юры, што пайшлі ў агонь разам са сваімі вернікамі? У агонь, раскладзены на нашай зямлі ягонымі суайчыннікамі?..

* * *

*Зіма дарэшты счарнела,*
*Сцюжа полымем плача,*
*У Росіцы анямелай*
*Усмешкі на твары не ўбачыш...*

З нетраў гэтай гісторыі нібы на яве бачыцца мне і яшчэ адна постаць — яшчэ аднаго нямецкага афіцэра, які пасля трагедыі прыехаў з перакладчыцай у Друю, у дамок сясцёр эўхарыстак. З кожнай сястрой, якія ў дні трагедыі былі ў Росіцы і для якіх айцец Антоні Ляшчэвіч выпрасіў у кіраўніка карнай акцыі жыццё, нямецкі афіцэр падоўгу размаўляў. Адной з ягоных суразмоўніцаў была і мая сястра Ядвіга. Афіцэр пытаўся, чым займаліся сёстры да трагедыі ў Росіцы, пытаўся пра айцоў марыянаў Антонія і Юрыя, пра іх службу, стасункі з людзьмі, партызанамі, з немцамі, падрабязна распытваў пра карную акцыю. Ягоная сакратарка друкавала ўсё пачутае на машынцы. Была гэта доўгая размова.

Засталося таямніцай, хто быў той афіцэр. Але я амаль не сумняваюся ў тым, што менавіта ён стаў аўтарам таго ананімнага дакумента на нямецкай мове, які пасля вайны прыйшоў па пошце ў генеральны дом айцоў марыянаў у Рыме. На некалькіх старонках машынапіснага тэксту ў тым дакуменце панямецку была выкладзена гісторыя росіцкай трагедыі... Значыць, усё ж былі і сярод іх людзі.

* * *

Ніна Філіпчык. Маё знаёмства з ёю было вельмі кароткім — усяго паўдня пілігрымкі ў Росіцу, куды мы вырушылі разам у жніўні 2002 года з Полацка. Вырушылі разам, але толькі мне лёсіла дайсці да Росіцы — яе жыццёвая пілігрымка абарвалася за Наваполацкам, каля могілак з надзіва адпаведным для гэтага месца назовам — Глінішча. У калону пілігрымаў на шалёнай хуткасці ўрэзаліся «Жыгулі», і Ніна, нават не ўскрыкнуўшы, загінула на месцы ад таго ўдару. Праз хвіліну з машыны выкуліўся п'яны кіроўца, недапітую яшчэ адну пляшку «чарніла» ён выліў потым на зямлю на нашых вачах...

Зло ашчэрыла сваю пашчу на гэты раз на маладую дзяўчыну, зямлячку дзядзькі Ігната Буйніцкага, выпускніцу полацкага ўніверсітэта...

*Вецер галосіць у Росіцы,*
*Вецер хаўтуры спраўляе,*
*Моліцца ўсцяж па нябожчыках,*
*Якія ў пакутах сканалі:*

*«Божа ласкавы, злітуйся!*
*Стогне зямля ахвярамі.*
*Росіца стала пакутніцай...*
*Вечны спачын дай ім, Пане!..»*

У 2002 годзе нас прыйшло з Полацка ў Росіцу ўсяго толькі адзінаццаць свецкіх пілігрымаў, сястра манахіня і два святары. Астатнія не змаглі справіцца з шокам пасля трагедыі — вярнуліся дахаты. Мы ж неяк сабралі рэшту сілаў і дабрылі. Тая пілігрымка застанецца ў памяці на ўсё жыццё суцэльным горкім камяком у горле. А праз некалькі месяцаў, у часе следства па тым здарэнні, смерць забрала і яшчэ аднаго ўдзельніка тае трагедыі — кіроўцу. Калі пачула пра гэта, упершыню падумала, што ў таго чалавека ўсё ж было сумленне, якое не дало яму сілы жыць пасля Нінінай смерці. А можа, гэта сам Пан Бог — Суддзя Справядлівы — учыніў свой праведны суд?

* * *

Малітва ў Росіцы. Магу сведчыць, што яна адрозніваецца ад малітвы ў нейкім іншым месцы. Тут нам хочацца больш разважаць пра тое, чаму ў нашым жыцці адбываецца ўсё менавіта так, а не іначай, чаму ў ім столькі бедаў, трагедый, столькі дурноты й паскудства. Ужо так сталася, што за гэтыя гады Росіца стала для мяне своеасаблівым сімвалам Беларусі. Спаленая, знішчаная, разрабаваная. Але жывая. І вельмі прыгожая сваімі вербамі ды ліпамі, сваім азяркам, у які ўзіраюцца наноў пабудаваныя на страшным папялішчы хаты ды агромністы чырвоны гмах скалечанага касцёла, чые вежы ляглі друзам да ягонага падмурку напрыканцы трыццатых гадоў — так улада рыхтавалася да вайны ў прымежнай зоне.



Адна знаёмая мінчанка сказала неяк, што падлогу ў росіцкім касцёле нізавошта нельга мяняць, бо яна нейкая тут асаблівая. Зразумела, чаму. Бо гэтыя зацёртыя бязлітасным часам пліты нібы набрынялі людскімі слязьмі, малітвамі, думкамі. Двое сутак на гэтай падлозе людзі чакалі вырашэння свайго лёсу, каму — на смерць, каму — на жыццё. Яны маліліся на ёй разам са сваімі пастырамі, слухалі іх словы падтрымкі пра знікомасць жыцця і бясконцую вечнасць. Як у тым псальме:

*Гады нашыя прамінаюць,*
*як трава,*
*А Ты, Божа, трываеш вечна.*

Святарскія словы маглі застацца адно словамі, калі б пасля іх айцы Юры і Антоні не зрабілі гэтага ашаламляльнага ўласнага выбару — пайшлі разам з тымі, чыя дарога пралягла з ганку касцёла ў агонь.

Таму малітва па дарозе ў Росіцу і потым, у часе ўрачыстасцяў, асаблівая. Людзі тут не саромеюцца казаць пра свае болькі: тут просяць маліцца за вызваленне сына альбо мужа ад алкагольнай залежнасці, тут дзеляцца досведам выбаўлення з гэтае бяды, тут моляцца за пашану да кожнага чалавечага жыцця — і ў глыбокай старасці, і ў матчыным улонні. І ўсё гэта — малітва за нашу Бацькаўшчыну. Часам на малітву ў Росіцу прыязджаюць вернікі і з Латвіі. Найчасцей гэта нашы землякі, якія жывуць цяпер там, — суседзі ж, такія блізкія суседзі. У многіх з іх засталіся ў росіцкім попеле бацькі, браты, сёстры...

* * *

Чаму яны змаглі падняць на нас руку, нашыя суседзі латышы ў 1943-м? Менавіта латышскія батальёны сталі асноўнымі выканаўцамі карнай акцыі на Дрысеншчыне пад здзеклівым назовам «Зімовае чараўніцтва». Як гэта ні балюча, але дапамагалі ім таксама і мясцовыя паліцыянты. Што адчуваў чалавек, які заганяў у хлеў дзяўчыну, з якой разам нядаўна хадзіў у скокі на вечарыне, не магу ўявіць. Ну а кіравалі акцыяй, вядома, немцы — яны зазвычай грэбавалі бруднай працай, выкарыстоўвалі для яе сваіх паслугачоў. Кажуць, цяпер у Латвіі некаторыя тлумачаць удзел латышоў у той страшнай акцыі помстай за дзікунскую крыўду, нанесеную іх народу сталінскім рэжымам напярэдадні вайны.



...Была я ў гэтых дамах на латышскіх хутарах, у вялізных, prасторных дамах, побач з якімі зазвычай грувасцяцца доўгія хлявы, пуні, дрывотні. Усё тут кажа пра тое, што жылі тут некалі дбайныя гаспадары, рабілі не абы з плячэй, а на гады. Таму беларусам з маёй роднай Глыбоччыны, што ў 60-я гады ўцякалі ў Латвію ад хрушчоўскай кукурузы, хапала месца ў такім доме на некалькі сем'яў. Нам, падлеткам, тады было дзіўна: чаму ў Латвіі так шмат вольнага месца? Хто там набудаваў для нашых людзей столькі жытла? Адкуль жа нам было ведаць тады пра трагедыю гэтага народа, што абрынулася на яго напярэдадні мінулай вайны? Пра мусовае высяленне гаспадароў тых хутароў разам з іх сем'ямі ў бязмежныя сцюдзёныя прасторы Расіі мы тады яшчэ нічога не чулі, як, зрэшты, да крыўднага мала ведалі ад нашых бацькоў і пра тое, як іх саміх выганялі з абжытых кутоў «другія Саветы», што заявіліся ў Заходнюю Беларусь пасля пакту Молатава — Рыбентропа. Пра бочку самагону ды вялізны жбан мёду, якімі адкупіўся мой бацька ў мясцовых начальнікаў ад высылкі ў краі далёкія ды суровыя, я пачула ўжо дарослая. Нашай сям'і пашчасціла — бацька адкупіўся. Не думаю, што не было чым адкупіцца латышскім гаспадарам, але там гэта ўсё было значна страшней. Дэ-пар-тацыя...

Ды толькі чаму латышы праз тры гады пасля яе помсцілі за тую жудасную дэпартацыю пятнаццацігадовай Ганцы з Ліпавак, што за 5 км ад Росіцы? На Ганчыных вачах латышскія карнікі спалілі ў хляве яе маці і брата, стрыечных братоў і сясцёр, а саму яе напаўраздзетую разам з часткай ацалелых ад агню ліпаўцаў пагналі па лютаўскім марозе ў сцюдзёны росіцкі касцёл. Чаму, пакрыўджаныя на Сталіна, нашы суседзі шпурлялі ў агонь нашых дзяцей, туды ж гналі іх бабуляў і дзядуль, а іх маці па загадзе немцаў адбіралі для канцлагераў? Чым правініліся тыя дзеці перад імі? Тым, што за іх не маглі заступіцца іх таты, бо напярэдадні вайны былі высланыя з прымежнай зоны «пільнай» сталінскай улады, якая гэткім чынам нібыта рыхтавалася да вайны? Напярэдадні вайны ў некаторых вёсках вакол Росіцы не было ніводнага працаздольнага мужчыны — усе сасланыя невядома куды... Ганчын бацька — таксама...

* * *

Да нядаўняга часу не было вядома, куды праляглі пакутніцкія шляхі з росіцкага касцёла яшчэ двух святароў, якія служылі ў ім напярэдадні вайны, — Пятра Капусты і Эдварда Вайцяховіча. Ксёндз Эдвард напярэдадні свайго арышту, прадчуваючы яго, замураваў ў сцяне сакрыстыі касцёльнае начынне — на той выпадак, калі хтосьці калісьці зноў распачне службу Богу ў росіцкім касцёле. А можа й сам спадзяваўся яшчэ вярнуцца да сваіх абавязкаў.

Толькі ў 90-я гады стала вядома, як склаліся іх пакутніцкія лёсы. З ціхай маляўнічай Росіцы — у жудасны салавецкі лагер. Ксёндз Эдвард Вайцяховіч быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання 3 лютага 1935 г., а ксёндз Пётр Капуста расстраляны ў салавецкай турме 1 лістапада 1937 г.

...Чамусьці здаецца, што гэта ў кагосьці з іх цэліцца энкавэдыст на адным з барэльефаў Валяр'яна Янушкевіча на дзвярах касцёла святога Андрэя Баболі ў Полацку. Побач, на тых жа дзвярах, — сцэны расправы Пятра І над базыльянскімі манахамі ў святой Сафіі, забойства Язафата Кунцэвіча; ёсць там і барэльеф, прысвечаны росіцкай трагедыі. Дзверы гэтыя адначасна і твор мастацтва, і горкі напамін аб пралітай крыві за хрысціянскую веру на нашай зямлі. Пра тое ж распавядаюць і насценныя фрэскі. І ўсё гэта разамператварыла полацкі касцёл у своеасаблівы помнік тым,

хто аддаў свае жыцці за веру Хрыстову на нашай зямлі.

* * *

Сам касцёл у Росіцы стаў маўклівым і сведкам, і помнікам трагедыі — вялізны чырвоны гмах сёння, як і тады, задуменна глядзіцца ў блакітнае азярко. З тае трагедыі ацалеў ён адзін. Згарэлі хаты, людзі, адно што іх дабро гаспадарлівыя суседзі вывезлі на шматлікіх павозках. Сястра Ядвіга казала пра трыста запрэжаных санямі коней, на якіх карнікі вывозілі нажытае вяскоўцамі дабро.

На адной з такіх павозак паехалі і посцілкі з Ганчынай хаты, якія выткалі ды вышылі рукі яе маці. Яна потым пазнала іх — посцілку і сурвэту, вышытую кветкамі, — у адным латышскім доме, куды, схуднелая, гнаная голадам, прыйшла на заробкі пасля таго, як вярнулася з Нямеччыны ды спрабавала пачаць зноў жыць, ужо без мамы і таты, без дарагіх яе сэрцу людзей.

...Пасля пяці канцлагераў вярнулася Ганка ў свае спаленыя Ліпаўкі, выплакалася на месцы хлява, што стаў магілай для яе родных, а потым выкапала зямлянку і... пайшла да багацейшых суседзяў з надзеяй наняцца да іх ды зарабіць якое вядро зерня ці бульбы. Там і пазнала посцілкі са сваёй хаты. І... пацямнела ўваччу...

* * *

Калі яна пачалася, трагедыя Росіцы? 16 лютага 1943-га, калі атрады карнікаў вырушылі ў белых маскіровачных касцюмах з друйскага кляштара, дзе па горкай іроніі лёсу, рыхтуючыся да расправы, закватаравалі на суткі, праз Дзвіну, выпальваючы ўсё жывое на сваім шляху?

Ці тады, калі рукою нейкага фашыстоўскага вайсковага чына было накрэслена на нямецкай мапе нашай зямлі чорнае тлустае кола з гэткімі ж тлустымі стрэлкамі, скіраванымі на маленькую кропку — «Rasica»? Паэт Сяргей Панізьнік паказваў мне свойчас адбітак тае мапы...



А можа яна пачалася тады, калі з аглушальным грукатам рухнулі долу высозныя вежы росіцкага касцёла і ў храме пачалі гаспадарыць крыклівыя камсамольцы? Росіцкай камсамольскай ячэйкай, дарэчы, кіраваў пэўны час Эдуард Самуйлёнак, нараджэнец невялічкай вёскі Бандзелі, што непадалёк ад Росіцы таксама захлынулася ў дні карнай акцыі агнём ды попелам.

А можа трагедыя пачалася тады, калі энкавэдысты выганялі з хатаў людзей ды везлі ў краі раней нязнаныя?

А можа тады, калі дрысенскія камсамольцы ў 1930 г. ладзілі карнавал пад дурнымназовам «Пахаванне старога Бога»? Углядаюся ў стары здымак — ці няма тут Самуйлёнка? Ды не, у 30-м ён служыў у войску...

А можа трагедыя распачалася тады, калі ў жыхара Росіцы Антона Манчынскага зімой 1937-га замёрз конь, якога ён вымушаны быў трымаць на марозе, замотваючы анучамі ад сцюжы, бо не меў права паставіць у сваім жа хляве, на які савецкая ўлада павесіла замок за нявыплату непасільных для гаспадара падаткаў?

І калі яна скончылася, трагедыя Росіцы? І ці скончылася яна ўвогуле? Апошняе, нібыта недарэчнае, прыходзіць у галаву, калі чую, як выязджаюць цяпер людзі з маляўнічай Росіцы ў наватворы сучаснай беларускай вёскі —аграгарадкі, пабудаваныя пры новых кароўніках. Альбо проста едуць з яе ў пошуках працы некуды ў свет... Альбо, калі чую, што ў Росіцы зноў пахаванне — хтосьці зноў захлынуўся гарэлкай...

Трагедыя Росіцы. Калі яна пачалася? Калі скончыцца?

Трагедыя маёй зямлі...

*Фота аўтара.*



# Хусэпэ дэ Рыбэра. СВЯТАЯ АГНЕШКА Ў ВЯЗНІЦЫ

Неапалітанцы з сімпатыяй называлі яго Lo Spagnoletto (Іспанчык) за малы рост і вялікі талент. Але адну з сваіх лепшых карцін «Святая Агнешка ў вязніцы» і многія іншыя работы мастак падпісаў, з гонарам падкрэсліваючы сваё шляхецкае і нацыянальнае паходжанне: «Хусэпэ дэ Рыбэра, іспанец».

Рыбэру (1591–1652) называюць адным з шасці вялікіх майстроў Залатога веку іспанскага жывапісу, але з юных гадоў і да самай смерці ён пражыў у Італіі. Італьянскім мастаком ён, аднак, не стаў яшчэ і таму, што заказчыкі вывозілі ягоныя карціны ў Іспанію, дзе імя і творчасць Рыбэры мелі вялікую папулярнасць, а яго карціны актыўна капіраваліся. Пра гэта напісаў гісторык іспанскага жывапісу Карлас Арэан: «Чулы чалавек, Рыбэра аддаў сваю творчасць службе рэлігійнага аднаўлення, якое набірала моц у эпоху барока. Ён здолеў праз сваю “пранікнёную рахманасць” натхніць масы і ў той жа час заваяваць прыхільнасць эрудытаў»[1].

Хусэпэ дэ Рыбэра нарадзіўся ў мястэчку Хаціва непадалёк ад Валенсіі. Вучыўся ў майстэрні выдатнага жывапісца Франсіска Рыбальты. Не пазней за 1613 год Рыбэра выехаў у Італію, дзе вывучаў творы вялікіх у Рыме і Парме. На ягоны стыль моцна паўплывалі Караваджа з яго рэалізмам вобразаў і святлаценевымі кантрастамі жывапісу, а пазней — творчасць майстроў балонскай акадэмічнай школы братоў Карраччы. Рыбэра ў сваю чаргу паўплываў на развіццё італьянскага жывапісу. Сярод яго вучняў быў знакаміты жывапісец барока Лука Джардана. У 1626 г. Рыбэра быў абраны членам рымскай Акадэміі імя св. Лукі. З 1616 г. мастак жыў і працаваў у Неапалі, які тады належаў Іспанскай кароне. Ён шмат працаваў для Касцёла і мясцовага віцэ-караля. Памёр у Неапалі.

Пецярбургскі мастацтвазнаўца Вера Раздольская напісала пра карціну Рыбэры «Святая Агнешка ў вязніцы»: «Гэта адна з самых дасканалых па жывапісе работ майстра. Ён дасягнуў у ёй незвычайнай гармоніі залацістага тону, які стварае ў карціне адчуванне прасветленай азоранасці і шмат у чым вызначае яе ўзнёслы паэтычны лад»[2]. Беларускія гледачы маглі ўбачыць і адчуць усё гэта, нават не ездзіўшы ў Дрэздэн. Карціна Рыбэры была адным з цэнтральных твораў выставы «Шэдэўры Дрэздэнскай галерэі», якая ў чэрвенілпене 1975 г. экспанавалася ў сценах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. А на пачатку 1980-х гадоў ветэран музейнай справы Пётра Герасімовіч распавядаў нам — маладым музейшчыкам — пра цікавы факт, што адбыўся яшчэ пры жыцці Сталіна ў маскоўскім Музеі выяўленчых мастацтваў імя А. Пушкіна: «Савецкім урадам было прынята рашэнне не вяртаць у Дрэздэн вывезеныя адтуль творы галерэі, а раздаць іх па савецкіх музеях. У галоўнай зале маскоўскага музея адбывалася гэтая “раздача” ў рукі прадстаўнікоў розных музеяў. Карціны расстаўлялі стосамі па рэспубліках. Я падышоў да начальства і кажу: “Наша рэспубліка вельмі пацярпела ў вайну. Просім выдзеліць яшчэ некалькі шэдэўраў для нас...”» Калі б не хрушчоўская «адліга», то карціна Рыбэры (а можа, і папулярныя «Сікстынская Мадонна» Рафаэля, і «Шакаладніца» Ліатара) магла б апынуцца ў экспазіцыі нашага нацыянальнага музея...

Хусэпэ дэ Рыбэра звярнуўся да вобразу святой Агнешкі, культ якой заставаўся жывым на працягу стагоддзяў. Юная дзяўчына стала ахвяраю апошніх вялікіх ганенняў на хрысціянаў у Рыме пры імператары Дыяклецыяне. Днём яе пакутніцкай смерці лічыцца 21 студзеня 304 года.

Агнешка гадавалася ў шляхецкай рымскай сям'і і з ранняга ўзросту вырашыла прысвяціць сябе Хрысту. Калі да яе пачаў заляцацца сын рымскага прэфекта Семпронія, яна адмовіла яму. Дзяўчыну арыштавалі і на допыце высветлілі, што яна

вызнае хрысціянства. За адмову прынесці ахвяру паганскім багам прэфект загадаў аддаць дзяўчыну ў публічны дом і пакінуць там аголеную. Але цудоўным чынам на галаве Агнешкі выраслі доўгія валасы, якія закрылі яе цела, а з неба з'явіўся анёл, які падаў ёй светлае пакрыва. Гвалтаўнікі, якія набліжаліся да Агнешкі, раптам гублялі свой грэшны імпэт і, ахопленыя сорамам, уцякалі прэч. Сын прэфекта памёр, калі наблізіўся да яе, але сваімі малітвамі Агнешка вярнула яго да жыцця па просьбе ягонага бацькі. Калі каты ўзвялі святую на вогнішча, агонь згас. Тады адзін з жаўнераў адсёк Агнешцы галаву. Цела святой было пахаванае хрысціянамі ў рымскіх катакомбах, якія носяць цяпер імя пакутніцы. Святая Агнешка лічыцца патронкаю маладых дзяўчат.

На палатне Хусэпэ дэ Рыбэры святая ўкленчыла на каменнай падлозе катоўні, склаўшы рукі ў малітве. Вакол яе — жудасная пустэча. Яна, здаецца, пакінутая ўсімі, безабаронная і бяззбройная перад катамі. У правым ніжнім кутку кампазіцыі, як зеўра магілы, чарнее провал у падлозе. Злева злавеснай хмарай прастору запаўняе цяжкая цемра. Але малітва Агнешкі пачутая Богам — цемра адступае перад залатым пяшчотным святлом, якое разліваецца паўсюль. У гэтым творы спелага майстра ўжо няма той драматычнай рэзкасці кантрастаў святла і ценю, якой ён у сваёй маладосці і многія ягоныя сучаснікі навучыліся ў Караваджа. Рыбэра працуе тонкімі, звышдалікатнымі лесіроўкамі і дасягае дзівосных эфектаў асвятлення. Рэмінісцэнцыя каравадджызму найбольш выразная ў левым верхнім кутку карціны, дзе з цемры матэрыялізуецца фігурка анёла. Пасланец Бога разгортвае шырокае покрыва, якое перасякае кампазіцыю і ратуе цнатлівую дзяўчыну.

Але галоўная ў кампазіцыі (ледзь ссунутая ўправа ад геаметрычнага цэнтру) — постаць святой Агнешкі. Існуе легенда, што Рыбэра маляваў яе з сваёй дачкі. Юная прыгажосць дзяўчыны ёсць адлюстраваннем яе духоўнай чысціні. У яе вялікіх вачах, звернутых у нябёсы, мы чытаем малітву пакоры і гатоўнасці да ахвяры ў імя хрысціянскага ідэалу. Яе твар і ўся верхняя частка фігуры ярка асветленыя (у атачэнні доўгіх валасоў гэтае святло здаецца асляпляльным). Мастак не шукае фармальных эфектаў, ён дэманструе трыумф веры над дзікай паганскай цемрай, якой няшмат ужо засталося валадарыць у Рыме. Перамога хрысціянства выкупленая нявіннай ахвярай святой Агнешкі і іншых пакутнікаў. Гэта і ёсць маральная перамога Хрыстовай праўды над распусным светам, якому наканавана знікнуць.

Рыбэра, безумоўна, захапляўся творчасцю майстроў італьянскага барока, вучыўся ў іх, натхняўся іх творамі. На наш погляд, жывапіснае мысленне, уласцівае барока, праявілася перш за ўсё ў выразнай дынамізацыі кампазіцыі дрэздэнскай карціны (у цэлым амаль аднaзначна статычнай). Маецца на ўвазе напружаная дыяганаль палатна, якая перасякае карціну і злучае самотную святую з Боскім светам. Аднак нідзе ў карціне няма той экспрэсіўнай дысторцыі формаў, якую мы часта назіраем у барочных творах. Усё тут пабудавана на натурных назіраннях і мастацкіх штудыях. Рыбэра — перакананы рэаліст, майстар мастацтва, якое жывіцца з'явамі рэчаіснасці. Не забывайма, што ягоныя сучаснікі і пакаленні пасля іх маліліся перад карцінаю ў касцёле або хатняй капліцы, перажываючы рэлігійны катарсіс. Для людзей той эпохі подзвіг святой Агнешкі быў не прыгожай легендай, а крыніцай натхнення і прыкладам для наследавання. З такога мастацтва вырастаў і мацнеў кансерватызм іспанскага грамадства, якое апошнім у Еўропе доўга захоўвала непарушную адданасць каталіцкай традыцыі і маралі. Плыні, што развіліся ў навейшай гісторыі народаў Еўропы, абвясцілі гэта «цемрашальствам» і актыўна падрывалі («рэфармавалі») духоўную аснову народнага жыцця. Што з гэтага атрымалася, мы бачым па сённяшнім крызісе цывілізаванай Еўропы, у тым ліку і Іспаніі: пустыя храмы, афіцыёз садомскіх шлюбаў, спусташэнне многіх чалавечых душаў. Але наступ агрэсіўнага рэлятывізму — часовая з'ява, яму наканаваны марны лёс. Мільёны людзей шукаюць у хрысціянстве паратунку і апірышча, выйсця з ліберальнага тупіку. Ім належыць будучыня Еўропы.

У славу святой Агнешкі склалі свае панегірыкі вядомыя айцы Касцёла — св. Амброджа Міланскі, св. Аўгустын і св. Геранім. Канстанцыя, дачка імператара Канстанціна (які легалізаваў хрысціянства ў Заходняй Рымскай імперыі), загадала ў 342 годзе пабудаваць над катакомбамі з магілай святой Агнешкі храм, які ў перабудаваным выглядзе існуе дагэтуль. Вечным застаецца ідэал, якому прысвяціла сваё маладое жыццё Агнешка Рымская.

*Валеры Буйвал*

1. Arean C. La pintura española de Altamira hasta el siglo XX. — Madrid, 1971. C. 207.
2. История искусства зарубежных стран 17–18 веков. Под ред. В.И.Раздольской. — Москва, 1988. С. 66.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.



Клайв Стэйплз Льюіс (*Clive Staples Lewis*; 1898–1963) — англійскі пісьменнік, навуковец і багаслоў, выкладчык англійскай мовы і літаратуры Оксфардскага ўніверсітэта, член Брытанскай акадэміі навук і Каралеўскага літаратурнага таварыства. Вядомы даследаваннямі сярэднявечнай літаратуры, творамі па хрысціянскай апалагетыцы, апавяданнямі і раманамі ў жанры фэнтэзі. Аўтар двух зборнікаў вершаў пад псеўданімам Клайв Гамільтан. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў у рэлігійнай службе радыё Бі-бі-сі — паводле матэрыялаў гэтых радыёперадач напісаў кнігу «Проста хрысціянства». Атрымаў сусветную вядомасць дзякуючы цыклу апавяданняў «Хронікі Нарніі» (*The Chronicles of Narnia*, 1950–1954). Найбольш вядомыя рэлігійныя творы: «Праблема пакутаў» (*The Problem of Pain*, 1940), «Лісты Прайдзісвета» (*The Screwtape Letters*, 1942), «Вялікі разрыў» (*Great Divorce*, 1945), «Проста хрысціянства» (*Mere Christianity*, 1952), «Роздумы аб псальмах» (*Reflections on the Psalms*, 1958), «Чатыры віды любові» (*The Four Loves*, 1960).

«Бог ёсць любоў» (1 Ян 4, 16), — кажа святы Ян. Калі я ўпершыню спрабаваў пісаць гэтую кнігу, мне здавалася, што яго словы пакажуць мне просты і верны шлях у разважаннях на ўзнятую тэму. Мне падумалася, я здолею сказаць, што кожны від чалавечай любові заслугоўвае гэтага наймення толькі ў той ступені, у якой ён падобны да той любові, якою ёсць Бог. Такім чынам, найперш я размежаваў тое, што назваў любоўю-дарам і любоўю-патрэбаю. Тыповы прыклад любові-дару — гэта любоў, якая натхняе чалавека працаваць, ствараць планы, назапашваць дабро дзеля будучага дабрабыту сваёй сям'і, нягледзячы на тое, што пры жыцці ён не ўбачыць і не скарыстаецца плёнам сваёй працы. Любоў другога віду прымушае самотнае або напалоханае дзіця кідацца ў абдымкі маці.

У мяне не было сумневаў у тым, якая з гэтых дзвюх больш падобная да Любові-Бога. Яго любоў — гэта любоў-дар. Айцец аддае ўсяго сябе і ўсё, што Ён мае, Сыну. Сын у сваю чаргу ахвяруе сябе Айцу і свету. Ён аддае сябе Айцу замест свету і такім чынам праз сваю Асобу вяртае Айцу і сам свет.

А з іншага боку, што можа быць менш падобнае да ўсіх нашых ўяўленняў пра Бога, чым любоў-патрэба? Ён не мае недахопу ні ў чым, а нашая любоў-патрэба, як заўважыў Платон, з'яўляецца «дзіцем галечы». Гэта трапнае назіранне, якое раскрывае сутнасць нашай натуры. Мы нараджаемся бездапаможнымі. Ледзь дасягнуўшы поўнай свядомасці, мы адкрываем для сябе ўласную адзіноту. Нам неабходныя іншыя людзі ў фізічным, эмацыйным, інтэлектуальным плане. Яны патрэбныя нам, каб спасцігнуць і зразумець хоць нешта, у тым ліку і саміх сябе.

Я чакаў, што напішу просты хвалебны водгук на першы від любові і ганебны — на другі. Многае з таго, што я збіраўся сказаць, і цяпер здаецца мне справядлівым. Я працягваю лічыць так: калі ўсё, што мы разумеем пад словам «любоў», — гэта шалёнае жаданне, каб нас саміх любілі, тады становішча нашае вартае вялікага жалю. Але цяпер я скажу таксама (разам з Мак-Дональдам[1], маім настаўнікам), што, маючы на ўвазе выключна гэтае жаданне, мы блытаем любоў з нечым іншым, што зусім ёю не з'яўляецца. Цяпер я не магу па-

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Уводзіны

збавіць любоў-патрэбу наймення любові. Кожны раз, спрабуючы ў сваёй кнізе высветліць гэтае пытанне да канца, я бянтэжыўся і заблытваўся ў супярэчнасцях. Рэальнасць аказалася больш складанаю, чым мне здавалася.

Па-першае, не называць любоў-патрэбу «любоўю» — гэта гвалт для большасці моваў, і для нашай таксама. Зразумела, мова — не бязгрэшны правадыр, але, нягледзячы на недахопы, у ёй заключанае багацце досведу і трапнага разумення сутнасці рэчаў. Калі вы пагарджаеце моваю, пазней яна можа адпомсціць за сябе. Лепей для нас не браць за прыклад Жаўтуна Баўтуна і не надаваць словам сэнс паводле сваіх прыхамацяў.

Па-другое, мы павінны асцерагацца, называючы любоў-патрэбу «ўсяго толькі эгаізмам». *Усяго толькі* — заўсёды небяспечныя словы. Няма сумневу, што сваёй любові-патрэбе можна эгаістычна патураць, як і любому іншаму імпульсу. Страшная рэч — тыранічная, ненажэрная прага любові. Але звычайна ніхто не кліча эгаістам дзіця, якое туліцца да маці, каб атрымаць ласку і суцяшэнне; або дарослага, што шукае кампаніі свайго сябра. І дзеці, і дарослыя, хто хоць зрэдку так робіць, звычайна не самыя бескарыслівыя людзі, і, адчуваючы любоў-патрэбу, неабходна часам утаймоўваць, цвёрда стрымліваць яе. Аднак ніколі не адчуваць любові-патрэбы азначае быць закончаным эгаістам. Паколькі мы сапраўды патрэбныя адно аднаму, — «Не добра, каб чалавек быў адзін» (Быц 2, 17) — адсутнасць таго адчування, якое мы ўсведамляем як любоў-патрэбу, або, інакш кажучы, ілюзорнае адчуванне, што чалавеку добра быць у адзіноце, — гэта дрэнны духоўны сімптом. Падобна, адсутнасць апетыту з'яўляецца дрэнным медыцынскім сімптомам, бо чалавеку сапраўды патрэбная ежа.

Але, па-трэцяе, мы падыходзім да нечага нашмат больш важнага. Кожны хрысціянін згодзіцца, што духоўнае здароўе чалавека дакладна прапарцыянальнае ягонай любові да Бога. Але па самой сваёй сутнасці нашая любоў да Яго заўсёды ў большай ступені, а часта нават і цалкам, з'яўляецца любоўю-патрэбаю. Гэта становіцца відавочным, калі мы молімся аб прабачэнні сваіх грахоў або аб падтрымцы ў няшчасцях. Але з цягам часу яшчэ больш выразна гэта выяўляецца ў тым, як у нас узрастае — і павінна ўзрастаць — усведамленне, што ўся нашая істота па сваёй натуры з'яўляецца адною бяскрайняю патрэбаю. У сваёй незавершанасці, прымітыўнасці, пустэчы, загрувашчанай абы-чым, мы ўсклікаем да Яго — адзінага, хто здольны развязаць моцна знітаванае, і звязаць тое, што цяпер незамацаванае. Я не сцвярджаю, што чалавек няздатны прынесці Богу нічога, апроч любові-патрэбы. Узвышаныя шляхетныя душы могуць распавесці нам, як шмат дасягнулі апроч гэтага. Але мне здаецца, яны ж будуць першымі, хто скажа, што гэтыя вышыні перастануць быць сапраўднаю Божаю ласкаю, ператворацца ў неаплатанічныя і ў рэшце рэшт д'ябальскія ілюзіі ў той самы момант, калі чалавек асмеліцца думаць, што можа пражыць за іх кошт і таму назаўжды адпрэчыць элемент патрэбы. «Найвышэйшае, — кажа Тамаш Кэмпійскі ў кнізе “Следам за Хрыстом”, — не бывае без найніжэйшага». Бессаромным і бязглуздым было б тое стварэнне, якое прыйшло б да свайго Стварыцеля, пахваляючыся: «Я не жабрак. Я люблю Цябе бескарысліва». Тыя, хто наблізіўся да любові-дару ў адносінах да Бога адразу ж, нават у тое самае імгненне, пачнуць біць сябе ў грудзі разам з мытнікам і вызнаваць сваё ўбоства перад адзіным сапраўдным Даўцам. І Бог з гэтым згаджаецца. Ён так кажа пра нашую любоў-патрэбу: «Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя» (Мц 11, 28), а ў Старым Запавеце: «Разамкні твае вусны, і Я напоўню іх» (пар. Пс 81, 11).

Такім чынам, любоў-патрэба ў сваёй найвышэйшай праяве або супадае, або, прынамсі, з'яўляецца асноўнаю часткаю найлепшага, найбольш узнёслага і рэалістычнага духоўнага стану чалавека. Адсюль вынікае незвычайная, вельмі дзіўная выснова — чалавек знаходзіцца найбліжэй да Бога тады, калі ў пэўным сэнсе найменш да Яго падобны. Бо што можа быць больш непадобнае адно да аднаго, чым паўната і нястача, улада і немач, праведнасць і пакаянне, усемагутнасць і заклік аб дапамозе? Калі я ўпершыню заўважыў гэты парадокс, ён надзвычай мяне ўразіў і знішчыў усе мае папярэднія спробы пісаць аб любові. Калі мы сутыкаемся з ім, напрошваюцца наступныя высновы.

Мы павінны адрозніваць дзве рэчы, якія называюць «блізкасцю да Бога». Першая — гэта падабенства да Бога. Я мяркую, што Бог уклаў пэўнае падабенства да сябе ва ўсё, што стварыў. Прастора і час па-свойму адлюстроўваюць Яго веліч, жыццё — Яго плённасць, жыццё жывёлаў — Яго здольнасць дзейнічаць. Падабенства чалавека — больш поўнае, бо ён надзелены розумам. Анёлы, як мы верым, падобныя да Бога тым, чаго пазбаўлены чалавек, — сваёю несмяротнасцю і інтуітыўным веданнем. У гэтым сэнсе людзі — і добрыя, і злыя — і анёлы, нават пасля падзення, больш падобныя да Бога, чым жывёлы. У гэтым сэнсе іх натура «бліжэйшая» да Боскай. Але зусім іншая рэч — тое, што можна назваць блізкасцю праз набліжэнне. Калі мы маем на ўвазе менавіта гэтае, чалавек знаходзіцца «найбліжэй» да Бога, калі ён найбольш упэўнена і хутка ідзе да сваёй канчатковай еднасці з Богам, бачання Бога і радасці ў Богу. І як толькі мы адрознім блізкасць паводле падабенства ад блізкасці праз набліжэнне, мы ўбачым, што гэта не адное і тое ж.

Магчыма, зразумець гэта дапаможа такая аналогія. Давайце ўявім, што мы прагульваемся ў гарах і накіроўваемся цяпер дадому, у вёску. Апоўдні мы падымаемся на скалу і там, калі ўлічваць адлегласць, мы знаходзімся вельмі блізка ад дома, бо вёска акурат пад намі. Да таго месца можна дакінуць каменем. Але мы не альпіністы і не можам спусціцца туды. Нас чакае доўгі вакольны шлях дамоў міляў у пяць. Фактычна, робячы па дарозе такое кола, мы ў пэўныя моманты апынаемся далей ад сваёй вёскі, чым калі сядзелі на скале, але гэта толькі справа адлегласці. Насамрэч, рухаючыся наперад, мы ўжо нашмат бліжэй да таго, каб вымыцца і выпіць гарбаты.

Паколькі Бог благаслаўлёны, усемагутны і творчы, у пэўным сэнсе шчасце, сіла, свабода і творчая плённасць (і розуму, і цела), напаўняючы жыццё чалавека, робяць яго падобным да Бога і такім чынам набліжаюць да Яго. Але ніхто не будзе думаць, што гэтыя дары абавязкова звязаныя з нашым узрастаннем у святасці. Ніякія багацці не стануць пропускам у Нябеснае Валадарства.

На вяршыні скалы мы бліжэй да сваёй вёскі, але як доўга там ні сядзі, бліжэй да ванны і гарбаты не станеш. Таму тут блізкасць да Бога паводле падабенства, якою Ён, як дарам, надзяліў некаторыя свае стварэнні або дазволіў ім час ад часу перажываць такі стан — гэта нешта завершанае, убудаванае і маналітнае. А блізкасць праз набліжэнне можа павялічвацца і ўзрастаць — гэта бачна па самім значэнні слова. І калі падабенства проста дадзенае нам, і мы можам адгукнуцца на гэты дар з удзячнасцю або не, можам выкарыстоўваць яго або занядбаць, набліжэнне — зусім іншая рэч. Натхнёнае і падтрыманае Божаю ласкаю, набліжэнне — гэта нешта, што мы павінны зрабіць самі. Усе стварэнні на свой капыл з'яўляюцца адлюстраваннем Бога, гэта не патрабуе іх удзелу і нават згоды. Не так яны становяцца Божымі дзецьмі. І падабенства, якое яны атрымліваюць праз гэтае сыноўства, — зусім не партрэтнае. З аднаго боку, гэта больш чым падабенства, бо яно азначае ўнісон, еднасць волі стварэння з Божаю воляю, але з іншага боку — паўстаюць усе тыя адрозненні паміж Стварыцелем і стварэннем, пра якія мы тут узгадвалі. Таму, як сказаў лепшы за мяне аўтар, нашае наследаванне Бога ў гэтым жыцці (да якога мы прыкладаем свае намаганні і якое адрозніваецца ад Божага падабенства, адлюстраванага ў нашай натуры або стане) павінна быць наследаваннем уцелаўлёнага Бога. Узор для нас — Хрыстус. Не толькі з Кальварыі, але і з майстэрні, з дарогі, Той, што быў сярод натоўпу, настойлівых патрабаванняў і злосных пярэчанняў, у недахопе супакою і адасобленасці, сярод перашкодаў. І выходзіць, што гэтае жыццё, на дзіва непадобнае да ўсяго, што можа быць аднесена да жыцця Божага, не толькі да яго падобнае, але ім насамрэч з'яўляецца. Яно і ёсць Божым жыццём — тым, якое развіваецца ў зямных умовах.

Цяпер мне варта растлумачыць, чаму я палічыў патрэбным вынайсці гэтыя адрозненні ў трактоўцы паняццяў любові. Я доўга разважаў над словамі святога Яна аб тым, што «Бог ёсць любоў» (1 Ян 4, 16) у адносінах да выказвання аднаго сучаснага аўтара, Дэні дэ Ружмона[2]: «Любоў толькі тады перастае быць дэманам, калі перастае быць богам». У перыфразе гэта гучыць так: «становіцца дэманам, калі становіцца богам». Мне здаецца, абедзве думкі павінны абавязкова знаходзіцца ў раўнавазе. Калі мы не ўлічым гэтага, тады тая праўда, што Бог ёсць любоў, стане значыць для нас абсалютна супрацьлеглае — што любоў ёсць Богам.

Думаю, што кожны, хто калі-небудзь разважаў над гэтым пытаннем, зразумее, што мае на ўвазе Дэні дэ Ружмон. Чым вышэй чалавечая любоў, тым больш яна схільная патрабаваць для сябе боскіх паўнамоцтваў. Яе голас гучыць так, быццам сам Бог абвяшчае ў ім сваю волю. Гэты голас заклікае нас не лічыцца з цаною, вымагае суцэльнага падпарадкавання, спрабуе перакрэсліць усе іншыя патрабаванні і пераконвае ў тым, што любое дзеянне, шчыра ўчыненае «дзеля любові», у сувязі з гэтым становіцца законным і абавязвае да ўхвалення і ўдзячнасці. Агульнавядома, што каханне да чалавека і любоў да Радзімы могуць

намагацца «стаць багамі». Але сямейная прывязанасць — таксама. Па-свойму імкнуцца стаць боствам можа і сяброўства. Зараз я не буду дэталёва разглядаць дадзенае пытанне — гэта чакае нас у наступных раздзелах.

Цяпер жа варта звярнуць увагу на тое, што натуральная любоў ставіць перад намі гэтыя блюзнерскія патрабаванні не тады, калі знаходзіцца ў найгоршым стане, а наадварот — калі яна дасягае вяршыні і становіцца, як казалі нашыя продкі, «чыстай», «шляхетнай». Найвыразней гэта заўважна ў каханні. Вернае, шчырае і непадробнае, самаахвярнае палкае пачуццё будзе прамаўляць да нас нібы Божым голасам. Звычайная жывёльная і легкадумная пажадлівасць — не. Яна будзе псаваць і бэсціць свайго падданага шматлікімі спосабамі, але такім — не. Чалавек можа дзейнічаць пад уплывам гэткіх пачуццяў, але ніколі не будзе іх ушаноўваць, як не стане ўшаноўваць невыноснага жадання пачухацца. Калі неразумная жанчына час ад часу патурае свайму разбэшчанаму дзіцяці (а насамрэч — уласным прыхамацям), песціць яго, як жывую ляльку, пакуль стае сілы, наўрад ці такая паблажлівасць «стане богам». Іншая справа — глыбокая сляпая самаахвярнасць маці, якая ў прамым сэнсе слова «жыве дзеля свайго сына». Я схільны лічыць, што патрыятызм, які разгараецца пад уплывам піва і духавога аркестра, не прымусіць чалавека зрабіць шмат шкоды (і шмат дабра таксама) сваёй Радзіме. Яго можна цалкам загасіць, замовіўшы яшчэ адзін кілішак і далучыўшыся да агульнага спеву.

І гэта цалкам прадказальна. Нашая любоў не будзе патрабаваць боскага ўшанавання, пакуль гэтыя вымаганні не стануць абгрунтаванымі і пераканаўчымі. А яны не стануць гэткімі, пакуль чалавечая любоў не атрымае падабенства да Бога — да самой Любові. Не дазволім сабе памыліцца. Чалавечая любоў-дар сапраўды мае боскія рысы, і чым больш яна бязмежная і нястомная ў раздаванні, тым больш падобная да Бога. Усё, што кажуць пра яе паэты, — праўда. Яе радасць, яе магутнасць, цярплівасць, гатоўнасць прабачаць, тое, як яна жадае дабра ўмілаванай асобе, з'яўляецца сапраўдным вобразам Божага жыцця, вартым ледзьве не пакланення. Мы маем рацыю, калі дзякуем за яе Богу, «які даў такую ўладу людзям» (Мц 9, 8). Усе зразумеюць і згодзяцца з намі, калі мы скажам, што тыя, хто моцна любіць, «бліжэй» да Бога. Але, вядома, гэта «блізкасць паводле падабенства» і сама сабою яна не стане «блізкасцю праз набліжэнне». Мы адораныя такім падабенствам, і яно зусім не абавязкова звязанае з тым марудным і балесным набліжэннем, якое павінны здзейсніць мы самі, хоць і не без дапамогі. Аднак жа гэтакае падабенства цудоўнае, поўнае бляску і велічы, таму адбітак можна зблытаць з арыгіналам і надаць чалавечай любові годнасць, якая належыць толькі Богу, цалкам аддаўшыся на яе волю. Тады любоў становіцца богам, становіцца дэманам. Тады яна знішчае нас разам з сабою, бо натуральная любоў, якой дазволілі стаць богам, ужо не застаецца любоўю. Яе называюць так, але насамрэч яна становіцца складанай формай нянавісці.

Нашая любоў-патрэба можа быць прагавітай і хцівай, але яна ніколі не ўзнясе сябе да боства. Яна недастаткова блізкая да Бога (паводле падабенства), каб імкнуцца да гэтага.

Адсюль можна заключыць, што не варта рабіць з натуральнай чалавечай любові ідала, як і не варта станавіцца яе «выкрывальнікам». Вялікая памылка літаратуры XIX стагоддзя ў тым, што ідалаў рабілі з кахання і «сваяцкай прывязанасці». Браўнінг, Кінгслі і Пэтмар[3] часам пішуць так, нібы ўпэўненыя ў тым, што закахацца — тое самае, што стаць святым. Празаікі звычайна супрацьпастаўляюць «свету» не Валадарства Нябеснае, а родны дом. Мы жывем у часы, калі ўсё зусім наадварот. Выкрывальнікі любові ганьбяць як сентыментальную лухту амаль усё, што казалі іх бацькі на яе ўслаўленне. Яны надакучаюць усім, вываpочваючы адваротным бокам і выпінаючы на свет брудныя карані натуральнай любові. Але не слухайма ні занадта мудрых, ні занадта бязглуздых волатаў[4]. Вышэйшае не бывае без ніжэйшага. Расліна павінна мець і карані, і патрэбу ў сонечным святле, а карані павінны быць бруднымя. Гэты бруд застанецца чыстаю зямлёю, калі вы пакінеце яго ў садзе і не будзеце раскідваць па пісьмовым стале. Чалавечая любоў можа быць слаўным вобразам любові Божай. Не менш за гэта, але і не больш — блізкасць паводле падабенства можа і дапамагчы і перашкодзіць блізкасці праз набліжэнне. А часам яны не маюць аніякага дачынення адна да другой.

*Пераклад з англійскай мовы*
*Юліі Шэдзько.*
*Паводле: C. S. Lewis*
*«The four loves», 1958 г.*

---

[1] Джордж Макдональд (*George MacDonald*) — 1824–1905, шатландскі навеліст і паэт. Яго творчасць мела вялікі ўплыў на К.С. Льюіса.
[2] Дэні дэ Ружмон (*Denis de Rougemont*) — 1906–1985, швейцарскі філосаф, пісьменнік і грамадскі дзеяч.
[3] Роберт Браўнінг (*Robert Browning*), 1812–1889; Чарльз Кінгслі (*Charles Kingsley*), 1819–1875; Ковентры Пэтмар (*Coventry Patmore*), 1823–1896 — выбітныя англійскія пісьменнікі.
[4] Вобраз з паэмы «Гіперыён» Джона Кітса (*John Keats*), 1795–1821.

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

## VII. СУТНАСЦЬ БОГА І ЯЕ ПАЗНАВАЛЬНАСЦЬ

Складзенасць усіх рэчаў з магчымасці і здзяйснення, якая выяўляецца як усеагульная складзенасць з сутнасці і існавання, вядзе нас проста да прычыны існавання — ад існавання выпадковага да існавання неабходнага, самаіснага, і менавіта гэтае самаіснае існаванне мы называем Богам. «Я ёсць той, хто Ёсць» — вось сапраўднае імя Бога, як кажа св. Тамаш. Ці можам мы шляхам прыроджанай рэфлексіі пазнаць штосьці з Яго сутнасці і якасцяў, апрача таго, што Бог існуе і што існаванне — Яго сутнасць?

Тут мы закранаем пытанні філасофскага метаду і тэалагічнага пазнання Бога. Усялякая навука, якая датычыць Бога, усялякі шлях пазнання Бога называецца тэалогіяй. Аднак, як мы ведаем, існуе не толькі тэалогія, заснаваная на Аб'яўленні, ці тэалогія надпрыродная, але таксама тэалогія філасофская, якая складае саму сутнасць метафізікі. Гаворка ідзе перадусім пра тое, ці гэтая філасофская тэалогія, гэтае філасофскае разважанне пра Бога адбываецца праз пазітыўнае сцвярджэнне пра Бога, г.зн. шляхам такіх сцвярджэнняў: Бог ёсць А, Бог ёсць Б і г.д., ці таксама яно развіваецца і паглыбляецца праз адмаўленне, праз запярэчанне, калі мы сцвярджаем: Бог не ёсць А, Бог не ёсць Б і г.д.? Гэтую першую тэалогію мы называем (у гэтым кантэксце, бо слова «пазітыўная» мае некалькі значэнняў) тэалогіяй пазітыўнай, сцвярджальнай, а другую — тэалогіяй негатыўнай, запярэчвальнай. Згодна з агульным меркаваннем, тамістычная тэалогія, якая звяртаецца да вучэння св. Тамаша, з'яўляецца перадусім тэалогіяй пазітыўнай, якая выказвае шэраг сцвярджэнняў пра Бога. Але гэта толькі на першы погляд, бо ў сутнасці тэалогія, якую распрацоўвае св. Тамаш, нашмат бліжэй да пазнання негатыўнага, г.зн. да пазнання Бога праз адмаўленне, праз запярэчанне, чым да пазнання сцвярджальнага.

Тэза, што тамістычная тэалогія нашмат больш пазітыўная, чым негатыўная, гэта скажэнне сапраўднай канцэпцыі св. Тамаша, які робіць выразны націск на таямнічасці не толькі Бога, але ўсёй рэчаіснасці. Усё, што нас атачае, прасякнута таямніцаю, а тым больш таямніцаю ёсць Бог. Ён — таямніца таямніцаў. Мы пабачылі ўжо, што нам дадзена пазнаць існаванне, але разам з тым мы ўсведамляем, што сам факт існавання — дзівосная таямніца. Ёсць шмат рэчаў, якія мы добра ведаем, але калі больш уважліва задумаемся над імі, убачым, што з усіх бакоў нас атачае таямніца, што мы ахінутыя таямнічасцю. Чалавек асуджаны на тое, каб глядзець на гэтую рэчаіснасць, якая нас атачае, праз безліч заслонаў. Мы ўсведамляем гэта асабліва тады, калі думаем пра нашыя адносіны да Бога. Ужо ў Кнізе Зыходу ясна сказана, што смерць чакае таго чалавека, які б пабачыў аблічча Бога (пар. Зых 24, 11; 30, 21; 33, 20). Гэта да такой ступені перавышае магчымасці чалавека, што ён павінен быў бы памерці, бо мусіў бы выйсці з таго парадку, у якім знаходзіцца, калі б яму было дадзена пабачыць аблічча Бога.

Вялікія філосафы паганскай старажытнасці добра разумелі, што тое, што з'яўляецца сапраўдным сэнсам усяго навокал нас, ад нас схаванае. Платон у славутым міфе, прыпавесці пра пячэру, гаворыць, што мы, уласна кажучы, бачым толькі цені. Мы, як нявольнікі, прыкутыя да лавак у цёмнай пячэры, і глядзім не на ўваход у пячэру, а толькі на супрацьлеглую ад уваходу сцяну. Звонку палае вогнішча, мінаюць нейкія постаці і на ўнутраную сцяну пячэры падаюць іх цені. Паводле Платона, толькі гэткім чынам мы пазнаем рэчаіснасць, бачым толькі цені таго, што ёсць насамрэч. Гэтак жа сама і вучань Платона Арыстоцель (пра гэта яшчэ будзе гаворка, калі будзем займацца чалавекам) кажа, што чалавечы інтэлект такі выдатны і такі дзівосны, але падобны да вачэй начной птушкі, прыстасаванай да таго, каб бачыць толькі ў цемры, бо бляск сонца яе цалкам асляпляе. Тое, што нас атачае, — цемра, і мы не можам убачыць сапраўднага зместу святла, якое акаляе гэтую цемру.

На гэтым фоне для нас робіцца больш зразумелай і павучальнай дактрына св. Тамаша пра аналогіі быту і пра аналагічнасць пазнання (аналогія — гэта тое ж, што і падабенства). Тут гаворыцца перш за ўсё пра аналогію існавання. Калі мы кажам, што нейкая рэч існуе, то добра разумеем, што паміж існаваннем гэтай рэчы і існаваннем Бога ёсць толькі падабенства, аналогія. Існаванне Бога — гэта існаванне само ў сабе, якое знаходзіць абгрунтаванне і прычыну ў сабе, а існаванне ўсяго іншага — гэта існаванне прычаснае, пыртыцыпацыйнае (лац. *participare — удзельнічаць*). І таму як у існаванні, гэтак і ў сутнасці ёсць толькі далёкія аналогіі паміж тым, што запаўняе свет, у якім мы жывем, і Богам.

Калі мы кажам, што нейкі прадмет А аналагічны прадмету Б, гэта значыць, што паміж А і Б ёсць нейкія мінімальныя ідэнтычнасці; нейкі адзін пункт, адзін момант такі самы ў гэтых прадметах, а ўсё іншае, уся рэшта — розныя. Менавіта таму, калі мы кажам, што ёсць аналогія паміж існаваннем свету, які нас

---

*Працяг. Пачатак у 3 за 2011 г.*

атачае, паміж сукупнасцю існуючых рэчаў і існаваннем Бога — і паміж сутнасцямі гэтых рэчаў і сутнасцю Бога — то мы сцвярджаем, што ёсць толькі пэўныя пункцікі, нібы найдрабнейшыя моманты судакранання паміж гэтай і той рэчаіснасцю, а па-за імі — цэлае мора, цэлая прорва адрозненняў. Ужо само гэта кажа нам пра таямнічасць таго, Божага, парадку. Але тут трэба сказаць, што і ў прыродным парадку, у адносінах да ўсіх прадметаў, якія ўспрымаем пачуццёва, мы ўсведамляем, якія ў ім бездані таго, што недаступна нашаму пазнанню. Наколькі больш вакол нас, і перадусім у адносінах да Бога і да Божых справаў, невядомага, чым вядомага. Таму ўсведамленне таямніцы — гэта адна з рысаў, характэрных для ўсёй тэалагічнай і філасофскай думкі св. Тамаша. Але Тамаш парафразуе, пераіначвае пэўным чынам першае выказванне, якое падаў Арыстоцель у сваёй *Метафізіцы*. Арыстоцель напісаў там, што «кожны чалавек ад прыроды хоча ведаць, хоча пазнаваць» («Уступ» да *Метафізікі*). І гэта так натуральна для кожнага чалавека, што без такога імкнення да пазнання і без жадання рэалізацыі гэтага імкнення ён не быў бы чалавекам. Св. Тамаш кажа нешта большае ў сваёй *Summa contra gentiles* (III, 57, 4), ён піша: *Omnis intellectus naturaliter desiderat divinae substantiae visionem* — кожны інтэлект (чалавечы ці анёльскі), кожная разумовая пазнаваўчая здольнасць ад прыроды прагне сузіраць прыроду Бога (тут слова *substantia* азначае Божую прыроду). Гэтае імкненне натуральнае для кожнага чалавека, незалежна ад таго, усведамляе ён гэта ці не.

Тут, аднак, мы натыкаемся на перашкоду: перш за ўсё мы ведаем, што калі штосьці пазнаем, то хочам дакладней акрэсліць гэтае штосьці; гэта называецца ў логіцы дэфініяваннем. Але гэткім чынам мы не можам акрэсліць, дэфініяваць Бога. Мы ведаем толькі, што трэба заўсёды паўтараць сабе, што існуе найдасканалейшы быт, сутнасць якога — існаванне. Вяртаемся да таго, што ўжо казалі, але не можам акрэсліць гэтую сутнасць, бо існаванне не ўдаецца ўкласці ў паняцце, а мы можам акрэсліць, дэфініяваць толькі тое, пра што мы маем паняцце: напрыклад, пладовае дрэва, яблыня, расліна. У дачыненні да існавання мы не маем такога паняцця, а толькі сцвярджаем, ведаем пра тое, што штосьці існуе; у нашым выпадку тое штосьці — гэта самаіснае існаванне.

Мы не можам дэфініяваць Бога менавіта таму, што не можам мець паняцця Бога ў дакладным значэнні — можам лепш ведаць, чым Ён не ёсць, а не чым Ён ёсць. Таму мы асуджаныя на цемру, на ноч, як тыя людзі ў пячэры з міфа Платона, але адначасна мы можам быць пэўнымі, што на дне гэтай цемры, каля яе кораня, знаходзіцца рэчаіснасць, якою ёсць самаіснае існаванне, ці Бог.

Вернемся зноў да гісторыі. Вось жа, быў аўтар, які, што праўда, меў у філасофскім плане цалкам іншы, чым св. Тамаш, падыход да гэтых справаў. Ён увогуле не закранаў праблемы існавання, бо быў вызнаўцам неаплатанізму, але на працягу ўсяго Сярэднявечча карыстаўся вялікай павагаю. Гэта быў так званы Псеўда-Дыянісій Арэапагіт. «Псеўда», бо пазней высветлілася, што ён не быў аўтарам твораў, якія яму прыпісваліся. У Сярэднявеччы яны карысталіся вялікай павагаю, бо думалі, што яны амаль гэтак жа блізкія да крыніцы, блізкія да Пана Езуса, як Апостальскія Лісты ці самі Евангеллі, паколькі павінны былі паходзіць нібыта ад Дыянісія, які быў навернуты да веры св. Паўлам у Арэапагу і пазней стаў біскупам Атэнаў. Вось гэты Псеўда-Дыянісій, з лістоў якога зрэшты карыстае св. Тамаш, інтэрпрэтуючы яго на свой лад, падкрэслівае негатыўнасць тэалогіі. На яго думку, перш за ўсё трэба падбіраць негатыўныя сцвярджэнні тыпу: Бог не ёсць гэтым, не ёсць гэным, не ёсць тым. Такі, паводле Псеўда-Дыянісія, шлях тэалогіі, шлях негатыўнага тэалагічнага разважання, якім пакрокава мы прыходзім да ўсведамлення таго, што такое Бог.

*Пасля св. Тамаша значэнне таямніцы ў тэалогіі падкрэсліваў вялікі мысляр XV стагоддзя Мікалай з Кузы. Ён напісаў выдатны твор, прызначаны для бэнэдыктынскіх навіцыяў. Твор гэты не быў лёгкім і меў яскравую назву:* De docta ignorantia *(«Усвядомленае няведанне»). Толькі тады чалавек набліжаецца да Бога, — кажа Мікалай Кузанскі, — калі ўсвядомлена разумее, што не здольны мець яснага і простага ведання Бога. «Усвядомленае няведанне» — гэта парафраза словаў, якія нібыта сказаў калісьці ў старажытнасці Сакрат: «Я ведаю толькі тое, што нічога не ведаю». Тут не ідзе гаворка пра скептыцызм і праграмнае няведанне. Не сказана: «я не магу нічога ведаць пра Бога», — але «я не магу пра яго ведаць так, як мне на першы погляд падаецца, што ведаю». Гэта ўсведамленне таго, што тут мы стаім перад таямніцаю. І мабыць, не трэба падкрэсліваць, колькі ў гэтым падабенства да св. Яна ад Крыжа: уся «ноч пачуццяў» і «ноч розуму» ў св. Яна — гэта развіццё тых жа матываў у сферы містычнага жыцця.*

Выказванні св. Тамаша на гэтую тэму вельмі ясныя. Так, у *Quaestio disputata de potentia* (7, 2, ad 1) ён кажа: *Est idem esse Dei quod et substantia, et sicut eius substantia est ignota, ita et esse* — існаванне ў Богу — гэта тое ж самае, што і Яго прырода, Яго субстанцыя (бо слова «субстанцыя» ў гэтым выпадку азначае прыроду, сутнасць). Сутнасць жа і існаванне ў Богу атаясамляюцца (мы мусім заўсёды памятаць пра гэтае фундаментальнае палажэнне). І гэтак жа, як невядомая Яго сутнасць, таксама невядомае і існаванне: *sicut eius substantia est ignota ita et esse*. І далей там жа *(De potentia*, 7,2, ad 11): *quid est Deus nescimus* — мы не ведаем, што такое Бог. Ведаем, што Ён ёсць, што Ён — самаіснае існаванне, але што такое самаіснае існаванне — гэта будзем ведаць толькі тады, калі будзем бачыць Бога. І яшчэ адно выказванне ў *Summa contra gentiles* (3, 34, 9): *Quid vero sit Deus penitus manet ignotum*. Інтэрпрэтуючы гэтае выказванне, Жыльсон піша, што цяжка знайсці штосьці больш невядомае, бо св. Тамаш кажа: што такое Бог, нам цалкам невядома — *penitus manet ignotum*.

Гэтыя фразы вельмі выразна кажуць, што мы не можам мець пазітыўнага ведання пра Божую сутнасць, пра тое, што з'ўляецца сутнасцю існавання, якое ёсць прыродаю Бога, бо мы не спазнаём гэта на досведзе. У містычным досведзе хтосьці можа мець толькі прадчуванне, прадсмак гэтага, але не будзе магчы перадаць яго іншым: гэта застаецца яго неперадавальным містычным досведам. Для нас жа важныя праўды філасофскія, якія могуць быць перада-

дзеныя ўсім. Бо калі «ўсвядомленае няведанне» ў пэўнай ступені датычыць усёй рэчаіснасці, то найбольш яно адносіцца да яе асновы, ці да Бога. Відавочна, што зазірнуць у гэтую таямніцу ўсіх таямніцаў нам дае пэўную магчымасць вера і Аб'яўленне. Перадусім маецца на ўвазе Аб'яўленне Тройцы. Тамаш кажа, што на тэму Тройцы філасофія нічога не можа нам сказаць. Іншай была пазіцыя св. Аўгустына, для якога паміж філасофіяй і верай няма выразнай мяжы і філасофскае мысленне нейкім чынам можа падводзіць нас да гэтых надпрыродных справаў. Аўгустын напісаў 15 кніг на тэму Тройцы, дзе пэўныя філасофскія трактоўкі павінны, на яго думку, аблегчыць зразуменне таямніцы Тройцы. Але для св. Тамаша ясна, што пра Святую Тройцу нам кажа толькі Аб'яўленне. Вера падае нам праўды, якія перавышаюць нашае разуменне. Мы разумеем, што догмат пра Тройцу паказвае нам, што ў Богу спалучаюцца множнасць і разнастайнасць з абсалютным адзінствам і прастатою; але гэтая праўда веры перавышае нашыя магчымасці яе разумення. Гэтаксама мы не ў стане зразумець спалучэння ў Богу поўнай дасканаласці і нязменнасці з паўнатой дынамізму жыцця. Што ўсё гэта дакладна значыць — мы не ведаем. Філасофія тут маўчыць; адкрываюцца толькі перспектывы веры і містыкі.

Скрайнія вызнаўцы веры ў аднаго Бога звычайна маюць найбольш цяжкасцяў, калі гаворка ідзе пра догмат Тройцы. Іх цяжкасці вынікаюць перадусім з антрапаморфнага (на чалавечае падабенства) разумення Бога. Калі гаворыцца, што Бог ёсць асобаю, што Бог асабовы, то памятайма: тут ідзецца пра выяўленне таго, што чалавечая асоба, з якой параўноўваем асобу Бога, гэта толькі нейкі слабы водбліск таго, што складае сутнасць поўнай асобы Бога. Дапамагчы тут можа толькі пазнанне аналагічнае. Нельга казаць, што Бог ёсць асобаю гэткаю, якой ёсць чалавек. Калі не прытрымлівацца такога тыпу аналагічнасці ў разуменні Бога, мы сустрэнемся з тымі цяжкасцямі, якія маюць скрайнія вызнаўцы веры ў адзінага Бога ў адносінах да догмату Тройцы. Пры ўсіх гэтых засцярогах, якія мы тут зрабілі, пры ўсім усведамленні таямніцы, неабходнасці аналагічнага пазнавання і разважання пра Бога, а таксама пры ўсім разуменні таго, што існаванне — гэта штосьці такое, што не паддаецца нашым паняццевым акрэсленням, перад намі, аднак, паўстае пытанне: ці мы сапраўды нічога не можам ведаць пра прыроду Бога?

Св. Тамаш ясна кажа: *Impossibile est igitur aliquid de Deo et rebus aliis univoce dici (C. gent.* I, 32, 7) — нельга адназначна, гэта значыць не аналагічным чынам, меркаваць штосьці пра Бога і пра рэчы. Аднак у нейкім сэнсе мы можам пазнаць і пазнаём гэтыя нябачныя рэчы, таямнічыя якасці ці ўласцівасці Бога, праз пазнаванне «дасканаласці», ці розных уласцівасцяў, якасцяў у стварэннях. Яшчэ раз прыгадайма славутае выказванне св. Паўла, што мы ўсё ж можам пазнаваць не толькі тое, што Бог ёсць, але меркаваць штосьці больш пра Бога і Яго сутнасць на падставе сузірання свету (пар. Рым 1, 20). Калі кажам, напрыклад, што Бог добры, сапраўдны, жывы і г.д., мы мусім памятаць, што заўсёды пераходзім ад уласцівасцяў, якія назіраем у стварэннях, але ў абмежаваным выглядзе, да самай паўнаты і крыніцы гэтых якасцяў, і што заўсёды, калі мы гэта сцвярджаем, мы выказваемся няўцямна. Нашае суджэнне пра Божыя якасці не можа не быць няўцямным. Яно ніколі не можа быць дакладным выказваннем і азначэннем таго, пра што ідзе гаворка. Таму містыкі раяць больш маўчаць, чым выказваць нейкія сцвярджэнні. Яшчэ раз вяртаемся да таго, што адмаўленне, спалучанае з захапленнем, запярэчанне, маўчанне ёсць найпаўнейшым і найсапраўднейшым шляхам.

Зразумела, што ў гэтым пазнанні якасцяў, а праз гэта і прыроды Бога, нам могуць дапамагчы розныя мадэлі, розныя вобразы. Мікалай з Кузы лічыў, напрыклад, што ў гэтым нам шмат можа дапамагчы матэматыка. Геаметрычныя мадэлі павінны былі б зменшыць неспасціжнасць Божай прыроды. Паколькі бясконцасць — гэта адна з найістотнейшых якасцяў Бога, то ў Богу спалучаюцца і яднаюцца ўсе тыя вартасці, якія мы назіраем у стварэннях рассеянымі і ў канечным, абмежаваным памеры. У Богу якасці, даведзеныя да бясконцасці, атаясамляюцца адна з адной, гэтак як трохкутнік з бясконца доўгім бокам зліваецца з простай лініяй.

Матэматыка нічога не кажа нам пра тое, што Бог існуе, а матэматычныя мадэлі — толькі адзін са спосабаў, якія дапамагаюць нам зразумець неспасціжную Божую прастату, злучаную з гэткім жа неспасціжным багаццем уласцівых Богу якасцяў. Падобным чынам св. Бонавэнтура, найвялікшы францішканскі Доктар, які так прыгожа пісаў пра свет, кажа, што кожнае стварэнне — люстэрка. Кожнае стварэнне, нават самае благое, у большай ці меншай ступені, у залежнасці ад сваёй дасканаласці, — гэта люстэрка, якое адлюстроўвае Божую дасканаласць. Бонавэнтура глядзіць на свет як на сістэму такіх люстэрак. Тут мы маем своеасаблівую філасофскую транскрыпцыю бачання св. Францішка.

Усе гэтыя спосабы (напрыклад, матэматызм Мікалая Кузанскага ці экзэмплярызм Бонавэнтуры) могуць аблегчыць нам пазнаўчае спасціжэнне таго, што такое Бог. Але яны не даюць пэўнага ведання. Толькі аналагічнае пазнанне, надзвычай абмежаванае, вельмі недасканалае, з'яўляецца, аднак, пазнаннем пэўным, і дзякуючы яму мы можам ведаць, што на дне таямніцы, перад якою мы стаім, ёсць рэчаіснасць, а не пустата. Бо калі кажу: я ведаю, што нічога не ведаю, калі індус згадвае пра нірвану, — гэта не значыць, што прызнаецца нябыт альбо сцвярджаецца, што няма нічога. Тут абвяшчаецца толькі тое, што нас атачае вялікая таямніца. Перад гэтай таямнічай і такой вельмі рэальнай рэчаіснасцю «ноч пачуццяў» і «ноч розуму» падаюцца больш пэўным шляхам, чым нават самыя выдатныя матэматычныя ці метафарычныя мадэлі, якія павінны былі б дапамагчы нам на гэтым шляху. Тут выяўляецца незаменная роля містычнага досведу. А ў філасофіі аналагічнае мысленне і шлях адмаўлення з'яўляюцца адзіным шляхам, якім мы можам ісці, намагаючыся хоць на крыху пранікнуць у таямніцу Божай сутнасці.

*Пераклад з польскай мовы*
*Алеся Жлуткі.*

Кс. Кірыл БАРДОНАЎ

# Рэлігійнасць герояў паэмы Якуба Коласа «Новая зямля»

Паэму Якуба Коласа «Новая зямля» нездарма лічаць энцыклапедыяй сялянскага жыцця беларусаў. Пагодзімся з Петрусём Броўкам, які адзначаў шматграннасць твора Я. Коласа[1]. Паказана ў паэме і рэлігійнасць тагачасных сялянаў.

Пачаткам паэмы паслужыла вершаванае апавяданне «Як дзядзька ездзіў у Вільню і што ён там бачыў», напісанае ў 1911 годзе ў мінскім астрозе, куды Канстанцін Міцкевіч трапіў за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе. Пазней гэтае перапрацаванае апавяданне склала XXVII–XXIX раздзелы паэмы. У турме ж, на працягу чэрвеня–верасня 1911 года, былі створаны I–VIII раздзелы паэмы[2].

Большасць раздзелаў «Новай зямлі» Якуб Колас напісаў у 1921–1922 гады, калі ён разам з сям'ёй вярнуўся на Беларусь з Курскай губерні. Беларусь была ўжо савецкай, з усімі асаблівасцямі новай улады. У студзені 1923 года Я. Колас закончыў напісанне апошняга, трыццатага, раздзела паэмы, дзе ёсць намёк, які можна палічыць антырэлігійным:

*Бо неба жорстка, неба глуха*
*І не прыклоніць свайго вуха,*
*Хоць ты прасі, хоць ты малі,*
*Хоць грудзі рві і сэрца выні —*
*Ты не кранеш яго цвярдыні,*
*Яно далёка ад зямлі,*
*Яно зацята, бо нямое,*
*Яно маўкліва, бо пустое.*

Так апісваюцца апошнія хвіліны жыцця Міхала, які *«ратунку просіць у людзей»*, а не ў «пустога» неба. Гэта частка твора належыць да савецкага часу стварэння паэмы.

У XXVII раздзеле, асновай напісання якога стала апавяданне яшчэ 1911 года, калі зазначаецца, што *«ўсё сваю дарогу мае»*, і ўзгадваюцца пры гэтым «багі», можна заўважыць нібы недахоп тэксту пасля словаў пра вызначэнне лёсу людскіх дарогаў «багамі»:

*Дарогі, вечныя дарогі!*
*Знаць, вам спрадвеку самі богі,*
*Калі красёнцы жыцця ткалі,*
*І вашы лёсы вызначалі,*
*Няма канца вам, ні супыну;*
*Вы жывы кожную часіну,*
*То задуменны, смутна строгі,*
*Як след захованай трывогі,*
*То поўны чараў спадзявання...*

Аднак думка аўтара пра пачатак дарогаў-лёсаў застаецца няяснай.

Якуб Колас неаднаразова ўзгадвае розныя праявы рэлігійнасці і рэлігійныя перажыванні сваіх персанажаў. Гэта натуральна, бо, апісваючы жыццё сялянаў, ён не мог абмінуць іх рэлігійнасці як часткі іх культуры. Сам Канстанцін Міцкевіч быў ахрышчаны ў праваслаўнай царкве ў Стоўбцах. Згадаем, што яго продкі па маці былі ў 1866 годзе пераведзены з каталіцтва ў праваслаўе[3]. Сваю маці — Ганну Міцкевіч (Лёсік) — аўтар, не змяняючы імя, апісвае ў вобразе жонкі Міхала, а яе бацьку — у вобразе дзеда Юркі. Менавіта «дзед Юрка» вучыць у паэме свайго сына маліцца папольску (з уплывам беларускай мовы), што выдае ў ім рыма-католіка: «Ну, кленч!.. хрысціся! ў імя Ойца!».

Рэлігійным традыцыям амаль цалкам прысвечаны два раздзелы паэмы: «Каляды» і «Вялікдзень». У першым з іх апісваецца святкаванне Божага Нараджэння. «Прыйшлі піліпаўкі, Мікола» — такімі словамі распачынаецца раздзел «Каляды». Падрыхтоўка да Калядаў пачыналася Піліпаўкай — пастом перад Божым Нараджэннем, які ў праваслаўнай традыцыі пачынаецца 15 (28) лістапада і працягваецца да 25 снежня (7 студзеня)[4]. У католікаў амаль у гэты самы час ідзе перыяд Адвэнту, які мае тую самую мэту, што і пост перад Божым Нараджэннем у праваслаўных — падрыхтоўку да калядных урачыстасцяў. «Мікола» — гэта ўспамін святога Мікалая (цудатвор-

**Ксёндз Кірыл Бардонаў** — вікарый парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску (архікатэдра), выкладчык «Цэнтра падрыхтоўкі катэхетаў» у Мінску, сакратар Мітрапалітальнай курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Нарадзіўся 19 жніўня 1987 г. у Вілейцы. У 2005 г. скончыў Вілейскую гімназію № 1 «Логас». У 2005–2011 гг. вучыўся ў Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску. 14 лістапада 2010 г. у Маладзечне прыняў дыяканскае пасвячэнне з рук арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. У 2011 годзе атрымаў ступень магістра тэалогіі ў Каталіцкім універсітэце імя Яна Паўла II у Любліне. 16 чэрвеня 2012 г. у Мінску з рук арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча прыняў святарскае пасвячэнне.

цы) — біскупа Міры, якія вызначаўся клопатам пра бедных і абяздоленых. Успамін гэтага свято-га адзначаецца і ў Каталіцкім Касцёле, і ў Праваслаўнай Царкве.

Апісана ў «Новай зямлі» і падрыхтоўка да святкавання Вялікадня і Божага Нараджэння з беларускімі адметнасцямі. «Некаторыя большыя сьвяты, такія як Каляды і Вялікдзень, папераджаліся вельмі дбайлівай падрыхтоўкай. Перад гэтымі сьвятамі рыхтавалі ня толькі смачную і сытную ежу, але чысьцілі дакладна ўсю хату, вопратку і перадусім ачышчалі сваю душу сьв. Споведзьдзю і сьв. Прычасьцем»[5]. Праўдзівасць гэтага сцвярджэння ў паэме «Новая зямля» адлюстраваная ў апісанні падрыхтоўкі да Вялікадня. У Вялікую суботу дзеці Міхала прыбіраюць двор:

*На працу зранку выйшлі самі*
*І падмялі двор дзеркачамі;*
*Пясочку потым накапалі*
*І сцежкі ім панасыпалі...*

Сам Міхал і яго родны брат да вялікай урачыстасці рыхтуюцца і фізічна, і ўнутрана:

*Мужчыны загадзя пабрылісь,*
*Вадою цёплаю памылісь,*
*Бо трэба ж ім было сабраццa*
*Паехаць ў цэркву спавядацца.*

Пост заключаўся не толькі ва ўстрыманні ад ежы, але і ў адмове ад ужывання алкаголю, у пазбяганні спрэчак, што добра бачна ў дыялозе Ганны і Міхала, калі апошні прыйшоў дадому падвыпіўшым:

*— І дзе ты гэтак налупіўся,*
*Каб ты смалы ўжо быў напіўся!*
*Ото натура! — жонка лае,*
*А ён смяецца, не шманае.*
*— Няма табе граху, ні посту!*
*Хоць у палонку кідай з мосту!*
*— А ў пост, скажы, сварыцца можна,*
*Калі ты гэтака набожна? —*
*Міхал у жонкі запытаўся.*

Падчас посту абмяжоўваліся ўсе жарты і весялосць моцна не праяўлялася. Так, у «Новай зямлі» Карусь Дзівак, які 15 гадоў не спавядаўся, нягледзячы на Вялікую суботу, «*...ніяк не мог стрымацца, // каб з печы жартам не азвацца...*», на што яго жонка востра рэагуе, заклікаючы схадзіць у царкву.

Персанажы «Новай зямлі» разам з аднавяскоўцамі ўдзельнічаюць у літургіі. Сям'я Міхала ходзіць у праваслаўную царкву, што яскрава вынікае з таго, як Колас называе святыню (*«цэрква», «макаўка святая»*), а святара — «поп», а таксама з апісання літургіі ў ноч з Вялікай суботы на Пасхальную нядзелю. У гэтым апісанні лёгка распазнаецца традыцыйнае адзначэнне Пасхі ў візантыйскім абрадзе. Так, Якуб Колас піша, што «сярод царкоўкі» знаходзіцца плашчаніца — покрыва з шоўку, на якім адлюстраваны Езус Хрыстус у магіле. Плашчаніцы аддаюць пашану ў Вялікую пятніцу на заканчэнне вячэрні. Перад пачаткам светлай Ютрані гэтае покрыва пераносіцца з сярэдзіны царквы на алтар, дзе знаходзіцца да ўрачыстасці Унебаўшэсця Хрыста[6]. Жанчыны і дзяўчаты апранаюць у царкве хусты і ўшаноўваць плашчаніцу, робячы паклоны:

*Кабеты, дзеўкі, маладзіцы*
*Ідуць-плывуць да плашчаніцы*
*У хустках белых і чырвоных,*
*Набожна хрысцяцца, ўздыхаюць*
*І лбом данізу прыпадаюць.*

Жанчыны стаяць з левага боку храма, а мужчыны – з правага (*«направа сталыя мужчыны»*). Адзін з вернікаў, называны ў праваслаўнай традыцыі чытальнікам, нараспеў дэкламуе ўрывак з Апостальскіх Дзеяў, пры гэтым ён мае праблемы з чытаннем, бо выкарыстоўваецца царкоўна-славянская мова:

*А Чыліноў Алесь надзьмуўся,*
*Ў святыя дзеянні уткнуўся*
*І там, дзе слоў не расчытае,*
*На сажань голас працягае.*

Літургія заканчваецца пад раніцу (*«блізак час святой дзянніцы»*). Людзі вітаюць адзін аднаго: «Хрыстос васкрос». Пасля Літургіі адбываецца благаслаўленне страваў на велікодны стол:

*Нясуць жанкі, нясуць мужчыны*
*Кашы, каробкі, паўасміны*
*І ставяць ў рад на цвінтары*
*Ўсе велікодныя дары.*
*Маленне бацька-поп канчае,*
*Ідзе з крапідлам і махае.*

Апісанае ў «Новай зямлі» царкоўнае святкаванне Вялікадня ўрыўкамі перадае ход святкавання Пасхі ў візантыйскім абрадзе: у Вялікую суботу ўвечары вернікі збіраюцца ў храм, дзе прыкладна апоўначы адбываецца працэсія вакол царквы (Крыжовы ход), і падчас спеву «Уваскрасення дзень» святары і дыяканы ўзаемна вітаюцца пасхальным прывітаннем: «Хрыстос уваскрос!» («Христос воскресе!»), пасля чаго падобным чынам вітаюцца з вернікамі. Пасля Ютрані адбываецца літургія (Эўхарыстыя), якая заканчваецца пад раніцу.

Благаслаўленне страваў на велікодны стол адпавядае старадаўняй хрысціянскай традыцыі благаслаўляць ежу. У Беларусі, ва ўсходнім і заходнім абрадах, благаслаўленне велікодных страваў адбываецца пераважна на працягу дня ў Вялікую суботу, але часам і пасля заканчэння Пасхальнай літургіі, як гэта апісана ў «Новай зямлі».

Рыма-каталіцкі Касцёл у часы, якія апісваюцца ў паэме (1890–1900), пачынаў святкаваць Вялікдзень у Вялікую суботу раніцай, а ў Велікодную нядзелю раніцай адбывалася яшчэ адна свя-

точная Імша. Цяпер Касцёл вярнуўся да хрысціянскага звычаю, які сягае першых стагоддзяў пасля нараджэння Хрыста, пачынаць Вялікдзень, як і праваслаўныя браты, ноччу з суботы на нядзелю. Адметнай рысай беларускага народа з'яўляецца тое, што свята Пасхі прынята называць «Вялікдзень» (як і ў «Новай зямлі»), хоць па сутнасці кульмінацыйным пунктам святкавання з'яўляецца Пасхальная ноч, а не дзень.

Хоць з факту наведвання царквы вынікае, што суседзі Міхалавай сям'і праваслаўныя, аднак Якуб Колас паказвае, што на апісаных ім землях захаваліся каталіцкія звычаі:

*Яшчэ па звычаю старому*
*Мужчыны сталыя удому*
*Свае літанні адпраўлялі,*
*Пакуты Езуса спявалі.*

Узгаданыя ў гэтым урыўку «Пакуты Езуса» вельмі падобныя да «Песняў жальбы» («Gorzkie żale»), якія сапраўды маюць падабенства да літаніі (заклік – адказ), а змест песняў, што складаюць гэтае набажэнства, — Мука Хрыста. «Песні жальбы» складаюцца з некалькіх частак, а тыя ў сваю чаргу — з некалькі песняў, паводле ж «Новай зямлі», тыя, хто спяваў «Пакуты Езуса», мелі праблемы з пачаткам новай песні. Набажэнства «Песні жальбы» сфармавалася ў Польшчы на пераломе XVII–XVIII стагоддзяў.

Відаць, што ў сям'і Міхала шануюць каталіцкія звычаі. Вярнуўшыся велікодным ранкам з царквы дадому, Міхал з жонкай і з Антоніем, як прынялося *«год ад году»*, спяваюць песню «Wesoły nam dziś dzień nastał», дзе ўслаўляецца Хрыстова ўваскрасенне. Старэйшыя людзі — *«сталыя мужчыны»* — спяваюць «Пакуты Хрыста», трымаючыся старых каталіцкіх традыцый: *«па звычаю старому»*, *«свае захоўвалі парадкі»*. Пры гэтым дзеці Міхала не ўдзельнічаюць у спеве старэйшых (*«а хлопцы толькі ўсміхнуцца»*) — народжаныя ў канцы XIX ст., яны былі выхаваныя ў праваслаўнай традыцыі. Пра рэлігійнае выхаванне ўзгадваецца ў раздзелах 15-м і 16-м.

Цяпер вернемся да апісання велікоднага стала. Для рэлігійнасці беларусаў характэрна, што кожнае святкаванне, апрача прадпісаных абрадаў, мела яшчэ шмат сямейных звычаяў. Ілюстрацыяй гэтага можа быць звычай урачыстага снедання велікодным ранкам. Традыцыйна яно і да гэтага часу праходзіць згодна з «раскладам», прыведзеным у «Новай зямлі»: узаемнае прывітанне, выкананне адпаведных спеваў, спажыванне асвячонай ежы, віншаванні.

*Прыйшлі у хату, ўсіх цалуюць,*
*З святым Вялікаднем віншуюць;*
*Памылісь борздзенька, садзяцца,*
*Бо час даўно ім разгаўляцца.*
*Ніякай цені незаметна.*
*На бэльку кінуў бацька вочы,*
*Бярэ кантычку і гартае,*
*«Вэсолы нам дзісь дзень» шукае.*
...................................................
*Відэльцы дружна разбіраюць,*
*І гуртам яйкі ачышчаюць,*
*І па кусочку іх бяруць,*
*Крыху падсольваюць, ядуць.*
...................................................
*Вось бацька чарку налівае*
*І вочы ўгору падымае.*
*— Дай, Божа, за год дачакаць*
*Здаровым, вясёлым, жывым*
*І новы Вялікдзень таксама спаткаць...*

Перад Божым Нараджэннем сяляне захоўвалі ўстрыманне ад мяса, але некаторым гэта не ўдавалася, і такі чалавек, не дачакаўшыся свята, *«цішком свяжынкі паспытае»*. Супольнае спажыванне ежы ў вігілію Божага Нараджэння адбывалася за сталом, на які клалі сена і засцілалі абрусам:

*Настольнік белы падымаюць,*
*На стол растрэсваюць мурог —*
*На сене колісь быў Сын Бог —*
*І роўным пластам рассцілаюць,*
*Сянцо абрусам закрываюць.*

У вігілійны вечар на стале было шмат страваў, але не ўжывалася мясное — гэта апісана ў «Новай зямлі», і такі звычай застаецца дагэтуль. Такая вячэра называецца «куццёю», згодна з назвай адной з ужываных страваў. Якуб Колас піша таксама пра звычай карміць хатнюю жывёлу сенам, якое рассцілалася на святочным стале, і варажыць па зярнятках, знойдзеных у сене.

Такім чынам, апісваючы рэлігійнасць герояў «Новай зямлі», Якуб Колас гарманічна паказаў веру і звычаі беларускіх сялянаў у суіснаванні і пераплеценасці лацінскай і візантыйскай традыцыі. Пры гэтым аўтар абапіраўся на жыццёвы досвед свайго асяроддзя. Рэлігійнасць герояў паказана вельмі праўдзіва, што яшчэ раз дазваляе пераканацца ў моцнай хрысціянскай аснове гэтай сапраўднай энцыклапедыі жыцця беларускага народа.

---

[1] П. Броўка на III з'ездзе пісьменнікаў Беларусі: «...як бы хацелася, каб у нас з'явілася нешта падобнае да вядомай паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Прачытаўшы гэты твор, бачыш тагачаснае сялянскае жыццё ва ўсёй яго паўнаце... А вось цяпер... такога **шматграннага** паэтычнага твора ў нас няма...» цыт. паводле: М. Жыгоцкі. *Жамчужына беларускай паэзіі. Побач з Коласам*. Рэд. В.П. Жураўлёў. — Мінск, 1996. — С. 22–26.

[2] А. Антанян. А. Белы. *Панамі будзеце, панамі! або Навошта дзядзька ездзіў у Вільню*. Час. «Спадчына», 4, 2002 г.

[3] Пар. Язэп Янушкевіч. *Наша Песня Песняў*. У: *Паэма "Новая Зямля" Якуба Коласа з ілюстрацыямі Васіля Шаранговіча*. — Мінск, 2002. — С. 873.

[4] Пар. А. Мень. Таинство, Слово и Образ. — Москва, 2001. — С. 247.

[5] А. Самавец. Пабожныя беларускія звычаі. «Божым шляхам», 6, 1951 г. — С. 6.

[6] Пар. А. Мень. Таинство, Слово и Образ. — Москва, 2001.

Адам МАЛЬДЗІС

# Няхай абраз зноў творыць цуды



З сакавіка месяца мінулага года ў маёй памяці зноў і зноў узнікае той пахмурны дзень, дакладней, ранак, калі перад паездкай беларускай дэлегацыі ў Кракаў я стаяў ля акна на кухні, глядзеў на перадвеснавое неба і думаў, што ж мне казаць, што рабіць там як старшыні грамадскай камісіі «Вяртанне» пры Беларускім фондзе культуры. Не раз і ў Мінску, і ў Гомелі мне задавалі пытанні, чаму ні камісія, ні я асабіста нічога не робім, каб вярнуць у Юравічы, што ў Калінкавіцкім раёне Гомельшчыны (а калісьці яны былі ў Рэчыцкім павеце Мінскай губерні) цудатворны абраз Маці Божай, які пасля паўстання 1863 года быў патаемна вывезены ў Кракаў і цяпер там знаходзіцца на сцяне або ў алтары касцёла святой Барбары. А ў Юравіцкім праваслаўным храме засталася толькі яго копія... Таму слова «вяртанне» ўвесь час тады круцілася ў галаве.

І раптам пачуў нібы знутры і нібы здалёку выразны голас:

— Ніякае не вяртанне, а толькі абмен! Бо што падумаюць кракаўскія парафіяне, пабачыўшы ў касцёле замест таго абраза пустое месца?!

З гэтым цвёрдым рашэннем: «Толькі абмен!» я і паехаў у той дзень у польскае консульства, каб атрымаць на шэсць дзён камандзіроўкі бясплатную (бо ехаў жа я з навуковымі мэтамі) шэнгенскую візу. І якое ж было маё здзіўленне, калі, выслухаўшы мой кароткі аповед аб мэтах паездкі, пачуў у адказ:

— Справа гэта сур'ёзная і звязаная з узаемаразуменнем народаў і канфесій. Таму даем вам візу на пяць гадоў.

У той дзень добраспрыянні праявіліся яшчэ некалькі разоў. Але іх можна вытлумачыць і простымі супадзеннямі. А вось віза — гэта рэальнасць. Мае калегі, пачуўшы пра такі рэдкі выпадак, тлумачылі яго так: значыць, уся справа заўгодная добрым сілам...

Перад ад'ездам я пайшоў за дабраславеннем і ў каталіцкую курыю, і ў праваслаўны экзархат. Але там пачуў, хутчэй, песімістычныя меркаванні: з часу вымушанага вывазу прайшло ўжо каля паўтара стагоддзя — напэўна ж, загубіліся і правы, і сляды.

Той жа скепсіс прагучаў і ў Польшчы пасля майго выступлення на беларуска-польскім «круглым стале», арганізаваным пад эгідай ЮНЕСКА Міжнародным цэнтрам культуры ў Кракаве і Польскім інстытутам у Мінску. Праўда, спачатку, калі я гаварыў пра ўвекавечанне памяці «маці ўсіх польскіх каралёў-Ягелонаў» і тым самым усіх каралеўскіх дынастый у сучаснай Еўропе двухканфесійнай Соф'і Гальшанскай і пра набходнасць хутчэй нарэшце адчыніць у Кракаве музей Гутэнаў-Чапскіх, перавезены туды са Станькава ў 1896 годзе яго ўладальнікамі ў шасці вагонах, усё разглядалася і вырашалася добразычліва, спрыяльна. Аднак, калі гаворка дайшла да цудатворнага абраза з Юравічаў, мне ціха, а потым усё гучней запярэчылі:

— Вяртаць вам? Перавозіць? Але куды? На глухое Палессе? У глухую цэркаўку? Да таго ж да Юравічаў абраз быў у Львове... Калі перавозіць, то, хутчэй, ужо туды...

— А да Львова быў Бар, — адважыўся парыраваць я.—Там гетман Рэчы Паспалітай Станіслаў Каняцпольскі, ратуючы абраз ад казацкага нападу, пера-

---

**Адам Мальдзіс** — доктар філалагічных навук, прафесар, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1965 года. Нарадзіўся 07.08.1932 г. у вёсцы Расолы Астравецкага раёна. Закончыў аддзяленне журналістыкі БДУ (1956). Аўтар шматлікіх даследаванняў, у тым ліку «На скрыжаванні славянскіх традыцый» (1980), «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя» (1982), «З літаратуразнаўчых вандраванняў» (1987), «Перазовы сяброўскіх галасоў» (1988), а таксама нарысаў, аповесцяў і эсэ, прысвечаных беларускай культуры. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Узнагароджаны медалём імя Францыска Скарыны. Жыве ў Мінску.




даў яго езуітам. Адзін з іх, папулярны ў народзе Марцін Тыраўскі, пераехаў на Палессе, збудаваў там, у Юравічах, на высокім беразе даліны Прыпяці, драўляны храм і пакінуў у ім абраз, ужо шырока вядомы сваёй цудатворнасцю. Галоўны ж мой аргумент заключаецца ў тым, што абраз гэты яўна візантыйскага паходжання. Значыць, месца яму не столькі ў касцёле, колькі ў царкве, якая з 1995 года дзейнічае, адноўленая, у Юравічах пры жаночым праваслаўным манастыры ў імя Раства Багародзіцы. Усё пытанне, — працягваў я аргументацыю, — можа быць вырашана безбалесна і дзеля карысці абедзвюх нашых канфесій, таму што гаворка ідзе не пра вяртанне, а пра абмен. Копію ж нашы продкі зрабілі так па-майстэрску, што пасля паўстання 1863 года, пры передачы ў царкву, «падману» не заўважылі не толькі вернікі, але і праваслаўнае духавенства. Арыгінал жа знаходзіцца, кажуць у нас, у Кракаве, недалёка ад цэнтра, дзе мы засядаем, у касцёле святой Барбары, які таксама цяпер належыць айцам езуітам.

Дырэктар Міжнароднага цэнтра культуры прафесар Яцак Пурхля разумна вырашыў пытанне ў той жа дзень: калі абраз з'яўляецца ўласнасцю айцоў езуітаў, то ідзіце прама да гаспадароў — няхай самі вырашаюць лёс старадаўняй рэліквіі.

Назаўтра, калі ўсе астатнія члены нашай дэлегацыі пайшлі на Вавель, каб у катэдры ўскласці кветкі да магілы Соф'і Гальшанскай, якая, думаецца, з цягам часу будзе кананізаваная падобна Соф'і Слуцкай, мы, разам з супрацоўніцай цэнтра спадарыняй Козак, пайшлі да славутага мар'яцкага касцёла, ля падножжа якога прытулілася маленькая святыня святой Барбары. Зайшлі ў яе гатычнабарочныя сцены і адразу ж за дзвярыма, каля левай сцяны, убачылі алтар, а ўверсе яго — невялікі абраз яўна візантыйскага паходжання. Адтуль сыходзіла добрае і светлае супакаенне. Пад яго ўздзеяннем пачынаю разумець, што вяртанне, а не абмен было б тут немаральным.

Выйшаўшы на вулачку, абышоўшы муры, мы трапілі на невялікую плошчу і знайшлі дзверы, што вялі ў кляштар айцоў езуітаў. Тэлефоннае папярэджанне цэнтра падзейнічала: сустрэча адбылася з хрысціянскай добразычлівасцю. Я не буду пераказваць усю амаль гадзінную размову, прывяду толькі фразу, пачутую ў адказ на прапанову зрабіць абмен копіі на арыгінал:

— Калі на тое будзе воля Божая і адначасовае спрыянне двух міністраў культуры нашых краін, — усё мажліва.

Падзякаваўшы за такую надзею, асцярожна спыталася, ці былі зафіксаваны цуды, здзейсненыя каля абраза пасля 1931 года, калі ён быў змешчаны тут, у алтары касцёльнай капліцы пад найменнем Маці Божай Балеснай. Адказ прагучаў адназначна: не, не зафіксаваны.

На развітанне я атрымаў ілюстраваную брашуру «Касцёл святой Барбары ў Кракаве» і паштоўкі з выявамі абраза і касцёла. Нахаду гартаючы падарунак, убачыў раздзел «Гісторыя абраза Маці Божай Юравіцкай» і «Малітву да Маці Божай Юравіцкай дзеля таго, каб выпрасіць асаблівую ласку». Ну, падумалася, на чытанне кніжачкі будзе час у цягніку Кракаў — Варшава, а малітву папрашу перакласці ў рэдакцыі «Нашай веры».

Аднак у цягніку ўвесь час пайшоў на абмеркаванне ўражанняў ад «круглага стала» ды планаў на бліжэйшую будучыню. Таму пры перасадцы ў Варшаве, калі калегі дружна скіраваліся аглядаць польскую сталіцу, я адмовілася павандраваць па ёй яшчэ раз і скіравалася ў пачакальню, каб нарэшце грунтоўна пазнаёміцца з падарункам айцоў езуітаў. І не памылілася, бо нарэшце зразумела, чым тлумачылася іх звышдобразычлівасць.

«Палескі» раздзел брашуры пачынаецца вось такімі азнаямляльнымі сказамі: «Вялікай пашанай вернікаў акружаны абраз Маці Божай Юравіцкай у капліцы Маці Божай Балеснай. Яго паходжанне невядома. Паводле праф. Веслава Зажыцкага, гэты абраз візантыйскага паходжання быў намаляваны ў канцы XIV або ў пачатку XV стагоддзя, у ім ужо бачны ўплыў рэнесансу. Самыя даўнія звесткі пра абраз адносяцца да першай паловы XVII стагоддзя».

Далей гаворыцца, што, аказаўшыся ў Юравічах, абраз неўзабаве ператварыў гэтае невядомае мястэчка ў «славуты марыйны санктуарый». У першай палове XVIII стагоддзя езуіты ўзвялі там мураваны касцёл і сваю рэзідэнцыю. Пасля скасавання ордэну езуітаў (1773 г.)

апекавацца санктуарыем найперш сталі айцы бэрнардыны, потым — айцы капуцыны. Пасля студзеньскага паўстання Гуга Гадэцкі, «апошні юравіцкі пробашч, змясціў копію абраза Маці Божай у алтары, а праслаўлены ласкамі абраз пераказаў для перахавання Габрыэлі з Ваньковічаў Горватавай, жонцы маршалка (шляхты) Рэчыцкага павета». Дарэчы, дадам ад сябе: Габрыэлю Горват беларускі і польскі пісьменнік Аляксандр Ельскі назваў сярод трох найвыдатнейшых жанчын беларусак XIX стагоддзя; дзве другія — гэта пісьменніца і палітычная ссыльная ў Сібір Ева Фялінская, маці нядаўна кананізаванага арцыбіскупа Алойзы Фялінскага, і аўтарка неаднаразова ананімна выдадзенай «Літоўскай гаспадыні» Ганна Цюндзявіцкая, таксама жонка маршалка шляхты, але ўжо не Рагачоўскага, а Барысаўскага павета.

Аднак вернемся да тэксту брашуры. У канцы яе знаходзіцца сказ, які тлумачыць надзвычайную добразычлівасць айца езуіта ў Кракаве. Аказваецца, «у маі 1885 года Габрыэля Горватава аддала абраз ***у дэпазіт*** (выдзелена мною. – А. М.) езуітам з Кракаўскай калегіі». Значыць, паводле юрыдычных канонаў, цяперашнім кракаўскім уладальнікам давялося б абраз вярнуць нават у тым выпадку, калі б гаворка ішла не пра абмен арыгінала на копію, а пра звычайнае вяртанне... У час сустрэчы айцец езуіт ужо ведаў, што абраз быў перададзены з такой умовай, а я яшчэ не ведаў.

Хто ж з’яўляецца аўтарам так выкананай копіі, што яе нават не адрознілі пры падмене ад раней бачанага арыгінала? На навуковым форуме, прысвечаным знакамітым мінчанам, знаўца гісторыі Беларусі прафесар Раман Юркоўскі з Ольштына (Польшча) сказаў мне, што гэта была знакамітая палеская мастачка Галена Скірмунт (1827–1874), нараджэнка маёнтка Калоднае на Століншчыне. Пэндзлем яна авалодвала ў Вільні, удасканальвала жывапісанне ў Берліне і Дрэздэне, потым вучылася скульптурнаму майстэрству ў Вене і Рыме. Праславілася выразанымі з дрэва шахматнымі фігуркамі воінаў Рэчы Паспалітай і Турцыі, якія змагаліся ў вядомай бітве пад Венай. Часта звярталася да рэлігійнай тэматыкі (партрэт «Марыя Чапская моліцца ў кляштары візітак у Вільні», праект алтара для касцёла ў вёсцы Ахова каля Пінска, алтарны абраз «Бязгрэшнае Зачацце», рэстаўрацыя вышывак на літургічных шатах у пінскім касцёле). Копію з абраза Маці Божай Юравіцкай зрабіла, відаць, яшчэ да паўстання, бо ў 1863 годзе была арыштаваная і высланая ў Тамбоў. У 1870-м вызваленая, але без права вяртання на радзіму, дажывала свой век у Крыме.

Такім чынам, копія абраза Маці Божая Юравіцкая ў мастацкіх адносінах роўная арыгіналу, а, можа, і пераўзыходзіць яго (параўнальнага ж аналізу ніхто не рабіў). А ў духоўных адносінах, цудатворных?

Адказаць на апошняе пытанне мне дапамаглі розныя людзі, якія прыязджалі ў Мінск з Гомельшчыны («Не, — гаварылі яны, — пра такія факты мы не чулі»), а таксама — нібы наканаванае выяўленне адпаведнай цытаты ў прысланай мне з Гомеля дакументальнай аповесці Рыгора Андрэяўца «Капітан Франц». Выдадзена яна ў 2012 годзе ў Гомелі ў серыі «Ваенныя разведчыкі» і прысвечана герою Афгана Францу Клінцэвічу. У кнізе зафіксаваны такі факт: на радзіму героя, у вёску Крэйванцы, што на Ашмяншчыне, прыходзіў адразу ж пасля вайны, шукаючы магілу свайго забітага сына, старац-лірнік ажно з паўднёвага ўсходу Беларусі. Ён належаў да асаблівай супольнасці рэчыцкіх старцаў. Вандруючы па Палессі, яны спявалі духоўныя вершы, вучылі людзей распазнаваць несправядлівасць. А кожнай вясной рэчыцкія старцы збіраліся каля крупейскай капліцы, спявалі духоўныя песні і псальмы, збіралі грошы. «Частка ахвяраванняў ішла на юравіцкі абраз. Гэты абраз быў з’яўлены: ён вылечыў многіх сляпых».

Выходзіць, калі разважаць спрошчана, раней Божая ласка ў Юравічах праяўлялася, нават масава, а цяпер — зусім не. Чаму? Некаторыя мае суразмоўцы схіляліся да думкі, што прычына тут — у канфесійнай іншасці: калісьці арыгінал знаходзіўся ў каталіцкай святыні, а цяпер яго копія — у праваслаўнай... Але мне такое сцвярджэнне здаецца надуманым, бо абедзве святыні з’яўляюцца хрысціянскімі. Колішні касцёл, а цяперашняя царква аднолькава шануюцца вернікамі абедзвюх канфесій. Доказам таму для мяне стаў вялікі фотарэпартаж Раісы Сушко і Карнэлія Консэка «У адну дарогу», апублікаваны летась у баранавіцкім часопісе «Дыялог» ( 1, 2012). Там гаворыцца, што вось ужо шосты год кожнай восенню з Мазыра ў Юравічы і назад накіроўваецца вялікая пілігрымка. У ёй аб’ядноўваюцца праваслаўныя вернікі пад кіраўніцтвам епіскапа Тураўскага і Мазырскага Сцяфанія і каталіцкага святара Тадэвуша Воласа. Вернікам абедзвюх канфесій выносіцца копія цудадзейнага абраза Маці Божай Юравіцкай Міласэрнай, Апякункі беларускага Палесся. Усе заміраюць, становяцца на калені ў чаканні цудадзейнасці, а яна не наступае...

А, можа, падумалася мне, арыгінал спадзяецца на сваё вяртанне на стагоддзямі намоленае і таму роднае для яго месца?! Можа, чакае, пакуль аб’яднаныя палескія вернікі абедзвюх канфесій самі стануць ініцыятарамі ўзаемнага абмену? Уяўляю сабе такую вялікую і нечуваную ўрачыстасць...

Аляксей Яроменка

# КАТАЛІЦКІЯ СВЯТЫНІ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



Касцёл у в. Варняны.

**Вёска Варняны.** Варняны вядомыя з 1391 года. У 1397 г. яны ўзгадваюцца ў пераліку паселішчаў Вялікага Княства Літоўскага, якія належалі каралю Ягайлу і перадаваліся ў маёмасць Віленскай капітуле. У 1462 г. па фундацыі Марыны Сангайлавай, «згодна з воляй памерлага мужа», у цэнтры вёскі, на гандлёвай плошчы, быў пабудаваны драўляны касцёл, асвечаны пад тытулам Божага Цела. Наступныя ўладальнікі Варнянаў — князі Свірскія — пабудавалі ў пачатку XVI ст. новы касцёл (2, 10, 11, 15).

З канца XVI ст. і да 1880 г. Варняны — уласнасць вядомага шляхецкага роду Абрамовічаў. Набыўшы паселішча, Ян Абрамовіч (+1602), ваявода мінскі і смаленскі,ператварыў касцёл у кальвінскі збор, але ягоны ўнук Самуэль Абрамовіч (1617–16??), староста старадубскі і ваявода троцкі, навярнуўшыся ў каталіцтва, у 1654 г. зачыніў збор і ўзнавіў дзейнасць варнянскай рыма-каталіцкай парафіі. У 1688 г. Варняны атрымалі статус мястэчка Віленскага павета (2, 12-а, 15).

Да XIX ст. варнянская парафія ўваходзіла ў склад Ашмянскага, а потым, у часы Расійскай імперыі — Віленскага павятовага дэканата. У міжваенны перыяд Варняны атрымалі статус цэнтра аднайменнага дэканата Віленскай дыяцэзіі — з 1925 г. у Варнянскі дэканат уваходзілі 11 парафій: Варняны, Астравец (2 парафіі), Быстрыца, Гервяты, Кемелішкі, Міхалішкі і Свіранкі Вялікія, а таксама Буйвіды, Міцкуны і Лаварышкі, якія цяпер знаходзяцца на тэрыторыі Літвы. З 1991 г., з утварэннем Гродзенскай дыяцэзіі, Варняны — парафія Астравецкага дэканата гэтай дыяцэзіі (6-б, 11).

У 1767–1769 гг. на месцы старажытнага храма на сродкі Марыі (Марцыяны) Абрамовіч быў узведзены новы, і ўжо мураваны, касцёл, які згодна з праектам архітэктара А. Касакоўскага (ён жа аўтар праекта палаца Тышкевічаў у Валожыне) стаў галоўным акцэнтам і дамінантай выдатнага рэгулярнага горадабудаўнічага ансамбля ў стылі позняга барока. Касцёл замыкае ўсходні бок вялікай, выцягнутай, прамавугольнай у плане плошчы, заходні бок якой ствараў палацава-паркавы комплекс сядзібы Абрамовічаў. Паўднёвы і паўночны бакі плошчы фармуюць рады тыпавой жылой забудовы з карчмой і крамамі, аб'яднанай у адзінае цэлае каменнымі прасценкамі з арачнымі праездамі. Два будынкі 1770 г., што фланкуюць касцёл, — плябанія (злева) і дом аптэкара (сёння калгасная кантора і адміністрацыя с/с) — ствараюць перад храмам курданёр, разгорнуты на плошчу (2, 11).

Касцёл быў урачыста кансэкраваны ў 1769 г. біскупам-суфраганам Тамашам Зяньковічам пад тытулам св. Юрыя. У XIX–XX стст. святыня неаднойчы рамантавалася і рэканструявалася на сродкі парафіянаў (1880, 1903, 1909 гг.). Сёння — гэта велічны двухвежавы залавы храм з падоўжанай прамавугольнай апсідай з дзвюма двухпавярховымі двухпакаёвымі сакрыстыямі. Інтэр'ер, перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках з распалубкамі над вокнамі, у XIX ст. упрыгожвалі ажно 7 алтароў: Унебаўзяцця Маці Божай (галоўны), Ук-

**Аляксей ЯРОМЕНКА** — архітэктар, даследчык архітэктуры. У 1989 г. скончыў архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Працаваў у ВА «Белрэстаўрацыя», ДПІ «Мінскпраект», творчых майстэрнях пры Саюзе архітэктараў РБ. Лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх архітэктурных конкурсаў. Большасць работ зроблена ў галіне культавага дойлідства, рэстаўрацыі і рэканструкцыі сакральных аб'ектаў. Аўтар праектаў культавых збудаванняў у Бабруйску, Бараўлянах, в. Браздзечына, Мінску, Слуцку, в. Цэнтральнай і інш. Займаецца выяўленнем і фіксацыяй руінаў раней не даследаваных культавых аб'ектаў. Жыве ў Мінску.

рыжавання, святых Пятра, Казіміра, Ізыдора, Юрыя і Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Частка абразоў належала пэндзлю вядомага мастака С. Чаховіча. Цяпер у малітоўнай прасторы святыні 3 барокавыя алтары: галоўны Маці Божай Успамогі Хрысціянаў і бочныя, левы — Маці Божай Ружанцовай, правы — Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Галоўны алтар вырашаны ў выглядзе трох'яруснага трыфорыума, цэнтр якога займае абраз Маці Божай Успамогі Хрысціянаў, які пасля набажэнства зачыняецца абразом святых Яна Боскі і Дамініка Савіо — ужо больш за дзесяць гадоў варнянскай парафіяй апякуюцца салезіяне, якія пашыраюць культ менавіта гэтых святых. Над уваходам у касцёл зробленыя хоры на дзвюх апорах з хвалістым барокавым парапетам (3, 11).

Да варнянскай парафіі здаўна належалі капліца ў Вароне, у 2-й пал. XIX ст. (пасля зачынення касцёла ў Быстрыцы і да 1920-х гг.) — капліца ў Слабодцы, а ў 1930-я гг. — капліца ў Дубніках (не захавалася). Перад Другой сусветнай вайной колькасць мясцовых парафіянаў складала больш за 3000 вернікаў. Дзейнічала пры касцёле і парафіяльная школа (3, 10, 11).

У часы савецкай улады касцёл быў зачынены і занядбаны. На пачатку 1980-х гг. распачаліся рэстаўрацыйныя працы, а 11 сакавіка 1990 г. храм быў нарэшце перададзены вернікам. У 1996 г. вакол касцёла зроблена новая мураваная агароджа з брамай і стацыямі Крыжовага шляху.

На заходняй ускраіне мястэчка знаходзяцца старажытныя парафіяльныя могілкі. Уваход на іх пазначаны неабарокавай мураванай атынкаванай брамай з надпісам «WIECZNE ODPOCZNIENIE RACZ IM DAĆ, PANIE». У цэнтры могілкавага ўзвышша захаваліся руіны мураванай каплічкі (падобнай на надмагілле, але мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што каплічка малітоўная) — гэта было цэнтрычнае, пірамідальнае, квадратнае ў плане (1 х 1 х 2м) збудаванне з атынкаванай цэглы. Справа ад могілак у 2006–2008 гг. вернікі збудавалі прымогілкавую капліцу з сілікатнай цэглы. Святыня нагадвае маленькі касцёл — прамавугольны ў плане залавы аб'ём перакрыты двухсхільным дахам з металадахоўкі, галоўны фасад завершаны псеўдабарокавым франтонам і дзвюма дэкаратыўнымі вежачкамі.

**Вёска Баброўнікі.** Прыдарожная каплічка-«слупок», пабудаваная ў XIX ст. у цэнтры вёскі на скрыжаванні, асабліва цікавая ў параўнанні з падобнымі збудаваннямі ў навакольных вёсках. Гэта цагляная атынкаваная прызма на бутавым падмурку, у вялікай цэнтральнай нішы змешчаная фігура Езуса Назарэтанскага, у бочных — фігура Найсвяцейшай Марыі Панны і разьбянае Укрыжаванне. Увенчвае каплічку над чатырохсхільным дахам вялікі карункавы каваны крыж.



Фігура Езуса з каплічкі ў в. Баброўнікі.

**Вёска Варона.** Капліца на могілках, на ўзвышшы паўночнай ускраіны вёскі, была пабудавана яшчэ ў XVII ст. (паводле іншых звестак — у 1-й палове ці сярэдзіне XVIII ст.), асвечаная пад тытулам св. Філамены (св. Юрыя?) і прыпісаная да варнянскай парафіі (2, 3, 11). Паводле Курчэўскага, капліца была заснавана яшчэ ў 1530-я гг. біскупам Янам Жыгімонтавічам, фундатарам гервяцкай парафіі, і да яе ж далучаная. Упасажыў капліцу на пач. XVIII ст. біскуп Бжастоўскі. Аднак у рэестры капліцаў святыня пазначана як «узнесеная» Каспарам Чыжам у 1803 г., што з'яўляецца памылкай (магчыма, тады адбылося аднаўленне святыні, хоць Чыжы сапраўды былі ўладальнікамі Вароны ў XIX ст. (10, 14).

Капліца прамавугольная ў плане, пад высокім двухсхільным дахам. Галоўны фасад завершаны трох'ярусным атыкавым франтонам з 3-ма пінаклепадобнымі вежачкамі, падобная вежачка ўвенчвае і трохвугольны франтон алтарнага фасада. Да алтарнай сцяны ў пач. XX ст. была прыбудавана невялікая сакрыстыя. Інтэр'ер залавы, з падшыўной плоскай столлю, раней быў упрыгожаны фрэскавымі размалёўкамі XVIII ст. — на сценах былі намаляваныя выявы апосталаў, вакол алтарнай нішы — выява перспектыўнага алтара з іанічнымі калонамі, антаблементам і конхай, на столі — імітацыя купала, у нішах агароджы хораў — разеткі. На жаль, усё гэта забелена падчас нядаўняй рэстаўрацыі (5).

У алтарнай нішы ў 2004 г. быў змешчаны абраз св. Андрэя Баболі, а ў XIX стагоддзі інтэр'ер капліцы ўпрыгожвалі 3 алтары: галоўны — св. Філамены, бочныя — Найсвяцейшай Марыі Панны і св. Антонія (3).

Падчас Другой сусветнай вайны, у 1943 г., капліца была значна пашкоджаная, пасля — зачыненая і, нягледзячы на статус помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння, знаходзілася ў амаль зруйнаваным стане. У 2002 г. пачалася рэстаўрацыя святыні, і на свята Божа-

га Нараджэння ў 2004 г. капліца зноў адчыніла дзверы для вернікаў. Асвяцілі капліцу пад гістарычным тытулам св. Юрыя (11-е, 17). Участак абнесены невысокай карункавай металічнай агароджай з трохаркавай уваходнай брамай з сілікатнай цэглы. Вакол капліцы зробленыя стацыі Крыжовага шляху ў выглядзе слупкоў з сілікатнай цэглы.

**Вёска Дубнікі.** Капліца ад варнянскай парафіі была пабудавана тут на пач. XVIII ст. ваяводам інфлянцкім Бжастоўскім «на востраве на возеры» (10). Але час не пашкадаваў святыню — яна адрадзілася толькі ў міжваенны час. Тады капліца знаходзілася на 1-м паверсе дома для састарэлых, які пабудавалі ў гэтыя гады за 2 км на захад ад вёскі. Пасля вайны капліцу скасавалі, аднак дом для састарэлых дзейнічае і сёння (11-д).

Затое ў суседняй в. Карвелі захаваўся камень-помнік, усталяваны накшталт прыдарожнай капліцы з выяваю Маці Божай Вастрабрамскай і надпісам на польскай мове «помнік вялікага юбілею 1901 г.», абвешчанага папам Львом XIII.

**Вёска Гервяты.** Згодна з паданнем, пачатак Гервятам даў у 1271 г. вялікі князь літоўскі Гермонт, які і назваў паселішча Гермонтамі. З часам назва ператварылася ў Гервяты (9, 10). У 1434 г. вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч ахвяраваў паселішча Віленскаму біскупству як «добра сталовыя». У 1471 г. і 1474 г. Віленскі біскуп Ян Ласовіч павялічыў вёску, набыўшы яшчэ «некалькі дымоў», а ў 1484 г. вёску павялічыў біскуп Анджэй Гасковіч. Статус «добра сталовых» захоўваўся да 1795 г. (апошнім уладальнікам Гервятаў быў біскуп Масальскі), калі Гервяты сталі ўладаннем «скарбу расійскага». У 1797 г. імператар Павел І аддаў вёску графу дэ Хойсеул-Гоўферу, расійскаму амбасадару ў Стамбуле, які ў 1803 г. прадаў яе Мацею Дамейку, падкаморыю віленскаму. Дамейкі і валодалі Гервятамі да 1939 г. (16).

Раней лічылася, што гервяцкая парафія была заснаваная ў 1511 г. (9, 10) ці ў 1526 г. (11, 16), але на самай справе гэта адбылося трошкі пазней. У 1535 г. Віленскі біскуп Ян («з княжат літоўскіх» – de Ducibus Lituanis), сын караля Жыгімонта I, стаўшы ўладальнікам вёскі і яшчэ да афіцыйнай фундацыі касцёла, даў «да касцёла гервяцкага 2-х падданых ... і дзве пустоўшыны, Баброўшчызна і Кярэжнінянны». Парафія ж была зафундавана 7 лютага 1536 г. з часткі варнянскай парафіі (1462 г.), і да яе была адпісана капліца св. Ежы «ў мясцовасці, званай Поле Каралеўскае» (*дарэчы, дагэтуль не высветлена, што гэта была за капліца, дзе дакладна і хто яе пабудаваў. Мажліва, менавіта яна была збудаваная ў 1511 г., адкуль потым і з'явілася датаванне ўсёй парафіі*), і гэты фундуш заставаўся нязменным да канца XVIII ст. (3, 13, 15, 16).

Касцёл, пабудаваны ў 1535 г., першапачаткова быў кансэкраваны пад тытулам святых Яна Хрысціцеля, Юрыя і Мікалая біскупа. Як выглядала тая святыня, вядома няшмат — яна была зрублена з дрэва, на касцёльным «цментары» асобна стаяла драўляная званіца. У 1621 г. Віленскі біскуп Яўстафі Валовіч фундаваў новую драўляную святыню, якую ўзвялі на месцы струхлелага храма і кансэкравалі ў 1625 г. пад новым тытулам — Найсвяцейшай Тройцы. У 1736 г., да 200-годдзя, касцёл быў рэканструяваны намаганнямі біскупа Тамаша Зяньковіча (3, 9, 10, 16).

Гэта была святыня «падоўжанай структуры», завершаная дзвюма вежамі над галоўным фасадам, вежаю над сярэдзінай даху і сігнатуркай над алтаром. Інтэр'ер святыні тады ўпрыгожвалі 4 старажытныя алтары. Галоўны, з тытульным абразом Найсвяцейшай Тройцы ў срэбранай «сукенцы», меў выгляд балдахіна «на кручоных калюмнах» (штосьці падобнае да алтара св. Пятра ў Рыме ў невялічкай вёсцы? А чаму не — усё ж такі касцёл Віленскага біскупства!); яго фланкавалі бочныя алтары з разьбяным Укрыжаваннем (левы, наверсе — абраз св. Казіміра) і св. Антонія (правы, аднаярусны); чацвёрты, з абразом Маці Божай Балеснай у срэбранай «сукенцы», таксама меў пазалочаную калонную структуру ў стылі барока. На харах над уваходам былі ўсталяваныя арганы (новыя арганы да 1747 г. зафундаваў тагачасны пробашч касцёла кс. Мацей Пул'яноўскі, тады ж у галоўным алтары з'явіўся абраз св. Яна Непамуцэна). У 1737 г. для гэтага касцёла былі адлітыя 2 новыя званы, большы з якіх — у каралеўскай людзвісарні Георга Бернада Кіндэра; яны былі змешчаныя ў асобнай драўлянай званіцы, дзе дагэтуль знаходзіўся яшчэ адзін звон. Званы гэтыя былі канфіскаваныя нямецкімі вайскоўцамі падчас Першай сусветнай вайны і, на жаль, на радзіму не вярнуліся (16).

Да 1797 г. у касцёле з'явіўся пяты двух'ярусны алтар — з абразамі Беззаганага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Ануфрыя (наверсе). У 1810-я гг. касцёл рамантаваўся на сродкі тагачаснага калятара Мацея Дамейкі — былі ўмацаваныя падмуркі, сцягнутыя «клямерамі» і ашаляваныя сцены. Чарговыя рамонты рабілі ў 1849 г., 1855 г. і ў 1862 годзе. А ў 1860 г. на сродкі наступнага калятара, Казіміра Дамейкі, вымуравалі новую браму-званіцу ў стылі класіцызму — двух'ярусную, квадратную ў плане, пад чатырохсхільным дахам, з бутавага каменю і атынкаваных цагляных элементаў (пілястры, гзымсы). У 1882 г. на харах з'явіліся новыя арганы на 6 галасоў — намаганнямі пробашча Юлі-

юша Наркевіча і арганіста Фларыяна Астрамецкага яны былі сабраныя з двух старых арганаў, перавезеных у Гервяты з зачыненых касцёлаў у Астраўцы і Шумску. У 1895 г. з ініцыятывы кс. Наркевіча адрамантавалі галоўны алтар і пабудавалі 2 новыя замест бочных: у левым захавалася Укрыжаванне, а ў 2-м ярусе быў змешчаны «Твар Змучанага Збаўцы»; у правым — абраз Маці Божай Ружанцовай пад абразом Маці Божай Беззаганага Зачацця. Усе новыя абразы намаляваў мастак Вінсэнт Слендзінскі, які аднавіў таксама абразы святых Юрыя і Юзафа ў іншых двух алтарах (16).


Інтэр'ер касцёла ў в. Гервяты.

У 1896 г. пробашчам гервяцкай парафіі быў прызначаны кс. Уладзіслаў Альшэўскі, малады і энергічны, які адразу ж пачаў рыхтаваць будоўлю новага, і цяпер ужо мураванага, касцёла. У 1898 г. губернскі архітэктар Аляксей Полазаў (ён ж аўтар праекта касцёла ў Празароках (1896 г.) і нерэалізаванага праекта касцёла ў Белагрудзе, 1901 г.) зрабіў праект трохнававай аднавежавай неагатычнай святыні з цэглы пад тынкоўку, які быў зацверджаны Віленскім губернскім будаўнічым камітэтам у красавіку 1899 г., і 20 траўня пачалося будаўніцтва на пляцоўцы яшчэ дзейнага драўлянага касцёла. Аднак у наступным 1900 г., калі ўжо былі закладзеныя падмуркі, архітэктар, па жаданні вернікаў, змяніў праект — святыня стала будавацца больш стромкай, велічнай і з чырвонай вонкавай цэглы (спецыяльна для будоўлі каля засценка Гібірды была створана цагельня). Аднак і дакладна такім касцёл пабудаваны не быў — некаторыя змены ў дэкоры фасадаў, больш велічны партал галоўнага ўваходу, акно-ружа над парталам і галоўнае — спічастая вежа-званіца, з'явіліся дзякуючы інжынеру Ігнацыю Альшэўскаму, брату пробашча, і майстру Антонію (ці Анджэю) Каліноўскаму (16).

Галоўныя сродкі на будаўніцтва ахвяравалі калятары Вацлаў Дамейка і яго маці, Анеля з Нарушэвічаў Дамейкава (надмагіллі роду Дамейкаў-Нарушэвічаў знаходзяцца за касцёлам) і Станіслаў Паплаўскі (ахвяраваў на дахоўку). Шмат сродкаў ахвяравалі і простыя парафіяне. Улетку 1903 г. касцёл быў гатовы — 4 жніўня кс. Альшэўскі напісаў віленскаму кансістару аб гатоўнасці да прыезду камісіі для прыняцця будоўлі. 8 верасня 1904 г. святыня была кансэкраваная пад гістарычным тытулам. Высокі спічак касцёльнай вежы ўзнес карункавы крыж на амаль недасягальную вышыню — больш за 50 метраў. Такім чынам, Троіцкі касцёл у Гервятах — адзін з найбуйнейшых і ў Гродзенскай дыяцэзіі (дзе ён падобны да самой катэдры) і ва ўсёй нашай краіне. Акрамя гэтага, гервяцкі касцёл — найцікавейшы ўзор стылю неаготыкі ў агульнаеўрапейскай культуры (11, 16).

Аднак тая хуткасць і той патрыятызм, з якімі быў пабудаваны такі магутны храм, не выклікалі задавальнення ў імператарскіх уладаў — кс. Альшэўскаму прыпісалі збіранне сродкаў без дазволу ўладаў і ў іншых губернях, а «начальнік краю» нават патрабаваў у Віленскага біскупа панізіць ксяндза да вікарыя... Ксёндз Уладзіслаў быў аштрафаваны на 100 р., а ў 1904 г. у Гервятах з'явіўся новы пробашч. Тым не менш, менавіта з кс. Уладзіславам звязваюць росквіт гервяцкай парафіі, таму што з яго ініцыятывы не толькі пабудавалі архітэктурны цуд, а яшчэ былі заснаваныя хор з 50-ці вернікаў і аркестр з 30-ці музыкаў пад кіраўніцтвам арганіста Міхала Пятроўскага (16).

Вялізная і велічная трохнававая базыліка з трансептам і прамавугольнай апсідай, арыентаванай на захад і фланкаванай дзвюма сакрыстыямі, мае над галоўным уваходам высокую вежу-званіцу пад шпілем. Фасады касцёла дэкараваныя шматлікімі ступенчатымі контрфорсамі, аркбутанамі, пінаклямі, стрэльчатымі аркатурамі. Сяродкрыжжа над чарапічным дахам увенчана стромкай сігнатуркай. Інтэр'ер, падзелены на тры навы пяццю парамі складанапрафіляваных калонаў на высокіх васьмігранных п'едэсталах і перакрыты крыжовымі стрэльчатымі скляпеннямі з дэкаратыўнымі нервюрамі, упрыгожваюць 3 разьбяныя неагатычныя алтары: галоўны — Найсвяцейшай Тройцы (Каранацыя Марыі, абраз з папярэдняга касцёла, 1630-я гг., аточаны разьбянымі фігурамі св. Пятра і Паўла) і бочныя ў крылах тран-

септа — Маці Божай Вастрабрамскай (абраз аточаны фігурамі «Найсвяцейшага Сэрца Езуса» і «Найсвяцейшага Сэрца Марыі») і св. Юрыя (1890 г.; абраз аточаны фігурамі св. Казіміра і Ядвігі Вугорскай). Над уваходам зробленыя хоры, дзе ўсталяваныя арганы, створаныя яшчэ ў 1882 г. і адрамантаваныя ў 1901 г. (16, 17).

Да стварэння сеткі дэканатаў гервяцкая парафія належала да «ключа Антакальскага», з 1596 г. і да 1910 г. яна ўваходзіла ў склад Ашмянскага дэканата, пасля — Віленскага павятовага дэканата, з 1925 г. — варнянскага дэканата Віленскай архідыяцэзіі. Гэта была найбуйнейшая парафія ў дэканаце — перад Другой сусветнай вайною колькасць парафіянаў складала больш за 9 000 вернікаў (а ў 1904 г. — нават больш за 9 850, бо да гервяцкай былі далучаныя вернікі скасаваных парафій у Астраўцы і Слабодцы). З 1991 г. — гэта парафія Астравецкага дэканата Гродзенскай дыяцэзіі. З XVIII ст. да парафіі належалі капліцы ў Сакалойцях і Якентанах, у XIX ст. да іх далучылася капліца ў Гірах, а ў 2001 г. — у Завелцах (11, 12-а, 16). Некалі да гервяцкай парафіі належала і капліца ў Дубнічках (*гл. хут. Малая Пелігрында*, 18). У парафіяльным архіве захоўваецца праект могілкавай (?) каменнай неагатычнай капліцы, датаваны 1904 г. і неразборліва падпісаны, але ён так і не быў рэалізаваны.

У 1750 г. пры касцёле было заснаванае брацтва Найсвяцейшай Тройцы, якое ў 1812 г. спыніла дзейнасць, але адрадзілася ў 1846 годзе. Апошні раз, як дзейнае, яно згадвалася ў 1860 годзе. У XVIII ст. была фундаваная і парафіяльная школка, дзе ў розныя гады вучыліся 6–10 дзетак, апошні раз згадвалася ў 1828 г. Парафіяльны шпіталь-прытулак з'явіўся толькі пасля 1797 г., апошні раз згадваўся ў 1872 г.(16).

Троіцкі касцёл заўсёды дзейнічаў, і ў ваеннае ліхалеццe, і ў бязбожны час савецкай улады, нягледзячы на тое, што ў 1950 г. быў арыштаваны і сасланы ў лагер пробашч кс. Станіслаў Хадыка і касцёл амаль да канца 1951 г. не меў ксяндза. Кс. Станіслаў вярнуўся ў 1956 г. і служыў тут да сваёй смерці ў 1978 г. (16). У 1970-я гг. касцёл атрымаў статус помніка архітэктуры.

Тэрыторыя касцёла абнесена бутавай агароджай з уваходнай брамай у выглядзе пінаклепадобных неагатычных слупоў з чырвонай цэглы. У апошнія гады вакол храма зроблены амаль сад-парадыз — альпійскія горкі, кветнікі, дзівосныя расліны. Асабліва цікавая мясцовая традыцыя адзначаць памятныя падзеі парафіяльнага жыцця ўсталяваннем перад касцёлам драўлянага разьбянага крыжа ці помніка.

З 2005г. прыгажосць быццам выйшла за межы касцёльнай агароджы — перад касцёлам была створаная плошча «Сад апосталаў» з калонай св. арханёла Міхала ў цэнтры і фігурамі дванаццаці апосталаў. Быў адрамантаваны і рэстаўраваны і сам будынак касцёла — заменены дах, атынкаваныя і пафарбаваныя сцены святыні. Шкада толькі, што карункавую пінаклепадобную неагатычную сігнатурку над сяродкрыжжам касцёла змяніў груваcткі слуп. Затое ў нартэксе касцёла былі зробленыя раскошныя каваныя дзверы-краты. Увогуле касцёльны комплекс у Гервятах сёння выглядае як сапраўдны сад-парадыз з вядомых каралеўскіх рэзідэнцыяў Еўропы, таму невыпадкова кожны дзень тут спыняюцца турыстычныя аўтобусы.

**Вёска Гіры.** Дзейная і сёння, капліца на мясцовых могілках (раней належалі да в. Рымдзюны, таму ў некаторых дакументах капліца згадваецца як рымдзюнская) была пабудавана ў 1828 г. і асвечаная пад тытулам Найсвяцейшай Марыі Панны (Святой Сям'і — 11). Прыпісана да гервяцкай парафіі. Гэта характэрная для свайго часу пабудова — драўляны сасновы зруб з трохграннай алтарнай часткай і галоўным фасадам у выглядзе чатырохкалоннага порціка, пад двухсхільным дахам (у XIX ст. ён быў саламяны, цяпер — бляшаны) з вальмамі над алтарнай часткай — тыповы прыклад народнай трактоўкі класіцызму. Залавая прастора перакрытая плоскай падшыўной столлю, у алтары змешчаны абраз Святой Сям'і. Бочныя алтарныя кампазіцыі змяшчаюць Укрыжаванне (левая) і фігуру Найсвяцейшай Марыі Панны (3, 11).

Захавалася ў цэнтры вёскі і прыдарожная капліца — каменны двух'ярусны слупок, які паставілі тут у 1936 г. у гонар 500-годдзя каранацыі Вітаўта Вялікага.

**Вёска Завелцы.** Аб існаванні тут каталіцкіх святыняў архіўных згадак няма. Капліца ж пад тытулам Міласэрнасці Божай дзейнічае тут з 2001г. і змешчана ў будынку былой школьнай сталоўні.

**Хутар Малая Пелігрында (не існуе).** Капліца каля хутара Малая Пелігрында (побач былі хутары Каморы і Савічуны каля в. Рымдзюны) была ўзведзеная ў 1-й палове XIX ст. у стылі класіцызму. Магчыма, гэта тая самая капліца «Дубнічак», вядомая толькі з архіўных дакументаў як ліквідаваная ў 1875 г. (17, 18), а можа, менавіта гэтыя мясціны калісьці мелі назву Поле Каралеўскае — навокал і сёння палі ...

Святыню пабудавалі з цэглы і атынкавалі звонку і ўнутры. Канструктыўна капліца ўяўляе з сябе 4 вуглавыя апоры, звязаныя аркамі, праёмы якіх запоўненыя ненясучымі сценамі. Уваход у капліцу быў аркавым, інтэр'ер пад плоскай падшыўной драўлянай столлю асвятляўся праз прамавугольныя вокны. Наверсе перыметр сце-

наў апаясваў профільны гзымс, вуглы былі дэкараваныя пілястрамі. Двухсхільны дах над капліцай вызначалі трохвугольныя франтоны над уваходным і алтарным фасадамі.

Як дзейная пасля 1875 г. капліца больш не ўзгадвалася, а пасля Другой сусветнай вайны быў закінуты і хутар Малая Пелігрында. З часам і святыня, і пабудовы хутара ператварыліся ў руіны.

У самой вёсцы Пелігрында ў 1980–1990-я гг. з'явіліся тры цікавыя прыдарожныя святыні з бетону, дэкараваныя арнаментамі і надпісамі з маленькіх каменьчыкаў на літоўскай мове. Унутры каплічак усталяваныя фігуры Пакутуючага Езуса (паўночная ўскраіна) і Маці Божай (цэнтр вёскі і паўднёва-ўсходняя ўскраіна).

**Вёска Сакалойці.** Публічная капліца пад тытулам св. Станіслава (біскупа пакутніка) вядомая тут з 1744 г. (ці з 1782 г., ва ўладанні пана Чаховіча, харунжага кавалерыі літоўскай) як ужо дзейная, калі менавіта такі статус быў прызначаны ёй на дыяцэзіяльным сінодзе біскупам Міхалам Зянковічам. Пры гэтым «касцёлку, з дрэва будаваным», Марыяна Кошчыцава (+1816), старосціна заржыцкая і мясцовая ўладарка, зафундавала 17 студзеня 1815 г. альтарыю (10, 11, 16).

Каменная капліца на месцы драўлянай, на поўдзень ад вёскі, была пабудавана ў 1838 г. у стылі класіцызму — прамавугольная ў плане, цагляная і атынкаваная, галоўны і алтарны фасады завершаныя трохвугольнымі франтонамі. Інтэр'ер быў перакрыты плоскай падшыўной драўлянай столлю, у алтарнай сцяне зроблена сегментарная ніша пад алтарный абраз (11, 16). У 1868 г. капліца згадваецца пад тытулам Маці Божай Пакутуючай (3).

У пасляваенны час капліца была зачынена, прыстасаваня пад малочню, а потым стаяла занядбаная. У 1995 г. была зроблена кансервацыя святыні — заменены дах, адноўленыя вокны і дзверы (да 2007 г. амаль усё ізноў было разбуранае). Капліца яшчэ чакае сапраўднай рэстаўрацыі.

**Вёска Якентаны.** Калісьці гэты фальварак належаў віленскаму кляштару канонікаў латэранскіх як месца вакацыяў. Законнікі на вакацыях і служылі Імшу ў пабудаванай з дрэва мясцовай капліцы, што як дзейная ўзгадвалася з 1797 года. Апошні раз святыня згадваецца «ў фальварку дзяржаўным» у 1849 годзе (16).

**Вёска Градоўшчына (Дубнічкі).** Да канца 1930-х гг. мясцовых католікаў абслугоўвала драўляная капліца ў суседнім з вёскай панскім двары Дубоўка (ці Дубнічкі, таму парафія мае і іншую назву). Аднак вёска разраслася і маленькі храм ужо не мог задаволіць вернікаў, таму ў 1938 г. з недалёкага адсюль Шумска (на той час парафія Тургельскага дэканата, сёння тэрыторыя Літвы) быў перавезены драўляны касцёл і заліты падмурак для яго. У 1939 г. збудаваны ў цэнтры вёскі касцёл быў асвечаны пад тытулам св. Андрэя Баболі, але самастойная парафія была заснаваная ў 1940 годзе (11-е, 17).

Касцёл, калі стаяў у Шумску, верагодна, быў двухвежавым і трохнававым, а ў Градоўшчыне набыў рысы мадэрну і ператварыўся ў залавы аднавежавы храм з пяцццюграннай апсідай і дзвюма сакрыстыямі пры ёй. Перакрыты высокім двухсхільным дахам з вальмамі над прэзбітэрыем і сігнатуркай над алтаром. Над галоўным фасадам была ўзведзена двух'ярусная чацверыковая вежа-званіца пад шатровым мадэрнавым дахам. Галоўны ўваход пазначаны прасторным бабінцам. Асабліва цікавыя адкрытыя слупавыя галерэі ўздоўж бакавых фасадаў. Інтэр'ер, перакрыты плоскай падшыўной столлю, упрыгожваюць 3 алтары: галоўны — Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса, левы бочны — Маці Божай Анёльскай і правы — тытульны, св. Андрэя Баболі. Над уваходам – галерэя хораў.

Касцёл дзейнічаў і ў гады вайны, і пры савецкай уладзе, дзейнічае і сёння. Афіцыйная дата яго асвячэння — 16 мая 1994 года, а вось капліца ў Дубоўцы, як і сам маёнтак, не захавалася, але вернікі зберaглі фігуру Найсвяцейшай Панны Марыі, што стаяла там некалі, і сёння яна знаходзіцца ў касцёле.

ЛІТАРАТУРА І КРЫНІЦЫ

1. Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1993.
2. А. М. Кулагін. Каталіцкія храмы на Беларусі. — Мінск, 2000.
3. Памятная книжка виленского генерал-губернаторства на 1868 г. Под ред. А.М.Сементовского. — Спб, 1868.
4. A. Hlebowicz. «Kościoł w niewoli». — Warszawa. 1991.
5. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. — Мінск, 1985–1988.
6. а - Studia z historii Kościoła w Polsce. Tom V. Ks. Tadeusz Krahel. Historiografia (Archi) Diecezji Wileńskiej do 1939 r. Akademia Teologii Katolickiej. — Warszawa, 1979.
б - Studia teologiczne (Białystok, Drohiczyn, Łomźa). 5–6 / 1987–1988. 600 lat (Archi) Diecezji Wileńskiej. — Białystok, 1987. Ks. Jozef Mandziuk. Zakony w (Archi) Diecezji Wileńskiej.
7. Калекцыя фотаздымкаў канца XIX – пач. XX ст. з аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. BAN 23-2-24.
8. Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII – XVI стст. — Мінск, 1993.
9. C. Jankowski. Powiat Oszmiański. Ò I-III. — Kraków. 1896–1898.
10. Jan Kurczewski. Biskupstwo Wileńskie. — Wilno, 1912.
11. Порядок богослужения для духовенства римско-католического исповедания Виленской епархии на 1878, 1885, 1895, 1929, 1937 гг.; Rocznik informacyjny diecezji Grodzieńskiej. — Grodno, 2005.
12. Юры Туронак. «Фарміраваньне сеткі рыма-каталіцкіх парафій на Беларусі ў 1387–1781 гг.». Наша вера, 1, 1995.
13. Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposaźenia. — Poznań, 1972.
14. Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańkich. Tom 1–14. — Warszawa, 1880.
15. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. — Мінск, 1994–2001.
16. Materiały do dziejów sztuki sakralnej na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej. Redaktor naukowy serii Jan K. Ostrowski, redakcja naukowa Maria Kałamajska-Saeed: Część III. Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Wileńskiekiego. Tom 1. — Kraków, 2005.
17. Мясцовыя матэрыялы, парафіяльныя архівы.
18. Инвентарная опись римско-католического костёла в Солах, 1877г. (архіў парафіі).

Язэп ЯНУШКЕВІЧ

А той, які атрымаў адзін [талант],
пайшоў і закапаў яго ў зямлю,
і схаваў срэбра свайго гаспадара.

*Евангелле паводле Мацвея, 25, 18*

# Духоўныя апекуны Паўлюка Багрыма

*Светлай памяці крашынскіх ксяндзоў*
*Войцаха Магнушэўскага і Каруся Жураўскага*

*«...даю сию подписку в том, что означенных стихов никогда ни пред кем и ни по какому приказанию не буду и не смею произносить или переписывать и давать кому-либо, даже и у себя [о]ных никогда иметь не буду: в противном же случае подвергаю себя строжайшему суждению и взысканию по законам, в чем и подписуюсь. Paweł Bahrym».*

Учытайцеся ў гэтыя словы, якія 5 ліпеня 1828 года прагучалі перад «запісаным па рэвізіях сярод вольных людзей» Паўлюком Багрымам. Задумайцеся: што адчувала 15-гадовая душа падлетка? Душа, пазначаная Боскай пячаткай, — пячаткай таленту! Душа каталіка на забраных землях, якая верыла ў добрае і ў тое, што Бог паслаў яго на зямлю рабіць дабро...

Якіх яшчэ абарыгенаў і на якіх інданезійскіх выспах гэтак праследавалі каланізатары за спробы стварэння прыгожага пісьменства на роднай мове?!

Мемуарыст і эмігрант Ігнат Яцкоўскі (паўстанец 1831 года), які першым расказаў пра трагічныя падзеі ў Крашыне (1828) у кнізе ўспамінаў «Powieść z czasu mojego, czyli przygody litewskie» («Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды»; Лондан, 1854), свой аповед пра незайздросную долю 16-гадовага падлетка, пазбаўленага права не толькі пісаць-ствараць, але нават рэцытаваць ці перапісваць паэтычныя творы, скончыў наступнай сентэнцыяй: «Бёрнс, парабак англійскі, пры менш цяжкіх акалічнасцях, уласным талентам, не падтрыманым ніякай навукай, забяспечыў сабе неўміручае імя, а сваёй сям'і — пашану і дастатак; Пётрак з Крошына за талент, дадзены яму ад Бога, зазнаў самае жорсткае няшчасце!».

Так услед за першапублікатарам паўстанцам лічылі ўсе наступныя пакаленні чытачоў. Потым гісторыкі высветлілі, хто насамрэч мог хавацца за імем крашынскага падлетка Пётрака. Дзякуючы архіўным матэрыялам стала вядомым імя юнака, які на памяць узнаўляў вялікія вершаваныя палотны: Павал, сын Язэпа і Марылі (Ганны?). «Паўлік жа ведае на памяць розныя байкі з Нарушэвіча, Эзопа і «Brukowych Wiadomości», — засведчыў перад расейскімі сатрапамі ў сваіх паказаннях тагачасны пробашч з Крашына ксёндз Войцах Магнушэўскі.

Хто з вас, маіх сучаснікаў XXI ст., ведае на памяць творы нашага земляка Адама Нарушэвіча (1733—1796), паэта, гісторыка родам з Піншчыны? Ці Эзопа? Паводле легенды, Эзоп быў нявольнікам (нейкага Іядмона з выспы Самас), але нямецкі рэфарматар Марцін Лютэр засумняваўся (праз 22 стагоддзі!) у праўдзівасці існавання Эзопа як рэальнай асобы... А гэтак званыя «гіперкрытыкі» XIX стагоддзя давялі сумнеў да «фінішу»: адмовілі яму, сказаўшы, што Эзоп — зборны вобраз, а байкі ягоныя — зборнік тэкстаў, напісаных іншымі людзьмі...

Таямніцаў у кожнай літаратуры хапае. Аднак загадкавасць пачатку ўсёй новай беларускай літаратуры — як загадкавасць стварэння свету, бо і там, і там прысутнічае сам боскі пачатак. У пазамінулым, паднявольным і змагарным XIX стагоддзі, па волі тых, хто панаваў на нашых паняволеных гонях, аніякай беларускай літаратуры

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ** — літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў мястэчку Ракаў у 1959 годзе. У 1981 г. скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. У 1984 г. — аспірантуру ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі.

Аўтар звыш 400 публікацый, у тым ліку кніг «Беларускі Дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча» (1991); «У прадчуванні знаходак: З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава» (1994); «Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі» (1995); «За архіўным парогам» (2002). На высокім тэксталагічным узроўні падрыхтаваў і выдаў творчую спадчыну шматлікіх дзеячаў беларускай культуры і літаратуры: аднатомнікі твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984, 2001), Францішка Багушэвіча (1991, 1998, 2001), Вацлава Ластоўскага (1997, 2001).



Даўні крашынскі касцёл.

не павінна было ўзнікнуць. А якая й была, напаўфальклорная, павінна была памерці. Аднак панішчаныя вёскі і аселіцы, папаленыя мястэчкі і фальваркі працягвалі рэгенаваць, нараджаць таленты, якія па каліву, па зярнятку, а часам і буйным коласе ўзбагачалі духоўны спажытак народа над Дняпром і Нёманам. Бо не хлебам адзіным жыве чалавек.

Такім тытанам роднага слова, мяркуючы па ўрыўку з верша «Заграй, заграй, хлопча малы...», меўся стаць Паўлюк Багрым. «Гэтая першая **спроба-ўзор** прафесійнай самабытна-нацыянальнай творчасці, што пакінуў нам таленавіты самавук з Крошына, аказалася сапраўды **ўзорнай**, у нейкім сэнсе напрамкам цэлае мастацкае традыцыі, якой неўзабаве належала развіцца» (Алесь Яскевіч). Развіцца, рэч ясная, не на мове вышэйшых салонаў, а на мясцовай «мужыцкай» гаворцы (калі лічыць «мужыцкаю» мову Статута ВКЛ). Роля кс. Магнушэўскага як духоўнага пастыра-настаўніка падлетка Багрыма ў станаўленні яго як чалавека й творчай асобы — першачарговая, але гэта неяк ніколі не падкрэслівалася багрымазнаўцамі.

Таксама найпершай патрэбай багрымазнаўства з'яўляецца неабходнасць поўнай публікацыі дакументаў, уратаваных другім крашынскім ксяндзом — Карусём Жураўскім, пробашчам касцёла Божага Цела ў міжваеннае ліхалецце. Публікуючы метрыку нараджэння паэта, я ў сваёй кнізе «За архіўным парогам» услед за кс. Жураўскім палічыў, што хрост Паўлюка чыніў крашынскі пробашч Войцах Магнушэўскі («За архіўным парогам», Мінск, 2002. С. 109). Насамрэч у метрычным запісе (на лаціне) названы Адальбэрт Магнушэўскі («Ego **Adalbertus** Magnuszewski C. K. baptisavi infantem nomine Paulum, natum heri, filium legitimorum conigum Josephi et Annae Bahrymow). Але ці існаваў святар Адальбэрт (Альбэрт) Магнушэўскі, яшчэ трэба высветліць.

У іншых матэрыялах, якія ацалелі дзякуючы кс. Жураўскаму, сустракаюцца частыя згадкі пра старэйшую Багрымаву сястру Ганну, і можна жахнуцца ад таго, што за год да агульнавядомай крашынскай трагедыі 1828 г. сямейства Багрымаў перажыло ўласную трагедыю, калі давялося капаць дол для васьмімесячнага Антосіка, а потым для трохгадовай Паўлінкі[1]. Апроч страты браціка й сястрычкі, у той самы год 1828-мы, калі ў мястэчку адбыўся адкрыты супраціў крашынцаў перад самавольным новым уладальнікам, паручнікам польскіх войскаў Станіславам Юрагам, памёр Станіслаў Багрым, дзед Паўлюка.

Можа, літаратуразнаўцы па-іншаму прачытаюць радкі славутага верша, даведаўшыся (упершыню) пра драму падлетка Багрыма, а не стануць услед за таннай сенсацыяй адмаўляць ягонае аўтарства і нават права лічыцца таленавітай асобай. Бо Паўлюк Багрым — Пятрок з Крашына, не стаў аж на столькі міфічнай асобай, як згаданы ў паліцэйскіх пратаколах грэцкі байкапісец Эзоп. Апроч вершыка (урыўка ў 29 радкоў), пакінуў Багрым іншае матэрыяльнае сведчанне свайго зямнога існавання — жырандолю, выкананую для роднага крашынскага касцёла паводле эскізаў уладальніка мястэчка Пятра Святаполка-Завадзкага ў 1881 годзе. Ці ведаеце, якія выявы адкаваў, быццам на дзяржаўнай пячатцы, на сваёй слыннай жырандолі Паўлюк Багрым? Прыгледзьцеся да ілюстрацый. Ці гэта святы Юры? Ці гэта наша святая Пагоня? Зрэшты, спадзеў малы. «*Как одно из тёмных преступлений, для тупиц недоказуем гений*» (Яўген Яўтушэнка).

| № | | Karta | № | | Karta |
|---|---|---|---|---|---|
| 1719 | Burcow Wincenty | 71 | 203 | Cichonow Ignacy | 9 |
| 1741 | Bachrynow Pawel | 72 | 229 | Cichonow Katarzyna | 10 |
| 1787 | Burtoszow Michał | 74 | 312 | Cichockich Waleryan | 14 |
| 1797 | Burcow Wincenty | 75 | 360 | Cichonow Franciszek | 15 |
| 1801 | Burtoszow Wincenty | 75 | 421 | Chilimonow Mikołaj | 18 |
| 1802 | Burtoszow Wincenty | 75 | 528 | Chonow [illegible] | 22 |
| 1817 | Bykowskich Ferdynand-Aleksander | 76 | 587 | Chilimonow Maryanna | 25 |
| 1838 | Budzkow Dominik | 76 | 649 | Cichonow Jakob | 28 |
| 1854 | Blinkowskich Anna | 77 | 816 | Cichonow Adam | 34 |
| 1887 | Burtoszow Franciszek | 78 | 821 | Chilimonow | 35 |
| 1918 | Bykowskich Kapitolda-Katarzyna | 79 | 957 | Cichonow Wincenty | 41 |
| 1938 | Budkow Piotr | 80 | 1007 | Ciwunczykow | 44 |
| 1958 | Burtoszow Jan | 81 | 1111 | Cichonow Mateusz | 47 |
| 1982 | Burtoszow Franciszek | 82 | 1167 | Cichonow | 48 |
| 1999 | Burcow Franciszka | 83 | 1170 | Cichonow | 48 |
| 2019 | Bachrymow Stanisław Pius | 83 | 1214 | Ciunczykow | 50 |
| 2048 | Burtoszow Kazimierz | 85 | 1250 | Cichanowiczow | 51 |
| 2059 | Bykowskich Jan Walery | 85 | 1258 | Cichonow | 51 |
| 2075 | Banieckich Antoni | 86 | 1296 | Ciunczykow | 53 |
| 2077 | Burcow Wincenty | 86 | 1321 | Cichonow | 54 |
| 2102 | Burtoszow Adam | 87 | 1359 | Cichonow | 55 |
| 2110 | Burtoszow Wincenty | 87 | 1406 | Chwiedziukow | 57 |
| 2117 | Burcow Franciszek | 88 | 1433 | Ciunczykow | 58 |
| 2139 | Burtoszow Jerzy | 89 | 1488 | Chwiedziukow | 60 |
| 2145 | Banieckich Ludwik | 89 | 1517 | Cichonow | 61 |
| 2153 | Burcow Franciszek | 89 | 1552 | Cichanowiczow | 63 |
| 2160 | Bachrymow Wincenty | 90 | 1683 | Cichonow | 69 |
| 2162 | Burtoszow Anna | 90 | | | |
| 2191 | Burcow Franciszek | 91 | 1765 | Cichanowiczow | 73 |

Алфавітны спіс парафіянаў крашынскага касцёла,
у якім пад нумарам 1741 запісаны Паўлюк Багрым. XIX ст.
Захоўваецца ў дыяцэзіяльным архіве ў Драгічыне (Польшча).



Фрагмент жырандолі, якую выкаваў Паўлюк Багрым для крашынскага касцёла.

І на трэцім стагоддзі ад нараджэння легендарнага каваля й мастака слова нас будуць хвалявадь ягонае паднявольнае жыццё і незабітая прага творцы, каб хай не ў слове, забароненым яму для публічнага ўжытку, дык у метале звінець голасам неўміручага жаўрука.

Вядома, што, натхняючыся вобразам паэта-каваля, геній нашай літаратуры Уладзімір Караткевіч напісаў баладу (1957). Некалькі радкоў з яе, як выявілася, былі ў свой час знятыя (цэнзурай?) і не друкаваліся. Магчыма, з «антырэлігійных меркаванняў».



«Паўлюк Багрым» (1957). Балада Уладзіміра Караткевіча. Аўтограф. Друкуецца ўпершыню.

*...Дагарае жыццё. Хто на ўлонне*
*старому прытуліцца?*
*Ні дзяцей, ні нашчадкаў, дайно праляцела вясна,*
*Прагрымела паўстаннем,*
*прайшла праз зялёную вуліцу,*
*Згасла ў* ***подлай*** *салдатчыне...*
*Мусіць у рабстве сканаць.*

*Можа ў небе, дзе будуць Паэтаў*
*саджаць каля Бога*
*Па таму, што «маглі бы зрабіць»,*
*калі б вольна жылі,*
*І Багрыма пасадзяць, хвастанага, напоўсляпога,*
*Нешчаслівага талента недарэчнай, каханай зямлі.*

*Мог бы славай грымець сярод*
*годных паэтаў Еўропы, –*
*Гвалтам спуталі ногі, трымалі ўвесь час за руку.*
*Што пакіне ён? Вершык у памяці хлопаў,*
*Кандэлябру ў касцёле ды кроў на гарачым пяску...*

Легенды, звязаныя з імем крашынскага каваля, працягваюць раскрывацца і ў XXI стагоддзі, чакаючы сваіх паэтаў... Аднолькава, як прычакаюць з'яўлення ў будучай «Беларускай каталіцкай энцыклапедыі» персаналіі духоўных апекуноў жыцця і творчай спадчыны Паўлюка Багрыма.

**Магнушэўскі** Войцах (**Magnuszewski** Wojcech; ? — снежань 1828), каталіцкі святар у Крашыне з 1810 г. «był to człek wielkiej nauki, i cnót niepospolitych»; памёр у сваёй парафіі пад хатнім арыштам за ўтрыманне нелегальнай школы, дзе распаўсюджваліся антыцарскія, антыпрыгонныя творы. Духоўны пастыр Паўлюка Багрыма, які наведваў парафіяльную школку пры касцёле Божага Цела ў Крашыне.

**Жураўскі** Карусь (**Żurawski** Karol, 1903—1994), ксёндз у мястэчку Крашын, дзе ў снежні 1939 г. зрабіў «фотакопіі чатырох дакументаў пра сям'ю Багрымаў з мястэчка Крашын Наваградскага пав.» — касцёльных метрыкаў хросту і шлюбу П. Багрыма, метрыкаў смерці ягонай маці і бацькі — сенсацыйных дакументаў з жыццяпісу беларускага паэта. Рукапісу папярэднічае ўступнае слова «Апісанне некалькіх метрык з сям'і Багрымаў, якія я зрабіў падчас другой вайны» (цалкам рукапіс захоўваецца ў архіве Драгічынскай курыі на Беласточчыне). У 1940 г. зняволены бальшавікамі ў Баранавічах. Падчас вайны ўратаваў слынную жырандолю П. Багрыма, зробленую паэтам для мясцовага касцёла. Апошнія гады жыцця дажываў у кляштары святой Кацярыны (каля Вроцлава), дзе і памёр.

[1] Падрабязней гл.: Янушкевіч Я. «А ў маскалях трудна жыці...». — Ракаў, 2012.



# Мар’ян ДУКСА

# *Птушка вечнасці — душа*

**Мар'ян ДУКСА** — паэт.
Нарадзіўся ў 1943 г.
у вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне.
Закончыў філалагічны факультэт БДУ.
Выдаў зборнікі вершаў
«Спатканне» (1967), «Крокі» (1972),
«Станцыя» (1974), «Прыгаршчы суніц»
(1976), «Забытыя словы» (1979),
«Зона супраціўлення» (1982),
«Твая пара сяўбы» (1985),
«Заснежаныя ягады» (1989),
«Горн прымірэння» (1993),
«Валуны на пагорках» (1994),
«Прыйсці да алтара» (2003).
Лаўрэат Літаратурнай прэміі
імя А. Куляшова.
Жыве ў Солах, на Смаргоншчыне.

Шаноўнага Мар’яна Дуксу,
нашага даўняга і сталага аўтара,
сябра рэдкалегіі часопіса «Наша вера»,
сардэчна віншуем з юбілеем.
Жадаем шчодрай Божай ласкі,
дароў Духа Святога, натхнення і моцы
для далейшага плённага супрацоўніцтва
з нашымі выданнямі.

*Рэдкалегія.*

* * *

Прасякнуты бяздонны ўвесь сусвет
святлом, якому не спазнаць згасання.
Між зорак апусціўся цемры след,
але ж у ёй Яго іскрыцца ззянне.
Яго адчуць зусім не ўмее зрок.
А Ён — наш Валадар і Абаронца.
Ён між галактык і зямных аблок —
як Неўміручае Жывое Сонца.
Вакол Яго — бягуць гады, вякі.
З трывогаю у вечнай цемры хіжай
мы кружымся, як тыя матылькі,
і цешымся, як падлятаем бліжай...

* * *

Душа, запаланіў цябе пясок,
запаланіў цябе пясок без меры.
Ах, колькі раз бярвенні я валок
на бераг твой, каб стаў будынак веры.
Здаецца, і вялікім быў парыў,
здаецца, майстраваў і сцены дбайна.
Але заўсёды мой будынак плыў...
І я за гэтым назіраў адчайна.
Ах, як я мог забыцца — пад вуглы,
ну проста так, як той казаў, на шчасце,
кавалак цвёрды колатай скалы,
ці мармур духу, укапаць — падкласці.

* * *

І дзе хвала, і дзе найгоршы грэх,
адкуль ідуць найбольшыя пагрозы?
Як многа ў Бога закаштуе смех,
на кошт які пацягнуць нашы слёзы?
Дзе самы багацейшы наш багаж —
жыцця-ціхоні ці жыцця ў раскрутку?
Ёсць плён, што дорыць бойкі нораў наш,
ёсць плён, што нараджаецца са смутку.
Якая ты, нябесная шкала,
што вырашыш, завоблачная такса —
калі душа вясёлаю была
альбо несуцяшальнай плаксай?

* * *

А праўда горкая
ў душы шчыміць.
Даймае зноў,
і ёй не скажаш «годзе».
Вось боль і смутак
як нам уявіць
вірлівага дваццатага стагоддзя?
Мільёны гінулі,
нібыта ў мор,
як быццам баль
спраўлялі людаеды.
Спатрэбіцца гіганцкі манітор,
каб размясціць на ім
былыя беды.
За сто гадоў
змясціць на ім бы зло —
і пройме жах
усю душу і цела.
Як гэта людства
вытрываць змагло?
Усё ўвабрала
і не звар'яцела.

* * *

Кроў замірае і стыне,
Скруха не пройдзе ніяк.
Зноў перад ценем Катыні
ўздрыгвае кожны паляк.
Мусіць, лягчэй не стане —
пройдзе гадоў хоць сто.
Сэрца дзяўбе пытанне,
б'е недаўменне: «За што?».
Факел пякучага болю
ўспыхвае, нібы маяк.
Праўду ў зацятым падполлі
не замуруеш ніяк.
Одум іх нават не кратӑў,
знаді яны, што рабіць.
Бо філасофія катаў —
як мага болей забіць.
Месца... усё яно ў ранах.
Памяць крывавіцца тут.
Нелюдзяў каранаваных
едка дыміцца прысуд.

* * *

Сум, туга, маркота, скруха,
нэндза, вусцішнасць, журба,
неспакой і нескладуха,
смутак, горыч і жальба —
Божа мой, а як жа многа
слоў-сінонімаў у нас,
ад якіх душа-нябога
сціснецца ў чарговы раз
і спасцігне ў лёгкім трансе
горкіх думак чараду.
Гэтых слоў усе нюансы
штосьці кажуць пра бяду.
І пра нас, пра беларусаў,
сцверджанне нясуць адно:
мы ад лёсу шмат укусаў
мелі часта і даўно.
Можа, беды і мітрэнгі
хоць цяпер скульнём далоў.
Можа, вырасце шарэнга
весялейшых трохі слоў...
Прагані сваю зацятасць,
цябе ж вельмі не стае —
разгарні ж ты, слова «радасць»,
нам сінонімы свае.
Каб суцешвалі, кружылі
паміж летаў, паміж зім.
Мы іх, пэўна, заслужылі.
Верхаводзіць — толькі ім.

* * *

Заўсёды радасць на прыкмеце,
нас можа лёс азалаціць.
За права жыць на гэтым свеце,
аднак, даводзіцца плаціць.
А вось якая гэта плата,
спытайце самі у людзей.
Ці гэта боль, ці попел хаты,
Ці гэта скрушны лёс дзяцей.
Што дасталося лёгка — трацім.
У нездаволенасці твар,
калі хоць трохі нешта плацім
за дар жыцця, бясцэнны дар.
Ты нарадзіўся — гэта свята.
І крыўдай дробнай не грашы.
За права жыць адна ёсць плата —
любоў,
што расцвіце ў душы.

# Аксана ДАНІЛЬЧЫК



**Аксана Данільчык** — паэтка, перакладчыца, кандыдат філалагічных навук. Закончыла філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў «Абрыс Скарпіёна» (1996), «Il Mezzogiorno. Поўдзень» (2006), «Сон, які немагчыма забыць» (2011) і кніжкі вершаў для дзяцей «Павуцінка на агрэсце» (2005). Перакладае з італьянскай мовы, займаецца даследаваннем беларускай і італьянскай літаратуры. Жыве ў Мінску.

***восень***

нічога з таго што было
ні згадкаю ні напамінам
нічога з таго што было
я сам сабе не пакінуў
я ў гэты бялюткі дзень
ступлю незаўважным крокам
і след не пакіну нідзе
ні ў сэрцы ні навідавоку
я з чыстай свабоднай душой
свой погляд да неба ўзнімаю
бо ўрэшце рэшт я дайшоў
да самага небакраю
ва ўладзе нябёсаў пустых
ва ўладзе адкрытай прасторы
душа мая быццам уздых
баіцца і прагне пакоры
душа мая быццам прамень
што далеч прарэзаць імкнецца
што раптам знікае як цень
і потым не застаецца
нічога з таго што было
нічога з таго што будзе
пройдзе туманам праз шкло
і ранкам мяне абудзіць

* * *

туды дзе падымаецца рунь
а таполі — смяротна параненыя байцы —
збялелымі пальцамі ўпарта трымаюцца за зямлю
я прыходжу і раскладаю вогнішчы

што мне той абстрактны дым айчыны
разам з яго салодкасцю і прыемнасцю

і той невядомы вецер
і мужчыны са смалянымі валасамі

я апускаю рукі ў туман і вымаю з яго антонаўкі
ніколі яшчэ мая прыналежнасць не была такой

відавочнай

* * *

*маё фізічнае цела безумоўна існуе ў прасторы*
*а вакол яго існуюць блізкія людзі*
*і гэтыя людзі нават час ад часу*
*імкнуцца  стварыць яму прыдатныя*
*для існавання ўмовы*
*спрабуюць яго накарміць*
*пакласці ля тэлевізара*
*зварыць яму каву*
*а раніцай выправіць на працу*
*пажадана на цэлы дзень*
*а гэтае цела як нацятая спружына*
*ні на што не рэагуе*
*ніяк не можа пагадзіцца*
*што яго існаванне бачаць менавіта  такім*
*і другога яму не жадаюць*

*няўжо яны не адчуваюць*
*як  мая экзістэнцыя*
*бы старая тканіна*
*што праляжала ў зямлі*
*тысячагоддзі*
*распаўзаецца ў руках*
*рассыпаецца ад удараў*
*тэнісных мячыкаў*
*і гэтыя валокны*
*яшчэ зусім нядаўна*
*такія моцныя*
*цяпер не вытрымліваюць*
*нават лёгкага дотыку пальцаў*

*крохкасць зрабілася*
*яе асноўнай якасцю*
*вельмі небяспечнай*
*але незаўважнай*
*для тых*
*хто  ніколі не чытае маіх вершаў*

* * *

не зважаючы на ўсе сродкі камунікацыі
на мноства гукаў якія запаўняюць прастору

паэзія і толькі паэзія
застаецца маім адзіным сродкам
зносін са светам

бо паэзія –
гэта любоў тут і адразу
паэзія – гэта тое што не патрабуе адказу
паэзія – гэта вада – і мёртвая і жывая
паэзія – гэта тое што мяне апраўдае

сонца заходзіць і неба за ім
чырвоным радком палае

* * *

бурштыны дробненькія як крышталікі цукру
змяшаныя з пяском і марской травой
высвечваюцца сонечнымі промнямі

жанчыны перабіраюць пясок
і знаходзяць абсалютную радасць

пасля шторму мора нібы выбачаецца
за ўласную нястрыманасць

калі б я павінна была напісаць нацюрморт
то паставіла б на стол шклянку з мёдам
а вакол рассыпала б бурштыны

ёсць нешта ў гэтым:
шукаць бурштыны і знаходзіць
абсалютную радасць

* * *

*ні пра што не думаць а проста жыць*
*пазіраючы на свет і тваімі вачыма таксама*
*перакрыжоўваючы позіркі заўважаць*
*як на тоненькай нітачцы падвешанай да неба*
*гайдаецца знічка што ніяк не апусціцца да зямлі*

*дзесьці на свеце ёсць чароўныя горы*
*да якіх на досвітку прылятаюць анёлы*
*накрываюць іх белым крыллем*
*прытуляюцца да горных вяршыняў*
*і чакаюць прасветленых даляў*

*а калі заіскрыцца пад промнямі снег*
*і абвесціць пачатак наступнага кола*
*над нячроўнаю лініяй горных хрыбтоў*
*адлятаюць у чыстае неба анёлы*
*да наступных світанкаў на схіле гары*

*адлятаюць анёлы ў нябесныя гарады*
*а за белай гардзінай аблокаў у сонечных сферах*
*расчыняюцца вокны якія пакінуў Бог*
*для тых перад кім раптам закрыліся дзверы*

*у крыштальным паветры знікаюць анёлаў сляды*



Канстанцыя БУЙЛО

# ЛЮБЛЮ

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасьце,
Сьлязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі,
Іх хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.

Люблю раку, што імкліва воды
Імчыць ў няведамую даль,
І жоўтасьць берагаў пясчаных,
І яснасьць чыстых яе хваль.

Люблю вясну, што ў кветкі, ў зелень
Прыстроіць цэлую зямлю;
На гнёздах буслаў клекатаньне
І сьпеў жаўраначка люблю.

Люблю гарачу сьпёку лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зіхаціць агнём.

І восень сумную люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Як выйдуць жнеі збожжа жаці,
А касары — на сенакос.

Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ў вузор,
І белы сьнег, што ўсё пакрыўшы,
Ірдзіцца блескам ясных зор.

Люблю ў пагодную я ночку
Да позна на дварэ сядзець,
Сьлядзіць за зорачак дрыжаньнем,
На месяц залаты глядзець.

Люблю, як сонейка заходзіць
І бераг хмаркі залаціць,
Вячорнага як голас звону
К нам з ветру хваляю ляціць.
І песьню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца – плывуць.

Усё ў краю тым сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе з шчасьцем першым я спазналась
І з гора першаю сьлязой.

# Давайце вернемся ў гэтую песню…

## Да 120-годдзя з дня нараджэння Канстанцыі Буйло

Верш са зборніка Канстанцыі Буйло «Курганная кветка» (Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні, 1914 г., друкарня Марціна Кухты. 88 старонак, 43 вершы і дзве драматычныя паэмы — «Кветка папараці», «Сягонняшнія і даўнейшыя», тыраж 3000 асобнікаў). Рэдактар і ўкладальнік Янка Купала. Па яго просьбе зборнік афармляў самабытны мастак Язэп Драздовіч, які намаляваў для вокладкі гравюру жанчынысфінкса, сімвал загадкавасці і яшчэ не раскрытых магчымасцяў здольнай паэткі.




На шмуцтытуле кнігі змешчаны герб «Лебедзь» з удзячнасці Магдалене Радзівіл з роду Завішаў, якая ахвяравала сямейнае кальe на выданне беларускіх кніг, у тым ліку і «Курганнай кветкі».

Янка Купала першы заўважыў талент юнай Буйлянкі і, калі не было ад яе лістоў у «Нашу Ніву», пытаўся: «Чаму змоўклі? Чакаем вашых вершаў!». Паэт прысвяціў ёй верш «Мая думка».

Максім Гарэцкі ў кнізе «Гісторыя беларускай літаратуры» высока ацаніў паэзію Канстанцыі Буйло, назваўшы яе найбольш таленавітай паэткай пасля Цёткі.

Першы зборнік вершаў «Курганная кветка» быў створаны па натхненні: «*То не песня мая — не пяю гэтак я, гэта вырваўся енк з набалелай душы...*». Буйны шквал нерастрачанага дзявочага пачуцця, прага любові, гармоніі і адначасна смутку і адчаю, жадання абараніць усё безабароннае ад небяспекі. Нібы яе натхненнем вадзіла нябачная сіла, паэтка складала вершы аб красе роднай зямлі, усяго жывога на ёй, як у зачараваным сне. Паўсвядома прадчувала сваё прызначэнне, але пакуль што не прадчувала наканавання.

Янка Купала зразумеў, што прыйшла паэтка, якая стане побач з ім як роўная, і ўсцешыўся. Ды ўсё адбылося не так. Купала паміж пакутамі напісаў паэму «На Куццю», «Яна і я», шмат прарочых вершаў і п'есу «Тутэйшыя», а Канстанцыя Буйло пасля першага зборніка замоўкла. І ўсё ж «Курганная кветка» — адзін з цікавейшых зборнікаў беларускай паэзіі.

Верш «Люблю» стаў народнай песняй беларусаў дома і на чужыне. Мы не пагубляліся, таму што пры кожнай нагодзе спявалі гэту песню як народную малітву, паўтаралі, як клятву, як нацыянальны пароль.

...У Канстанцыі Антонаўны поўная неразбярыха з яе прыходам на свет. Нарадзілася яна 14 студзеня 1893 года ў Вільні, але ў розных даведніках і энцыклапедыях падаецца і 1898, і 1899 год нараджэння, і розныя месцы нараджэння: вёска Барсуковіна і вёска Вішнева на Ашмяншчыне.

Цяпер ёсць два Вішневы: вёска Вішнева ў Смаргонскім раёне і мястэчка Вішнева ў Валожынскім раёне, куды сям'я Буйло пераехала з Вільні ў 1895 годзе. У Вільні бацька працаваў конюхам у князя Гагарына. У Вішневе бацька быў арандатарам.

Настаўніца беларускай літаратуры Вішнеўскай школы Галіна Казіміраўна Краскоўская сказала мне па тэлефоне, што бацька паэткі працаваў лясным аб'ездчыкам у графа Храптовіча, жылі яны ў Вішневе нядоўга, але палюбілі гэтае мястэчка.

На сайце ў «Вікіпедыі», якім карыстаецца пераважна моладзь, чытаю:

«Канстанцыя скончыла кароткатэрміновыя курсы ў Вільні ў 1914 годзе. Працавала хатняй настаўніцай у Лідскім павеце, у 1915–1916 гадах загадвала беларускай кнігарняй у Полацку, калі ж кнігарню зачынілі, працавала ў земскім саюзе. У 1916 годзе выйшла замуж за Віталія Калечыца. Працавала статыстам у Валакаламскім райвыканкаме, бухгалтарам саўгаса "Данілкава". У 1923 годзе пераехалі ў Маскву ў Ціхвінскі завулак, там Канстанцыя пражыла ўсё жыццё».

Мужа арыштавалі ў 1933-м... Яна працавала на заводзе «Аграном» (1929–1934), начальнікам аддзела збыту Палітэхлабсаюза (1934–1940), начальнікам аператыўнага аддзела (1940–1951), пазней — замдырэктара цэнтральнай канторы ветэрынарнага забеспячэння трэста Саюзветзапрам...

Калі ў Беларусі ўсё яшчэ спявалі песню «Люблю», аўтарка

песні жыла ўжо іншым жыццём і не пісала вершаў (а калі і пісала, ніхто пра гэта не ведаў).

Кляштар бэрнардынак, пабудаваны ў 1621-м, быў перададзены Барысаглебскаму мужчынскаму кляштару ў 1854-м, у 1920-я гады ён апусцеў. У пустым будынку знайшлі прытулак шматлікія беларускія арганізацыі, а ў келлях жылі старыя беларускія настаўнікі і манах Іона з праваслаўнага манастыра (ён зрэдку вывешваў на мурах бел-чырвона-белы сцяг). У кнізе «Гродназнаўства» (2012 год) змешчана фатаграфія, на якой стаяць і сядзяць у чатыры рады на фоне вокнаў кляштара дзеці і выхавацелькі, адна з іх — законная сястра... Дзеткі коратка, акуратна падстрыжаныя, глядзяць у аб'ектыў. Надпіс на фатаграфіі: Беларускі прытулак у м. Горадні — 25. IV. 1920.

Сёстры Канстанцыі Станіслава і Іна ў той час працавалі настаўніцамі ў маёнтку Магдалены Радзівіл у Жорнаўцы. У красавіку 1921 г. арганізавалі ў Вільні Таварыства дапамогі ахвярам вайны. У пачатку мая 1921 г. Станіслава  пераехала ў Гародню працаваць загадчыцай беларускага прытулку.

У лісце да Лявона Вітана-Дубейкаўскага ў Варшаву (16 верасня 1921 г.) Станіслава просіць дапамогі для прытулку, бо дзяцей няма чым карміць і няма вокнаў у памяшканні. У лісце ад 7 кастрычніка дзякуе за дапамогу, скардзіцца на сваё здароўе. Станіслава памерла ад сухотаў у канцы лютага 1922 года, і праваслаўны манах Іона маліўся над яе труной. Апанас Цыхун, успамінаючы, як хавалі Станіславу, называе і месца пахавання — на цвінтары каля сабора. Але гісторыкі кажуць, што каля сабора не хавалі — гродзенцы згубілі магілу сястры паэткі. Апанас Цыхун піша, што Канстанцыя прыязджала з Масквы ў Гародню на магілу сястры, але гэты ўспамін выклікае сумненні... Калі не засталося ніякай магчымасці ўтрымліваць у Гародні дзіцячы прытулак, Дубейкаўскі паклапаціўся, каб дзяцей перавезлі ў Вільню і ўладкавалі ў бурсы падрыхтоўчых класаў беларускай гімназіі.

Канстанцыя Буйло прысвяціла сястры Станіславе паэму «Па траскіх гацях».

Будынак кляштара бэрнардынак, пабудаваны ў 1620-я гады, на здымку 1950 года яшчэ цэлы, толькі на страсе растуць дрэвы і няма крыжа на вежы. Але яго хутка разабралі на цэглу. У 1977 годзе на руінах пачалі будаваць драматычны тэатр (скончылі ў 1984 годзе). Гэты будынак змарнаваў краявід еўрапейскай Гародні.

У Заходняй і Усходняй Беларусі спявалі розныя песні, але пераважна спявалі «Бывайце здаровы, жывіце багата...», а пасля вайны «Ой, бярозы ды сосны...». У Заходняй Беларусі свядомыя беларусы спявалі «У імшарах, затканых імглою...», «Ад веку мы спалі, і нас разбудзілі...» ...Калі я пераросткам пайшла ў школу ў 1945 годзе, на ўроку спеваў настаўніца Любоў Антонаўна Ройша навучыла нас спяваць песню «Люблю». Заспявалі «Люблю» — і ўся школа стала адной песняй. Вёска заспявала песню «Люблю» — і таксама стала адной песняй. Гэтая песня спакойна ўлілася ў іншыя вясковыя спевы, якія гучалі на нашай зямлі ад прадзедаў спакон вякоў.

Людзі ведалі, што гэта верш Канстанцыі Буйло, а што паэтка жыве ў Маскве, нікому да гэтага не было ніякай справы. Паэтка і яе песня трымаліся адна ад другой на адлегласці, нібы незнаёмыя. Але яны былі непадзельныя, таму і пражылі доўгі век — адна ў Беларусі, другая ў Маскве...

І мала хто ведае, што музыку да верша напісаў таленавіты кампазітар Мікола Равенскі, ён жа напісаў і музыку да верша Наталлі Арсенневай «Магутны Божа», які стаў каталіцкім гімнам-малітваю.

У дзяцінстве я сніла, што лётаю высока над полем, над лесам і над хатамі. І прысніла верш «Пад казачным дубам, над Нёманам сінім касец прызнаваўся ў каханні дзяўчыне». Мой верш спявала я адна, ён і створаны быў, каб я жыццё пражыла з любоўю да Краю, у якім дакранулася да Бога праз дабрыню людзей.

Песня «Люблю» не мае ценю — уся ў сонцы або ў цемры, як гара Табор...

Маё жыццё праходзіць на нізіне, у нас няма гары, каб узысці на яе і сказаць Богу «люблю». Толькі ў дзяцінстве мы куляліся з горачкі ў Масцішчы, пакуль кароўкі, наеўшыся, адпачывалі. Некалькі перакулянак — і горка скончылася...

Пасля вайны паэтку прынялі ў Саюз пісьменнікаў. У 1950 годзе выйшаў другі зборнік яе вершаў «Світанне», потым — «На абноўленай зямлі» (1961), «Май» (1965) і яшчэ шмат кніжак. Паэтку ўзнагародзілі ордэнам «Знак пашаны» і медалямі, прысвоілі званне Заслужанага работніка культуры БССР.

Песню «Люблю» спявалі хоры Рыгора Шырмы і Генадзя Цітовіча, Антона Валынчыка, гарадскія і вясковыя хоры, капэлы; мелодыя гэтай песні стала пазыўнымі замежнага радыё для беларусаў «Свабода». І вельмі любяць гэтую песню на Беласточчыне.

У 1968 г. Янка Брыль уключыў мяне ў склад дэлегацыі пісьменнікаў у Маскву, дзе я пазнаёмілася з паэтам і вучоным Міхайлам Грамыкам. У другую паездку мы былі ў гасцях у яго маскоўскай кватэры. У Маскве я сустрэлася з Паўлінай Мядзёлкай, якая расказала сваю версію смерці Янкі Купалы. Чаму ж мы не наведалі Канстанцыю Буйло?

Тэлефаную Нілу Сымонавічу Гілевічу і пытаюся ў яго пра гэта. А ён мне і кажа, што наведваў Буйлянку незадоўга да яе

смерці — вазіў паэтцы ўзнагароду ад нашага Саюза пісьменнікаў. Вельмі яна ўсцешылася, сядзела на ложку і ўсё паўтарала: «Ніл! Ніл прыехаў!»... І я зразумела: прызначэнне Канстанцыі — абагрэць чужую Маскву, куды мы ездзілі, як нявольнікі на паклон. Масква нас не праглынула, бо там жыла паэтка, чыя песня «Люблю» саграваля неба...

Калі я пачала працаваць у музеі М. Багдановіча, зайшоў аднойчы да нас Янка Канышка з Мінска і расказаў, што бывае ў камандзіроўках у Маскве і наведвае Канстанцыю, якая не ўстае з ложка. Сын заходзіў да яе кожны дзень, каб дапамагчы, і пакідаў адну, але настрой у яе добры, ніякай крыўды на людзей няма. Я напісала ёй кароткі ліст, бо ён згадзіўся завезці і аддаць ёй у рукі, і неўзабаве прывёз мне ад Буйлянкі некалькі словаў.

4 чэрвеня 1986 года Канстанцыя Буйло, па мужу Калечыц, памерла...

У 1989 годзе сын прывёз урну з прахам паэткі ў Мінск. Ніл Сымонавіч Гілевіч расказаў мне па тэлефоне, як ён сваімі рукамі, стаўшы на калені, апускаў урну ў магілу на Вішнеўскіх могілках. У прыгожым месцы, недалёка ад дарогі. Было цёпла, сабралася шмат народу. Пахаванне адбывалася са святаром святой памяці Уладзіславам Чарняўскім, пра якога Ніл Сымонавіч успамінае як пра свайго добрага знаёмага... Гаспадыняй на памінках была старшыня сельсавета, не старая жанчына, якая павінна яшчэ жыць. На памінках спявалі песню «Люблю».

Настаўніца беларускай мовы Галіна Казіміраўна ў той час была студэнткай і таксама памятае гэтую падзею. Неўзабаве паставілі прыгожы помнік, вучні і цяпер апякуюцца магілай.

У 1989 годзе Вішнеўскай школе прысвоілі імя паэткі, а на сцяне змясцілі памятную шыльду. На жаль, у сярэдзіне дзевяностых школа страціла гэтае імя... Добра, што вуліца Канстанцыі Буйло ў Мінску захавалася... у раёне вуліцы Сяргея Ясеніна ў Малінаўцы.

У 1993 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» была выдадзена кніга «Коціцца рэха. Вершы, паэмы, лісты» (укладальнік і рэдактар Дзіяна Чаркасава).

Песню «Люблю» і цяпер спяваюць хоры на сцэне, сябры пры вогнішчы, у застоллях, на вечарынках. Духоўны хор «Бацькаўшчына», які стварыла ў Гародні Вера Кунцэвіч, дваццаць гадоў спявае песню «Люблю». Яна па-за часам — простая, шчырая і глыбокая, як душа Беларусі. Можна паразважаць, як дакладна паэтка расставіла духоўныя вартасці ў вершы «Люблю». На першым месцы — любоў нават не да Радзімы, а да старонкі, дзе нарадзілася, на другім месцы — любоў да народа, яго сядзібаў і зямлі, што корміць народ, на трэцім месцы — любоў да ракі як сімвалу руху, глыбіні, вечнасці; пасля паэтка патлумачыла, за што яна любіць вясну, лета, восень і зіму, якія мяняюцца ў роднай старонцы і мяняюць яе краявіды. Нарэшце яна прызналася ў любові да песні, тонамі дзявочых галасоў абняла і сагрэла сваю старонку, загарнула яе ў любоў. Няма ў гэтым вершы метафараў і гіпербалаў, толькі эпітэты і параўнанні. Песня «Люблю» для неба, як песня жаўранка, прадвесніка вясны, яна не для глыбіні. Такое яе прызначэнне.

Ніхто не падумаў, што гэтая песня жыве з намі ўжо стагоддзе і ёсць нашым гімнам. Чаму гімны павінны быць ваяўнічымі? Давайце ж возьмемся за рукі, створым жывы вянок і прызнаемся ў любові роднай старонцы і палюбім адзін аднаго, як пяецца ў гэтай песні, — яна падыходзіць для кожнай долі, для кожнай душы! Паэтка Канстанцыя Буйло абняла нас сваёй песняй, абагрэла, замаліла і зачаравала, замовіла на дабрыню... Песня была нам калыханкай і малітвай тады, калі чужынцы выгналі Бога з нашых святыняў, вывезлі ў ГУЛагі святароў, а святыні ператварылі ў склады ўгнаенняў. А другія чужынцы палілі святароў у Расіцы і ў печах лагераў смерці разам з дзецьмі і бабулямі. Песня «Люблю» стала нашым духоўным хлебам.

Усе вершы паэткі трэба перавыдаць, перачытаць і ведаць — іх жа напісала аўтарка песні «Люблю», якая навучыла нас любіць і заслужыла нашу любоў!

Досыць адной песні, каб цябе любілі, але каб не згубіцца з адной песняй, трэба зрэдку даваць знак пра сябе, каб успомнілі і цябе, і тваю песню...

Размаўляючы з заснежанай Беларуссю, з Паэтам Нілам Сымонавічам, краязнаўцамі і настаўнікамі, з літаратаркамі, са скульптарам, які рэстаўруе сакральнае мастацтва святыні ў Вішневе, дзе служыў Богу на роднай мове і пахаваны на цвінтары каля касцёла ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, гледзячы на фатаграфію 1921 года ў вочы дзяцей і настаўніц беларускага прытулку ў Гародні, я падумала, што душа на нябёсах збірае між слёз нашчадкаў плёны талентаў, у якіх жыве Слова, — Яно было ад пачатку...

*Данута Бічэль*

---

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008) і «Мост святога Францішка» (2010).



# Дзмітрый МІЗГУЛІН

Дзмітрый Мізгулін — паэт,
член Саюза пісьменнікаў Расіі.
Нарадзіўся ў 1961 годзе
ў Мурманску.
Закончыў фінансава-эканамічны
і Літаратурны інстытуты.
Друкуецца з 1980 года.
Аўтар шасці паэтычных
і дзвюх празаічных кніг.
Жыве і працуе
ў Ханты-Мансійску.

* * *

У прадчуванні ўжо хуткай бяды
Варухнецца трывога змяёю:
Ты ўвесь — амаль што з вады,
А калі-небудзь станеш зямлёю.

Развітацца надыдзе пара.
І імя тваё будзе забыта.
І пясок разляціцца, і прах
І ад мармуру, і ад граніту.

Часу хочацца ўсё вынішчаць:
Ён заўсёды бязлітасны гартам.
Бессмяротная толькі душа
Вось аб ёй клапаціцца і варта.

Пыл няздзейсненых мар ты пакінь.
Карацее твой век — што ж такога...
Хутка Сёмуха. Свята. Цяплынь.
Дзень Сыходжання Духа Святога.

* * *

Сівеюць і дрэвы патрошку,
Іх лета вятрыска аднёс.
Зжаўцелі раптоўна прычоскі
ўзлахмачаных ноччу бяроз.
Забудуцца хутка марозы,
Мазурку сыграе капеж,
Зялёныя пасмы бярозы
Аздобіць птушыны напеў.
Так крочыць прырода па кругу,
І руху яе не стрымаць.
А вось пасівеламу другу
Маршчыны ніколі не зняць...

## У старой каралеўскай абсерваторыі

Нам Бог акрэслівае лёс:
Хто ў адміралы, хто ў паэты.
Яму ж прызначана было
Глядзець на зоркі і планеты.

Бясконцыя гады падрад
Ён пазнаваў сусвет бязмерны...
І неба ўсё яго, і сад,
І гэты цесны кут кватэрны.

Ды ні іконы, ні крыжа,
Ні Бібліі не браў у рукі:
Будзённы клопат вырашаў
І не пакрыўдзіў нават мухі.

І вось амаль што ў дол урос,
Ссутуліўся, аслеп, нябога,
Вачэй не зводзіўшы з нябёс,
Ён так і не пабачыў Бога.

* * *

Зноў — сакавік. І зноўку — слота.
І зноў — усё наадварот.
Картавы дыктар будзе боўтаць
Аб тым, што ведае народ.
І будзе смех падобны стогну,
І — уладарыць будзе зман,
Пакуль мы, нібы на ікону,
Глядзім упарта на экран.

## Не ўключай тэлевізар

Не ўключай тэлевізар. Не трэба.
Хоць імгненне спачні ў цішыні.
Між галінак азяблага дрэва
Вырай зорак плыве ў вышыні.
Не ўключай тэлевізар. Навошта
Бачыць гэты сусветны базар,
Дзе ўвесь свет перайначыць ахвочы
Кожны трэці вучоны змагар.
Не ўключай тэлевізар. Паслухай
спеў лістоты і гоман вады.
Майскі водар найлепшы для духу —
Гэта ты зразумееш тады.
Не ўключай тэлевізар, не торгай!
Моўчкі хай гэта скрынка стаіць.
І дыханне свабоды і Бога
Хоць на міг да цябе прыляціць.

## Апошнія і першыя

Адны галаву задзіраюць высока таму,
Што хочуць разгледзець зоркі.
Другія — таму, што прывыклі на ўсіх
і на ўсё
Пазіраць з пагардай.
Як часам цяжка адрозніць
Першых ад апошніх...

* * *

Цяжка нам уявіць сутнасць спраў,
Веліч тых адляцелых вякоў.
Толькі цьмяна даносіць экран
Шэлест сукняў і шолах сцягоў.

Кніга дрогне ў будзённым віры,
Летуценняў рассеецца дым —
Мы на мове на рознай зусім
Сталі думаць, пісаць, гаварыць...

Ды як калісь — лапоча лісцё,
Так жа раніцай птушкі пяюць,
Вернікі гэтаксама ў касцёл
Усё такія ж малітвы нясуць.

Не скажай падрахунак эпох,
Не ўпадзі на крутым віражы,
Бо пакуль і прырода, і Бог
Адзічэць не дазволяць душы.

* * *

У такія дні не хочацца пісаць,
Бяссільнае ў часы такія слова,
І не знайсці занятку нам другога,
Як толькі безуважна назіраць...

У такія дні сумненняў і трывог,
Калі кіпіць нябачная нам бітва,
Душу хай умацоўвае малітва,
І ўратуе міласэрны Бог!

*Пераклад з рускай мовы*
*Пятра Макарэвіча.*

Ігар Сурмачэўскі

# Абраз Полацкай Багародзіцы XVI стагоддзя



Полацкая Адзігітрыя з срэбнай басмай пасля рэстаўрацыі. 2012 год.

*Investigabiles viae Domini...*
*Шляхі Божыя нязведаныя...*

Юзэфа і Таццяна — так клікалі маіх бабуляў. Адна жыла ў Фаніпалі, другая — у Барысаве. Адна была каталічкаю, другая — праваслаўнаю. У аднае хату ўпрыгожваў абраз Вастрабрамскай Божай Маці, у другой абавязкова на Пасху фарбавалі яйкі шалупіннем цыбулі. На жаль, яны пакінулі гэты свет — пайшлі ў Нябеснае Валадарства. Але ў мяне засталася іх вера. Каталіцкая і праваслаўная. Як усе мае блізкія непадзельныя і дарагія мне, так непадзельная і мая вера. Хрысціўся я ў касцёле на мінскай Кальварыі, а ўсё жыццё займаюся збіраннем і рэстаўраваннем праваслаўных святыняў. У душы не ўзнікае супярэчнасцяў, калі я прымаю святую Камунію ў касцёле і атрымліваю благаслаўленне на рэстаўрацыю беларускай святыні ў царкве. На адзінай сваёй аўдыенцыі ў кардынала Казіміра Свёнтка я расказаў яму пра выратаванне веры ў нашай сям'і, і кардынал з уласціваю толькі яму чыстаю дзіцячаю ўсмешкаю сказаў на развітанне: «Вялікі дзякуй усім бабулям за выратаванне веры!».

Тады, пасля аўдыенцыі, мне ўзгадаўся паўзмрок францішканскага касцёла ў ліпені 1983 года, час маёй студэнцкай пераддыпломнай практыкі. Я прыехаў у Пінск на эцюды і пасля дзённай працы на палескім гарачым сонцы прыйшоў у касцёл на вечаровую Імшу хутчэй з цікаўнасці, чым па жаданні сэрца. Каля алтара сабраліся ўсяго тры бабулькі. І ў той вечар маю душу зачаравала прахалоднае паветра велічнага інтэр'еру касцёла, насычанае пахам кадзіла, старых дубовых лаваў, старажытных палотнаў, халоднай тынкоўкі. У прахалоду высокай цішыні ўпляталіся тонкія галасы бабуляў, якія спявалі «Аллелюя». І ўсё гэта нараджала ў душы нейкія забытыя, далёкія дзіцячыя ўспаміны. Можа, гэта была генетычная памяць

---

**Ігар Вячаслававіч Сурмачэўскі** — мастак, рэстаўратар, калекцыянер. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (былы маёнтак Багдашэўскіх). У 1979–1984 гг. вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на кафедры «Інтэр'ер і абсталяванне». З 1988 года ўвайшоў у склад моладзевай секцыі Саюза мастакоў БССР. З 1980 года збірае калекцыю рэчаў і дакументаў па гісторыі беларускай культуры, якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. З 1988 года займаецца рэстаўрацыяй абразоў і жывапісу. Ахвяруе сродкі для аднаўлення помнікаў беларускай гісторыі і культуры. У 2010 годзе ўзнагароджаны ордэнам святой Еўфрасінні Полацкай за заслугі перад Беларускай Праваслаўнай Царквою.

маіх продкаў, якія спрадвек хадзілі ў святыню на службу?

Ужо тады я пачаў задумвацца над тым, што ўсё ў свеце адбываецца не па волі выпадку. Хтосьці называе гэтую таямніцу лёсам, хтосьці кармаю, хтосьці ўзмахам рукі Стварыцеля. Назавем гэта Провідам Божым. Гэтая вялікая таямніца напрыканцы 80-х гадоў прывяла мяне ад простага вывучэння і капіявання абразоў у БДТМІ да разумення іх сапраўднай сакральнай сутнасці. Спачатку я меркаваў, што сам шукаю абразы для калекцыі і працы, а пасля зразумеў — абразы самі шукаюць свой шлях да рэстаўратара. Часам абраз па волі Божай ідзе не ў калекцыю, а ў святыню. Так адбывалася ў 1990-я гады з аналойным абразом Казанскай Божай Маці XIX стагоддзя. Я ледзь адрэстаўраваў яго, пакрыў лакам, уставіў у кіёт, але ўзнікла нейкае містычнае жаданне адвезці гэты абраз у царкву. Я ўзяў яго і павёз у Свята-Духаў сабор на Нямізе. Прынёс у святыню, а мне кажуць: у адной з цэркваў Віцебска з аналоя скралі абраз Казанскай Божай Маці, і гэтае злачынства адбылося акурат у дзень святкавання гэтага святога абраза — 21 ліпеня. Віцебскі святар прыехаў, каб знайсці нейкую замену, і адрэстаўраваны абраз аказаўся дарэчы. І зноў думка: ці ж ты сваёю воляю шукаеш шлях для святога абраза?

Ён знайшоў мяне і нават двойчы паклікаў да сябе... Я ўбачыў гэты святы абраз у майстэрні аднаго рэстаўратара ў Маскве. Уласнік пакінуў яго для доўгай працы, маючы надзею пасля прадаць. Аляксей, так клікалі маскоўскага рэстаўратара, звярнуў маю ўвагу на Полацкую (Тарапецкую) Божую Маці, пры гэтым удакладніўшы, што абраз мае дачыненне да беларускай гісторыі. Аднак у гэты момант маё сэрца прамаўчала. Хоць з першага погляду я зразумеў, што абраз рэдкі і старажытны. Мяне збянтэжылі абліччы... Калі тут ёсць вялікія страты, абраз становіцца праблематычным для сур'ёзнай прыватнай калекцыі. Карацей, я не рашыўся набыць яго ў першае сваё падарожжа. Але святы абраз Полацкай Божай Маці стаяў перад вачыма ўсю дарогу, быццам ехаў у цягніку разам са мною.

Цэлы тыдзень я ўзважваў усе «за» і «супраць», перачытаў шмат літаратуры пра абраз Полацкай (Тарапецкай) Божай Маці. Пазваніў у Маскву і, дзякуй Богу, абраз чакаў мяне. Так нашыя шляхі — святога абраза і мой — перасякліся па волі Божай у прасторы бясконцага часу амаль праз 450 гадоў...

Пра што думаў іканапісец, які пісаў гэты абраз? Ці мог ён дапусціць, што яго сакральная праца праз вякі трапіць у Беларусь... ды і наймення такой краіны ў XVI стагоддзі ён не ведаў... Масковія і Вялікае Княства Літоўскае былі тады ворагамі.

Беларускія калекцыянеры ніяк не адрэагавалі на рэдкі, на маю думку, абраз. Гэта зразумела — пашкоджаныя абліччы. Я падумаў, што, магчыма, яно да лепшага — няхай абраз пачакае 5–10 гадоў. Дасць Бог, ён знойдзе сваё месца. З цягам часу ўсё атрымалася добра. У адзін з вясновых дзён 2004 года ў мяне гасціў Анатоль Дунчык, рэстаўратар Мінскага епархіяльнага кіраўніцтва. Убачыўшы абраз, ён імгненна прыняў рашэнне: яго павінен убачыць уладыка Філарэт. Такім чынам, у сакавіку 2004 года абраз Полацкай Божай Маці апынуўся ў асабістых пакоях Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Экзарха усяе Беларусі.

Уладыка не адразу даверыў рэстаўрацыю святыні зусім незнаёмаму рэстаўратару. Я часта прыходзіў да мітрапаліта на аўдыенцыю ў вялікі прыёмны пакой на другім паверсе Епархіяльнага кіраўніцтва. Гадзінамі доўжыліся нашыя асабістыя размовы. Падчас гэтых размоваў уладыка пранізлівым позіркам цёмных вачэй вывучаў мяне не толькі звонку — здавалася, што ён заглядае ў самыя патаемныя куточкі душы і ведае, што адбывалася з самага майго нараджэння і што будзе заўтра. Партыйнае чыноўніцтва, узгадваючы савецкія часы, прызнаецца, што не кожны вытрымліваў гэты пранізлівы позірк, калі ў Мінскім выканкаме вырашаліся пытанні рэстаўрацыі святыняў.

Абраз доўга рыхтавалі да рэстаўрацыі...

Як працавалі іканапісцы даўней? Яны былі манахамі, людзьмі глыбокай веры. Доўга маліліся і трымалі пост перад працаю. А як у сучасным матэрыяльным атачэнні настроіць сябе на тонкую працу з абразом? Складана... Таму духоўнае ўмацаванне ў працы мне давалі малітвы сясцёр Свята-Еўфрасіннеўскага манастыра, маім анёлам-ахоўнікам стала матушка Сергія. Сёстры прыязджалі ў Санкт-Пецярбург, каб памаліцца перад старажытным абразом Полацкай (Эфескай) Божай Маці XII стагоддзя. І кожная вандроўка была азмрочаная выклікам міліцыі. Супрацоўнікі музея вельмі баяліся, што беларускія чарніцы патаемна забяруць шанаваны абраз у Полацк, дзе ён і павінен знаходзіцца па праве.

Атрымаўшы благаслаўленне ўладыкі Філарэта, у 2006 годзе абраз быў перанесены ў рэстаўрацыйныя майстэрні Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Там былі зробленыя рэнтгенаграмы абліччаў Багародзіцы і Божага Дзіцяці, узятыя пробы фарбаванага слоя для фізіка-хімічнага даследавання. У гэты час ужо мелася заключэнне Маскоўскага дзяржаўнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі, што абраз датаваны канцом XVI стагоддзя і аналіз фарбаванага слоя не супярэчыць гэтай эпосе. Бе-


Стан абраза да пачатку рэстаўрацыі. Лістапад 2003 года.

ўпрыгожвалі такім багатым дэкорам. Шата абраза была выкананая ў другой палове XVII стагоддзя з тоўстага чаканнага срэбра. Такую ювелірную працу здольныя зрабіць толькі прафесіяналы з добрай майстэрні ў вялікім горадзе. Падобна, што гэта праца майстроў срэбных справаў з Пскова ці Ноўгарада. Вага і таўшчыня шаты таксама сведчаць пра ўшанаванне абраза. Рэч у тым, што свайго срэбра ў XVII стагоддзі Расія не мела, яго пачалі здабываць у Забайкальскіх рудніках толькі ў часы Пятра I, у 1704 годзе. Да гэтага часу срэбра завозілі з-за мяжы: з Еўропы, з Усходу, і таму каштоўны метал быў вельмі дарагі. Узгадайма, якімі тонкімі былі срэбныя капейкі XVI–XVII стагоддзяў. За малы памер іх называлі таксама «лускою». Еўрапейскае срэбра часцей за ўсё прывозілі, гандлюючы з Галандыяй, — гэта былі галандскія срэбныя талеры. На аверсе, тварным баку талера, была выява ільва, таму іх называлі «лёвінталерамі», а срэбра ў Расіі атрымала пячатку «лявок». Такім чынам, на шату Багародзіцы пайшло шмат галандскага срэбра. Тоўстая срэбная шата вельмі рэдкая для тых часоў. Дэкор «сукні», якая захавалася, памайстэрску выбудаваны на кантрасце грубай фактуры складак адзення і кропкавай ювелірнай чаканкай барочнага малюнка на нарукаўніках, бармах і хітоне Хрыста. Шата першапачаткова была пазалочаная (у паглыбленнях дэкору бачныя рэшткі старажытнага залачэння лімоннага колеру) і прыбітая да асновы абраза срэбнымі (!) цвічкамі. Гэта сустракаецца вельмі рэдка, на што звярнулі асаблівую ўвагу мастацтвазнаўцы ў першапачатковым заключэнні, выдадзеным Дзяржаўным навукова-даследчым інстытутам рэстаўрацыі.

Шату знялі ў Маскве падчас даследаванняў. Захаванасць адзення пад шатаю аказалася цудоўнаю, я б назваў яе ідэаль-

ларускія спецыялісты пацвердзілі дату напісання абраза. Можна было пачынаць умацаванне і расчыстку. Гэтую шматмесячную і карпатлівую працу зрабіла рэстаўратар Святлана Дзікуць. Кожны слой запісу міліметр за міліметрам выдаляўся пасля ўсебаковага аналізу і парадаў з многімі рэстаўратарамі, у тым ліку і з рэстаўратарам вышэйшай катэгорыі Аркадзем Шпунтам.

Намоленыя абразы... Іх выратоўвалі, яны ратаваліся самі ўладаю Божага Провіду. Нашыя бабулі, маючы глыбокую веру, выносілі абразы са зруйнаваных ваяўнічымі бязбожнікамі святыняў, захоўвалі ў неспакойныя часы пад абаронаю сваіх ціхіх малітваў. Абраз Полацкай Божай Маці, магчыма, быў такім жа чынам выратаваны адной з верніц у Пскове або паблізу (як казаў апошні ўладальнік абраза, ён паходзіць з Пскоўшчыны). Шматлікія разрывы на срэбнай шаце (верх мафорыя Багародзіцы) змушаюць думаць, што абраз быў зганьбаваны ў 1920-я гады. З яго сарвалі срэбную басму і вянец. Новая ўлада, прыкрываючыся лозунгамі аб хуткім надыходзе «камуністычнага раю», распрадавала духоўную спадчыну народа. Магчыма, у гэтую кругаверць бязбожнасці трапіў і гэты абраз. Каштоўны метал з пячаткамі срэбра XIX стагоддзя быў рэквізаваны, а срэбная «сукня» XVII стагоддзя цудоўным чынам ацалела. Спачатку старажытная шата была ўпрыгожаная каштоўнымі камянямі на «зорках» Беззаганнай Дзевы, якія знаходзяцца на плячах і чале Багародзіцы. На нарукаўніках і бармах адзення таксама былі бачныя сляды срэбных кастаў. Маленькія адтуліны на шаце па краі рук і ножак — гэта месцы, куды мацаваліся нізкі з пярлінаў.

Абраз быў надзвычай ушанаваны — не кожную ікону

наю для 1570–1580 гадоў. Упершыню зірнуўшы на абраз, я быў уражаны малюнкам залатога асіста на адзенні Багародзіцы і Божага Дзіцяці. Ён палымнеў скрозь старую пацямнелую бурштынава-карычневую аліфу як унутранае звышнатуральнае свячэнне святых фігураў і сведчыў пра таямніцу старажытнага візантыйскага паходжання абраза.

Багацце залатога асіста на мафорыі Багародзіцы не зусім звычайнае для рускай іканаграфіі XVI стагоддзя. Толькі пачынаючы з XVII стагоддзя апрацоўка складак мафорыя разведзеным золатам у строганаўскіх і царскіх іканапісцаў стала дасканалаю. На старых абразах багацце залатога свячэння ўласцівае толькі адзенню Хрыста як жывога ўцелаўлення Бога. Адзенне Багародзіцы (мафорый, туніку і каптур), як правіла, вытанчана ўпрыгожвалі асістам толькі па краі. Усё гэта паказвала на рэдкую іканаграфію і старажытную візантыйскую першакрыніцу абраза. У адрозненне ад адзення святых фігураў, закансерваваных на стагоддзі пад срэбнаю шатаю, палі і фон абраза пацярпелі ад шматлікіх умяшальніцтваў не толькі па фарбаваным слоі, але і па ляўкасе. Я мяркую, што «сукню» рэдка здымалі падчас многіх панаўленняў. У першую чаргу рэстаўратары XVII–XVIII–XIX стагоддзяў імкнуліся надаць свежасць фарбаванага слоя бачным часткам абраза — абліччам, рукам і фону. Дзякуй Богу, адзенне і ножкі Хрыста яны пакінулі ў спакоі пад цёмнаю аліфаю.

«Родныя» палі абраза XVI стагоддзя былі выкананыя сусальным золатам. Зялёны (травяны) колер памежжа XVI–XVII стагоддзяў часткова захаваўся на німбе Багародзіцы і Хрыста, з левага боку ад фігуры Божага Дзіцяці: уніз і ўбок да лузгі каўчэга абраза. На захаваным старым фоне ляўкас крыху вібруе праз зялёны глаўканіт. Як толькі ні «мучылі» рэстаўратары абразы на працягу вякоў! Тут сустракаецца і цёмна-чырвоная сургучная масціка XVIII стагоддзя, і васковыя ўстаўкі XIX–XX стагоддзяў, і «галубец» (модны блакітны колер перыяду ракако), і глухі зялёны XIX стагоддзя. Стары ляўкас на палях іконы ў асноўным захаваўся (вялікія выпадзенні ляўкаса да драўлянай асновы зафіксаваныя злева ад аблічча Божай Маці і Хрыста на стыках дошак і на правым плячы Багародзіцы). Аднак «родны» зялёны колер амаль па ўсім фоне спемзаваны да ляўкаса і ў сярэдзіне XVIII стагоддзя пакрыты цёмна-карычневым паліментам пад залачэнне. Па версе залачэння напрыканцы XVIII — у пачатку XIX стагоддзя ізноў зрабілі ляўкас і пакрылі «галубцом». Усё змянялася ў адпаведнасці з моднымі стылямі ў мастацтве. Апроч гэтага, ляўкас каля фігураў пашкоджаны мноствам адтулінаў ад замацаванняў наборнай басмы. На рэнтгенаўскім здымку рэшткі цвікоў бачныя як белыя кароткія лініі, што ляжаць па краі адзення, нібы раны ад шрапнэлі. Колькі разоў перабівалі і перараблялі наборную басму, аднаму Богу вядома.

Абліччы шмат разоў паднаўлялі, аднак слой аўтарскага пісьма XVI стагоддзя дзе-нідзе захаваўся: на правай шчацэ і шыі Багародзіцы, на шыі Божага Дзіцяці. У іншых месцах на абліччах бачныя сляды спемзавання тэмперных плавяў амаль да санкіра, зробленага ў празелень. У XIX стагоддзі падчас паднаўлення абліччаў была нанесеная грубая граф'я цыроўкаю па аўтарскім пісьме. Магчыма, рэстаўратары ўжо не маглі разгледзець аўтарскі малюнак пад цёмнаю аліфаю? Хаця на руках Божай Маці выразна чытаецца тонкая, па-майстэрску выкананая граф'я лебядзіных рук Багародзіцы (для XVI стагоддзя характэрны плаўны, вытанчаны малюнак рук — яны падобныя да абрысаў лебядзінага крыла). Гэта гаворыць пра высокае майстэрства іканапісца, знаёмага з найлепшымі ўзорамі іканапісу пскоўскай і наўгародскай школаў. Падчас рэстаўрацыі абліччаў мы былі вымушаныя прыняць неадназначнае рашэнне: не расчышчаць рэстаўрацыю XIX стагоддзя да спемзаванага старога жывапісу, а ўпісваць таніроўкі дзесьці пад XIX стагоддзе, а дзесьці пад XVI. Інакш можна захапіцца плаўю і прыплескамі і дайсці ў рэстаўрацыі да поўнага наватвору. Пуцяводнаю зоркаю ў выбары цялеснага колеру сталі ножкі Хрыста, якія захаваліся амаль цалкам. Таніроўкі я раблю найдалікатнейшым кропкавым чынам, каб пакінуць астраўкі старога пісьма і аб'яднаць пісьмо розных стагоддзяў. Гэта праца пуантэллю (ад французскага «пуантэ» — кропка) нагадала мне працу лекара, які сшывае разам раструшчаныя кавалкі пашкоджанага пісьма. Не туды ўколе каланковы пэндзаль-нулёўка — і ўся праца змарнуецца..

Вялікія цяжкасці ў рэстаўрацыі ўзніклі падчас працы над ручкаю Божага Дзіцяці, якая трымае скрутак. На абразе з Рускага музея і на пазнейшых сучасных спісках указальны палец левай ручкі Хрыста ідзе наверх. Жэст на рэстаўраваным абразе XVI стагоддзя крыху адрозніваецца. Большая частка пісьма па руцэ страчаная (аўтарскі жывапіс захаваўся толькі па краі рукі і на двух ніжніх пальчыках), аднак на старой граф'і добра бачны вялікі палец, схаваны скруткам. Таму я вырашыў аднаўляць левую ручку Хрыста па граф'і рэстаўраванага абраза. Правая ручка Хрыста ў жэсце благаслаўлення таксама аднаўлялася па старой прамалёўцы, як і рукі Божай Маці.

На арыгінале, які захоўваўся ў Рускім музеі, страчаны малюнак нарукаўніка на правым ру-

каве тунікі Багародзіцы. На абразе XVI стагоддзя нарукаўнік цудоўна захаваўся і дае нам магчымасць уявіць, якім быў малюнак першакрыніцы.

Іканапісец, якому замовілі спісак з абраза Эфескай Божай Маці, паставіўся да працы не толькі творча і высокапрафесійна, але і з асаблівай дбайнасцю і ўвагаю да ўсіх дэталяў абраза. Кожны штрых асіста, яго накірунак, патаўшчэнне і вібрацыя перададзеныя дакладна, як на абразе XII стагоддзя. Скапіяваны нават машчавік каля правай ножкі Хрыста. Дарэчы, у дакументах яго ніхто не апісвае на абразе XII стагоддзя! Магчыма, у візантыйскі абраз XII стагоддзя ад пачатку былі ўкладзеныя святыя мошчы, калі яго везлі святой Еўфрасінні?

Хто ведае, магчыма, два гэтыя абразы XII і XVI стагоддзяў ляжалі побач, калі працаваў іканапісец?

Памер абраза XVI стагоддзя да рэстаўрацыі XIX стагоддзя дакладна супадаў з памерам арыгінала XII стагоддзя — 82,5х60,3х3,3 см. Цяпер ён мае памер 78,1х57х2,6 см і невялікі каўчэг. Аснова іконы абрэзаная па краях і крыху ўверсе — гэта бачна па непрапарцыянальна вузкіх палях і слядах піла на тарцы абраза па большым боку. Магчыма, абраз устаўлялі ў іканастас вызначанага памеру? У XIX стагоддзі ўверсе і ўнізе ў тарэц абраза былі ўрэзаныя шпонкі. З адваротнага боку аснова абраза дасканала выведзеная скобляю або гэбелем. Зверху і знізу на адлегласці 1,5–2 см ад краю абраза з адваротнага і тварнага боку на роўнай адлегласці знаходзяцца адтуліны.

Якія высновы можна зрабіць з гэтых пераробак абраза? Магчыма, ён быў двухбаковы, вынасны, як і арыгінал з Рускага музея. З адваротнага боку быў напісаны абраз святога Мікалая Цудатворцы, які з цягам часу быў страчаны. Магло здарыцца, што вынасны абраз распілавалі ў XIX стагоддзі і зрабілі два абразы XVI стагоддзя. Напрыканцы XIX стагоддзя калекцыянеры называлі такія абразы «спілкамі». Адтуліны ўнізе і ўверсе служылі для прымацавання наглямі (драўлянымі цвічкамі) накладных шпонак з адваротнага боку і прымацавання накладной рамы з тварнага боку. Яшчэ трэба разгадаць таямніцу дзевяці нагляў, бачных ля ножак Божага Дзіцяці пад пэўным вуглом. На адваротны бок яны не выходзяць. Магчыма, гэта прымацаванне для страчанага дзяржальна вынаснога абраза?

У святынях асаблівым чынам ушаноўваюцца вынасныя абразы, іх лічаць цудатворнымі. Іх, як і запрастольныя крыжы, выносяць вернікам для пакланення толькі ў выключных выпадках: на вялікія святы, для працэсіі або для засцярогі ад вялікай бяды.

Калі праца рэстаўравання абраза была завершаная, дзякуючы матушцы Сергіі да мяне ў рукі трапіў поўны артыкул па гісторыі абраза Эфескай Божай Маці навуковага супрацоўніка Рускага музея І. А. Шалінай. Адразу ж мазаіка гіпотэзаў і здагадак склалася ў адзіны цэласны і зразумелы малюнак гісторыі абраза XVI стагоддзя.

«Яшчэ на пачатку XX стагоддзя ў Корсунска-Багародзіцкім саборы Тарапца захоўвалася копія з Корсунскага абраза, зробленая ў XVI стагоддзі. Пасля рэвалюцыі яе лёс невядомы. Кажуць, што жыхары Тарапца, чакаючы прыезду ў горад цара Івана Грознага, баяліся, што святыня будзе вывезеная ў Маскву, і таму вырашылі зрабіць з яе спісак. Калі копія была гатовая, на яе паклалі срэбную шату і ўпрыгожванні з абраза Корсунскай Божай Маці і паставілі ў іканастас на месца цудатворнага абраза. А сам абраз без упрыгожванняў аднеслі за прастол.

Сапраўды, у XVI стагоддзі існавала традыцыі везці ў Маскву найбольш шанаваныя мясцовыя святыні з усіх заваяваных краёў Русі. Так адбылося з абразамі Уладзімірскай і Смаленскай Божай Маці, старажытнымі здабыткамі Ноўгарада, Пскова ды іншых гарадоў.

Боязь гараджанаў была марнаю, бо Іван Грозны не дайшоў да Тарапца. Абраз і яго копія назаўжды засталіся там...»

Звяртаючыся да цытаванага ўрыўка з працы І. А. Шалінай, можна зрабіць выснову, што гэты абраз Полацкай Божай Маці XVI стагоддзя і ёсць дакладны спісак «па меры і падабенстве», зроблены для Івана Грознага. А каб цар не раскрыў падману, спісак замовілі лепшаму мясцоваму іканапісцу. Такі ўчынак патрабаваў вялікай мужнасці. Жыхары Тарапца шмат чулі пра гнеў, які цар абрушыў на суседнія гарады Твер, Клін, Таржок і Ноўгарад. У летапісах ёсць дакладны час паходаў на непакорныя Ноўгарад і Пскоў. Таму дата стварэння гэтага абраза з вялікай верагоднасцю — студзень-сакавік 1570 года.

Такім чынам, у Корсунска-Багародзіцкай святыні горада Тарапца былі выстаўленыя для пакланення два абразы Полацкай (Эфескай) Багародзіцы: з правага боку ад алтара — абраз XII стагоддзя, з левага боку — XVI стагоддзя. Маліліся перад абразамі да 1921 года, калі новыя ўлады зачынілі святыню, а каштоўнасці і рэліквіі былі канфіскаваныя і страчаныя. Абраз XII стагоддзя трапіў у краязнаўчы музей Тарапца, а пасля ў Рускі музей, а дакладны спісак XVI стагоддзя, ураваны мясцовымі вернікамі, апынуўся на маім працоўным стале.

Так па Божай волі абраз Полацкай Божай Маці XVI стагоддзя трапіў у горад святой Еўфрасінні.

# ПРА «ЗАБЫТЫ ВЕРНІСАЖ», І НЕ ТОЛЬКІ...




Наталля Маліноўская-Франке «Забыты вернісаж. Творчасць мастакоў Гродзеншчыны 1860–1930-х гг.», «Канфіда», Мінск, 2012, серыя «Гарадзенская бібліятэка»

Наталля Маліноўская вырасла ў мяне на вачах. Бог прыслаў яе да добрых продкаў, у добры час, у добрае месца, у дом па вуліцы Цаглянай,10. Яе дзядуля Маліноўскі Міхал Нічыпаравіч, родам з вёскі Ванілевічы на Капыльшчыне, у трыццатыя гады скончыў архітэктурны тэхнікум у Ленінградзе і працаваў архітэктарам у Мінску. У 1939 годзе з архітэктурнай групай быў пасланы ў Беласток, адкуль пайшоў у партызаны. Пасля вайны спыніўся ў Гародні, дзе стварыў «Гроднапраект», спачатку як філіял мінскага, а пасля як самастойную арганізацыю. Кіраваў ім усё жыццё, а выбраў для жыцця прыгожы дом, з вокнаў якога відаць фарны касцёл. У тым доме жыло шмат людзей і яго гаспадары Валюды, але яны выехалі ў Польшчу, іншыя людзі раз'ехаліся, паўміралі, і дом застаўся Маліноўскім.

Продкі Наталлі па маці, Сымон і Агата Амільяновічы, паходзілі з-пад Нягневічаў. Іх дачка Надзя пазнаёмілася з Тодарам Галубовічам у бежанстве ў Казані. Ён працаваў тэхнолагам на заводзе, дзе рабілі бомбы. Пасля бежанства Тодар і Надзя вярнуліся ў вёску Гаркавічы да бацькоў Вінцэнта і Аўхімы. Гэта баярская вёска, — там жылі людзі, якія перавозілі пошту караля. Тодар памёр пасля аперацыі на апендыцыт у Гародні, пакінуўшы Надзю і пяцёра дзяцей. Малодшая дачка Валянціна — гэта бабуля Наташы. Пасля перадзелу межаў і розных пертурбацый Надзя Галубовіч з дзецьмі пабудавала дом у Гародні па вуліцы Збажовай. Надзя Галубовіч была дзелавой гаспадыняй. Усіх дзяцей уладкавала. Валянціна выйшла замуж за вайскоўца Рыгора, чыя частка стаяла пасля вайны ў Гародні. Пры Хрушчове частку расфармавалі. Рыгор уладкаваўся ва ўнівермаг, дзе працавала прадаўцом Валянціна. Бацькі Наталлі пазнаёміліся ва ўніверсітэце: Таццяну пасвячалі ў студэнты, Аляксандр уручаў ёй студэнцкае пасведчанне. Сябравалі. Калі ён скончыў універсітэт, пажаніліся. На чацвёртым курсе ў Таццяны нарадзілася Наташа...

Пасля вучэльні Таццяна працавала ў Гісторыка-археалагічным музеі, Наталля расла пры ёй. Аднойчы ў музей увайшоў мастак Пётра Сергіевіч, які прывёз з Вільні сваю карціну «Кастусь Каліноўскі перад паўстанцамі»... Гэта была знакавая сустрэча!

Бацькі любілі мастацтва, таму аддалі Наталлю ў мастацкі гурток пры Палацы піянераў, якім кіраваў Браніслаў Андрэевіч Шышко. Ён даваў дзецям шырокае выхаванне: запрашаў на заняткі мастакоў, хадзіў з дзецьмі на пленэры. Шасцігадовая Наталля на гарадскім конкурсе атрымала першую прэмію за малюнак «Гадкае качаня». У горадзе ўжо працавала мастацкая школа, але Наталля не хацела пакідаць сваіх сяброў па гуртку, таму яна наведвала і школу, куды яе прынялі па малюнках адразу ў другі клас, і гурток. Сярэднюю школу скончыла з залатым медалём, паступіла на факультэт філалогіі і культуры Гродзенскага ўніверсітэта, дзе гісторыю беларускай культуры чытала яе мама. Наталля вучылася, і яе запрасілі з чацвёртага курса выкладаць у мастацкай школе гісторыю мастацтва. Перарабіла там праграму: на першым курсе выкладала беларускае мастацтва, на другім — сусветнае (рускае ўваходзіла ў яго праграму). Дыпломную працу ва ўніверсітэце абараняла па творчасці Яна Хруцкага. Універсітэт скончыла з чырвоным дыпломам. Магла далей працаваць у мастацкай школе, ды яе пераманілі ў газету «Głos z-nad Niemna». Польскую граматыку Наталля вывучыла ва ўніверсітэце. Дадаткова ўдзельнічала ў семінарах фонда імя Сапегі як перакладчыца з беларускай мовы на польскую і наадварот...

Калі адпачыла ад вучобы і вырашыла, што трэба вучыцца далей, то выбрала мастацтва. Прадстаўляла мастакоў на выставах у галерэі імя Тызенгаўза. Па просьбе сяброў-мастакоў выязджала з выставамі ў Вільню...

Паступіла ў аспірантуру Акадэміі мастацтваў у Мінску на завочнае аддзяленне. У 2006 годзе атрымала стажыроўку па праграме *Caude Polonia* ў Польшчы. Куратарка з Музея сучаснага мастацтва ў Варшаве Ганна Ракоўская пазнаёміла Наталлю з прафесарам Гэленай Стэмпень, якая выдала трохтомнік крыніц Мюнхенскай мастацкай акадэміі «Польскія мастакі ў мюнхенскім асяроддзі ў гадах 1828–1914», што дало значны штуршок у працы над дысертацыяй.

Даследчыца ўсцешылася, што ў канцы яе жыццёвай дарогі з'явілася дзяўчына, якая займаецца вывучэннем мастакоў Мюнхенскай школы, падаравала Наталлі трохтомнік, а першага тома ў аўтаркі не было, то яна аддала пераплеценую карэктуру кнігі з уласнымі праўкамі, з аўтографам.

У Каралеўскай акадэміі ў Мюнхене пасля паўстання не выдавалі палітычных уцекачоў, навучэнцы не лічыліся эмігрантамі, маглі вярнуцца пасля сканчэння на Радзіму, і многія пазней працавалі выкладчыкамі мастацкага факультэта ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні. Гэта яны стваралі падмуркі нацыянальнага мастацтва: Казімір Альхімовіч, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, Альфрэд і Эдвард Ромэры, Ігнацы Карвін-Мілеўскі...

Ва ўсёй Еўропе жанчыны не залічваліся ў класы, вучыліся ў прыватных студыях. Марыя Магдалена Бутаўт-Анджэйковіч з вёскі Баландычы, што каля Гародні, была першай жанчынай з Беларусі, якая атрымала прафесійную мастацкую адукацыю ў Мюнхенскай каралеўскай акадэміі мастацтваў у сямідзясятыя гады XIX ст.

Так Наталля збірала звесткі ў музеях, мастацкіх галерэях, архівах і бібліятэках Варшавы, Кракава, Вільні і Пецербурга, у Нацыянальным музеі Рэспублікі Беларусь.

На прэзентацыі кнігі ў галерэі «Крыга» яна расказала, як трапіла ў Правінцыйны архіў Варшаўскай правінцыі назарэтанак. Галоўная архівістка сказала ёй, што са спадчынай Марыі Гажыч, якая ў манастве насіла імя Паўла, па статуце кляштара — свецкая асоба і працаваць не мае права, але тут жа пачала паказваць альбомы, карціны, фотаздымкі, перапіску, водгукі пра выставы і крытычныя артыкулы пра творы мастачкі. У інтэр'еры касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гародні знаходзяцца абразы Марыі Гажыч «Святы Юзаф-цясляр», «Святы Клеменс», «Святы Пётр», «Маестат Марыі». Вернікі ведаюць гэтыя абразы, ведаюць, дзе пахавана Марыя Гажыч на старых каталіцкіх могілках, ды амаль не ведалі пра мастачку, пакуль не прачыталі ў часопісе «Наша вера», а пасля ў кнізе...

Улетку з мамай Таццянай, дачкой Паўлінай і Яўгенам Шунэйкам Наталля ездзіла па мясцінах мастакоў Гродзеншчыны.

Аб'ехалі родныя мясціны Станіслава Жукоўскага — Ендрыхоўцы, Свіслацкую пушчу, берагі рэчкі Рось, Падароск, маёнтак Марыі Бутаўт-Анджэйковіч Гарнастаевічы, маёнтак Казіміра Альхімовіча Дзембрава, родныя мясціны Марыі Гажыч — Сягенёўшчыну ў Ваўкавыскім раёне... А ў Тапаляны не трапілі, бо яны знаходзяцца на Падляшшы. Без аглядання мясцінаў нельга ўглыбіцца ў душу мастацтва.

Наталля пісала дысертацыю пра мастакоў Гродзеншчыны, але ведала, што ёсць зацікаўленыя людзі, якія пражылі жыццё і мала ведаюць пра мастацтва свайго рэгіёна на сумежжы еўрапейскіх і ўсходніх традыцый. На культуру, і ў ёй на мастацтва, тут уплывалі падзеі гісторыі, найважнейшымі вехамі ў якой былі войны. Наталля зрабіла экскурс у мінулае мастацтва, пачынаючы ад паўстання 1863 года, якое мела ўплыў на ўсе аспекты жыцця.

«...Як еўрапейскія творцы, стомленыя рэалізмам, які перарадзіўся ў натуралізм, шукалі і знаходзілі новыя сімвалы... імпрэсіянізм выклікаў недавер мастакоў з акадэмічнай адукацыяй — яны бачылі недапрацаванасць малюнка, штучнасць, занядбанасць кампазіцыі... інтуіцыя штурхала да ўнутранай рэчаіснасці праз сімвалы...

...Сімвалізм, звязаны з сецэсіяй, ахапіў усе магчымыя сферы жыцця ад дэкаратыўна-прыкладнога да прамысловага дызайну, графічнага афармлення кніг, да архітэктуры, жывапісу, нават сакральнага... лінія доўгая, гнуткая, капрызная, хвалістая, рытмічна неспакойная, як контурная, і плоская пляма з экзатычнымі матывамі флоры і фаўны...»

Аўтарка зрабіла сціслы агляд літаратуры беларускіх даследчыкаў па тэме, вывучала расейскую, нямецкую, літоўскую і польскую літаратуры. Абагульняла тое, што было напісана пры жыцці Станіслава Жукоўскага ў Расіі і ў Польшчы. Вывучала ў Мюнхене творчае жыццё мастакоўскага асяродку Каралеўскай акадэміі мастацтваў, мастацкія групоўкі ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя, ролю Фердынанда Рушчыца на мастацкім факультэце ўніверсітэта ў стварэнні новага пакалення мастакоў у аваловданні класічнай формай, рэалістычнай традыцыяй і чысцінёй малюнка. Вывучала тэчкі і каталогі выставаў з удзелам мастакоў Гродзеншчыны ў музеях і архівах, заходзіла на інтэрсайты еўра-

пейскіх аўкцыёнаў, дзе шырока прадстаўлена мастацтва С. Жукоўскага, М. Гажыч, К. Стаброўскага, С. Богуша-Сестранцэвіча, Л. Дабжынскага, К. Чурылы і іншых, шматлікія публікацыі ў часопісе «Мастацтва» і газетах, аўтарскія альбомы. З кнігі даведваемся пра мецэнатаў і філантропаў, такіх, як граф Ігнацы Корвін-Мілеўскі з Геранёнаў, які з прыватнай калекцыяй твораў мастацтва ладзіў выставы ў Вене.

Станіслаў Жукоўскі ў 1892 годзе паехаў з родавых Ендрыхоўцаў у Маскоўскую вучэльню жывапісу, удзельнічаў там у выставах «перасоўнікаў» і быў «прыпісаны» да расейскіх мастакоў. Калі ж пасяліўся ў 1923 годзе ў Варшаве, выстаўляў свае творы ў «Захэнце», у Салоне Ф. Рыхлінга, быў сябрам мастацкага аб'яднання «Pro Arte», ствараў настальгічныя краявіды родных мясцінаў — тады лічыўся польскім мастаком. Інакш — быў сусветным мастаком.

Запознены рамантызм як стыль і як настрой і як галоўная нацыянальная ідэя ці спрадвечная мара пра незалежную Краіну — увесь час наперадзе. Іх тут як бы і не было. Яны тут узгадаваліся, сюды вярталіся на пленэры і адпачынак, тут іх любілі і чакалі, іх натхнялі людзі і прырода сваіх засценкаў, так праяўляліся іх адметнасць, дух, душа...

Што адчувае паляк, аглядаючы «Зямлю» Фердынанда Рушчыца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве? Што я адчувала, аглядаючы гэтае дзейства, я не магу перадаць словамі, але ёсць слязіна, якая прыходзіць на дапамогу ў такім выпадку...

Наталля злучыла мастакоў з Гродзеншчыны ў адну кнігу, не забірала іх у палякаў, літоўцаў і расейцаў — яны па праве належаць той культуры, у якой працавалі, але іх творчасць зрабіла ўплыў на традыцыі Гродзеншчыны і ўсёй Краіны, таму іх можна называць і беларускімі мастакамі Гродзеншчыны. У гэтым спісе аказаліся вядомыя імёны і імёны, зусім невядомыя. Наталля знайшла новыя творы, шляхі і месцы пошукаў згубленых твораў. Збірала і афармляла дысертацыю 2 гады, а як абаранілася, то і падумала, што гэта можна выдаць як кнігу. Гэтую думку падмацавала мама, якая ўвесь час была побач, хоць жывуць яны цяпер па розныя бакі ад мяжы з Польшчай — Таццяна застаецца ў Гародні, а Наталля спынілася ў Франкфурце-на-Одэры, выйшла замуж...

Мастацтвазнаўца Марына Загідуліна на прэзентацыі кнігі сказала, што гэта кніга патрэбная для зацікаўленых чытачоў, знойдзены новыя імёны і новыя творы. Добра напісаны раздзел пра мюнхенскае асяроддзе. Навуковым кіраўніком дысертацыі быў доктар мастацтвазнаўства Валерый Іванавіч Жук — ён накіроўваў даследчыцу і мог абараніць яе тэкст перад строгімі апанентамі.

Прыдзірлівы чытач заўважыць некаторыя паўтарэнні ў раздзелах. Прадумаць будову кнігі не проста. Калі біяграфіі мастакоў напісаць у паасобных раздзелах, тады цяжэй прасачыць, як хвалі розных стыляў каціліся з Еўропы і з Расіі, сутыкаліся, нагрувашчваліся адна на другую, стваралі новыя стылі. Аўтарка па перыядах знаёміць са стылямі і тэндэнцыямі — ад настраёвай стылізацыі пейзажаў Фердынанда Рушчыца праз класіцызм Людаміра Слядзінскага, рэалізм Кубіцкага, рамантызм Яманта, постмадэрнізм Штурмана да каларызму Несялоўскага... Пра кожнага з гэтых творцаў можна напісаць кнігу.

У асобным раздзеле чытаем пра дзейнасць збіральніка музейных калекцый, гісторыка і краязнаўца, заснавальніка першага ў Гародні дзяржаўнага музея Юзафа Ядкоўскага, які не проста арганізоўваў выставы, але і ствараў умовы, каб таленавітыя мастакі маглі маляваць краявіды горада і яго ваколіцаў. Так, запрошаны сюды Зых Буйноўскі намаляваў цыкл «Старое Гродна», скульптар Рамуальд Зэрых у 1929 годзе стварыў помнік Элізе Ажэшцы.

У канцы кнігі ёсць «Кароткі біяграфічны слоўнік мастакоў Гродзеншчыны (1860—1930)» у алфавітным парадку, які вельмі дапамагае чытачу...

Вокладку кнігі ўпрыгожвае абраз «Святы Губерт» Луцыі Балзукевіч, напісаны ў 1934 годзе ў Вільні (ён знаходзіцца ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Новым Двары). Наталля знайшла яго нечакана, у касцёльных вопісах ён не лічыўся творам мастацтва, і невядома, якім шляхам трапіў у вясковы касцёл... Святы Губерт апякуецца паляўнічымі і нашым горадам. У мінулым дзень святога Губерта адзначалі як свята Гародні — нацыянальная інтэлігенцыя спрабуе аднавіць гэтую традыцыю. На карціне паляўнічы Губерт з сабакамі кленчыць перад аленем, між рагамі якога ззяе залаты крыж. Алень з крыжам стаў гербам Гародні. Пра сустрэчу з гэтым цудоўным аленем мараць беларускія дзеці...

Цешыць той факт, што моладзь выязджае ў свет шукаць сваёй долі, але не парывае сувязі з роднай культурай і памнажае яе здабыткі. Адзін зацікаўлены гродзенскі чытач, па прафесіі мастак, настойліва шукаў кнігу Наталлі Маліноўскай «Забыты вернісаж» — яна ў кнігарнях не прадаецца, — а як знайшоў, прачытаў і аўтарытэтна заявіў, што гэта добрая кніга.

*Данута Бічэль,*
*Гродна*

